ЯК ЗАГІНУЛА ЛІТОЎСКАЯ МАСАДА

ШЛЯХЕЦКІ ДОМ

# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

№ 8(37) — 2021

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

КІТАЙ
ЭПОХІ СІ

ПАЎСТАГОДДЗЯ
З КЛЯЙМОМ
ЗДРАДНІКА

## ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН
## ШЧАСЛІВЫ ВЫБАР

16+

## Ад рэдакцыі

Твар гэтага нумара — паэт, дыпламат і дзяржаўны дзеяч Генадзь Бураўкін.

Пакаленне Бураўкіна — гэта тая генерацыя беларускай інтэлігенцыі, прадстаўнікі якой у жудасныя трыццатыя і саракавыя гады ці толькі нарадзіліся, ці былі яшчэ дзецьмі. Адпаведна, на іх не вісела таўро асабістай маральнай, а часам і не толькі, адказнасці ды пачуцця віны за жахі Вялікага тэрору, характэрнае для іх больш сталых калегаў. Але ў той жа час яны ведалі, што такое рэпрэсіі і вайна, і разумелі цану міру і спакойнай працы.

Фізічнае сталенне пакалення Бураўкіна прыпала ўжо на заключны перыяд эпохі сталінізму. А найбольш плённую частку свайго жыцця гэтыя людзі мелі магчымасць пражыць у сітуацыі, калі савецкая сістэма, нягледзячы на тое, што заставалася ў сваёй аснове недэмакратычнай, неплюралістычнай і закрытай, усё ж такі трымалася пэўных правілаў і законаў. Разумеючы якія і не выходзячы за пэўныя рамкі, можна было не толькі адчуваць сябе ў бяспецы, але і рабіць кар'еру без пастаяннай пагрозы арышту і фізічнай расправы.

Зададзеныя сістэмай рамкі былі не празмерна шырокія, таму знаходжанне ў ёй змушала да разнастайных кампрамісаў і нават здзелак з сумленнем. Але ўсё ж не да такой ступені, каб абавязкова прыносіць у ахвяру базавыя чалавечыя і нацыянальныя каштоўнасці.

Асабліва супярэчлівымі ў ідэалагічным плане ў БССР былі канец 1970-х і 1980-я гады. З аднаго боку, у апошнія гады кіравання рэспублікай Пятром Машэравым, а пасля і пры ягоных наступніках ключавыя ідэалагічныя пасады ў ЦК КПБ займалі артадоксы, якія слепа праводзілі ў жыццё палітыку Масквы, што сярод іншага прадугледжвала і русіфікацыю нацыянальных рэспублік. Постаці такога кшталту — загадчык аддзела культуры ЦК Іван Антановіч і загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Савелій Паўлаў. Але ў той жа час, як бы ў супрацьвагу ім, на адказныя пасады прабіваліся і людзі з нацыянальным мысленнем: Валянцін Болтач, Сяргей Законнікаў, Міхась Дубянецкі, Генадзь Бураўкін... Гэтыя людзі праводзілі ў рамках той сістэмы штодзённую працу, якая пасля зрабіла магчымым беларускае нацыянальнае адраджэнне.

Пра Генадзя Бураўкіна і ягоны час у гэтым нумары «Нашай гісторыі» (старонкі 4–17) піша Сяргей Шапран.

**Наша Гісторыя**
8/2021
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921
ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Валянціна Андрэева

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — юнак Генадзь Бураўкін. Фота з сямейнага архіва.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001
у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск,
вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск,
вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефон:** +375 (33) 311-28-43

**E-mail:** kramanasha@gmail.com

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 30.08.2021.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0858.
Наклад 3200.

Надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Мажайскі паліграфічны камбінат», вул. Міру, д. 93, 143200, г. Мажайск Маскоўская вобл., Расійская Федэрацыя
www.oaompk.ru, тэл. +7-495-748-04-67

















Тэлефон для кантакта ____________________

Нумар рахунку (чэка, квітанцыі аб аплаце) ____________________

____________________

Даслаць на адрас 220004, Мінск, а/с 62 .




86


44


4


50










66


36




# Генадзь Бураўкін

## Шчаслівы выбар

**Называйце гэта доляй, выпадкам ці провідам. Захварэўшы на туберкулёз — ён знайшоў жонку. Зблізіўшыся з Машэравым — зрабіў кар'еру. Страціўшы пасаду — збярог гонар. А дзякуючы выбару яго кіраўніком тэлерадыё Беларусь атрымала беларускае тэлебачанне. За гэтым, здавалася б, роўным і паспяховым жыццём хавалася шмат рознага. Парадаксальна, але ў жыцці Генадзю Бураўкіну дапамагала яго ўменне казаць «не», піша Сяргей Шапран.**

Студэнтам ён ледзь не памёр ад сухотаў, на якія захварэў на 5-м курсе. За тры месяцы, пакуль Генадзь Бураўкін ляжаў у бальніцы, з трох дзясяткаў ягоных суседзяў з палаты вынеслі цэлы семярых. «Дзяўчынка, калі хочаш мецъ мужа, то павінна добра яго карміць, апранаць і даглядаць», — казаў доктар будучай жонцы Бураўкіна Юліі Жадан, хоць яна таксама была студэнткай і яшчэ не думала пра замужжа. Але не змагла кінуць хлопца ў бядзе і была адзіная, хто штодня наведваў хворага студэнта. Калі ён папраўіўся, яна супраць волі маці выйшла замуж. Бураўкін ужо тады быў цікавай асобай і вылучаўся сярод іншых: шмат чытаў і быў паэтам, але галоўнае — гарэў беларускай ідэяй. Гэта прываблівала яе, украінку, хоць ёй гэта было абсалютна незнаёма...

Яны пражылі разам 55 гадоў. Ён адмыслова прысвяціў ёй усяго адзін верш — славутыя «Юнацтва сінія арэлі», але яе вобраз прысутнічае ў безлічы іншых.

### Уцёк. Але толькі аднойчы

Пакаленне Бураўкіна ў літаратуры называлі філалагічным. Калі папярэднікі часта былі самавукі (як Купала), пасля —

рабфакаўцы (як арляняты 1920-х), то ў гады хрушчоўскай адлігі пісьменнікаў стаў прадукаваць філфак. Адначасова з Бураўкіным у літаратуру прыйшлі Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Уладзімір Караткевіч, Іван Пташнікаў, Міхась Стральцоў, Іван Чыгрынаў...

Хоць лёс Генадзя Бураўкіна мог скласціся інačай: пасля заканчэння ўніверсітэта ён атрымаў размеркаванне ў Віцебск, але жонка вучылася на 3-м курсе, да таго ж трэба было праходзіць медыцынскія працэдуры (наступствы сухотаў), і ён працаўладкаваўся стыль-рэдактарам беларускіх тэкстаў у часопісе «Камуніст Беларусі». Неўзабаве яго спакусіла літрэдакцыя Беларускага радыё, затым запрасіў у «Літаратуру і мастацтва» галоўны рэдактар Нічыпар Пашкевіч. Тут ужо можна было займацца тым, што было найбольш па душы, — літаратурай. Да таго ж была абяцаная кватэра. У Савецкім Саюзе жыллё немагчыма было купіць і мала хто мог пабудаваць за грошы — калі Бураўкін быў малады, будаўніцтва так званых каапертыўных кватэр толькі пачыналася. Звычайна кватэры размяркоўвалі па месцах працы. Прэстыжнымі былі толькі прадпрыемствы ці асяродкі, дзе кватэры давалі раней. У гэтым сэнсе ўдзельнікі творчых саюзаў знаходзіліся ў прывілеяваным становішчы. Аднак неабходнасць атрымаць жытло прывязвала чалавека да інстытуцый.

Бураўкін з маладосці быў энергічны і яршысты. Так характарызавалі яго сябры. Гэтаксама казаў і Пятрусь Броўка, пазнаёміўшыся з ягоным бацькам: «Добры ў цябе бацька, Генадзь, неспакойны і нераўнадушны. Вось цяпер я зразумеў цябе, і гарачнасць, і задзірыстасць тваю зразумеў. Гэта ў цябе ад бацькі».

Броўка гаварыў так у часе сумеснай вандроўкі на Полаччыну, якая стала своеасаблівым актам



ФОТА УЛАДЗІМІРА КРУКА

**Стары, утомлены жыццём Якуб Колас (сядзіць у цэнтры)** з маладымі пісьменнікамі. Генадзь Бураўкін, зусім юны, у заднім шэрагу трохі правей ад цэнтра. Ужо тады ў ім была асаблівая сур'ёзнасць.

**Генадзь Бураўкін** (1936–2014) нарадзіўся ў вёсцы Шуляціна (цяпер Тродавічы) Расонскага раёна Віцебскай вобласці. Як сам адзначаў у адным з вершаў, «наша доля на радасць была небагатай. Мы раслі сярод горкіх ваенных атаў*».

У 1959 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі філфака БДУ. Працаваў у «ЛіМе», быў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць». У 1978–1990 гадах — старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні, у 1990–1994-м — пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН. Па вяртанні ў Беларусь быў намеснікам міністра культуры і друку, затым дарадцам віцэ-прэм'ера. У 1995–2001 гадах — усяго толькі намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вожык».

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, Ленінскага камсамолу Беларусі і літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча.

Вершы пісаў са школьных гадоў, выдаў тры дзясяткі паэтычных кніг. У 1990-я і 2000-я браў актыўны ўдзел у незалежных грамадскіх арганізацыях, у тым ліку ўзначальваў ТБМ. У 2000-м разам з Рыгорам Барадуліным, Радзімам Гарэцкім і Анатолем Грыцкевічам быў сустаршынёй Усебеларускага з'езда за незалежнасць.

прымірэння. Справа ў тым, што ў 1966 годзе маладыя літаратары — і Бураўкін у першых шэрагах — дамагліся адстаўкі Броўкі з пасады старшыні Саюза пісьменнікаў. «Яшчэ не забыліся баталіі бурнага пятага з'езда пісьменнікаў рэспублікі, дзе мы, маладзейшыя, з юначым максімалізмам і бескампраміснай рашучасцю ваявалі супроць літаратурнага бюракратызму і залішняй асцярожнасці, за грамадзянскую смеласць ▸

* **Атава** — трава другога, восеньскага ўкосу.

▶ ва ўсім, — прыгадваў Бураўкін. — Неяк само сабою атрымалася (а можа, той-сёй з тагачасных хітрых нашых дарадцаў і дапамог гэтаму), што ўвасабленнем ці, ва ўсякім разе, абаронцам усяго старога, “несучаснага” стаў для нас перш за ўсё кіраўнік пісьменніцкага саюза, удастоены ўсіх магчымых узнагарод і званняў, упэўнены і дзелавіты Пятрусь Усцінавіч. Супроць яго пасыпаліся нашы самыя адточаныя стрэлы, супроць яго прагаласавалі многія з нас. Вядома, тады па сваёй мілай недасведчанасці мы не маглі ведаць, які гэта няпросты хлеб — кіраўніцтва творчай арганізацыяй, не маглі нават здагадвацца, як цяжка ў гэтай “скуры” быць абсалютна аб’ектыўным, як многа значаць пры гэтым не толькі талент, аўтарытэт, характар, а і дысцыпліна, а то і неабходнасць. Мы хацелі праўды і справядлівасці ў чыстым выглядзе, без скідак на складанасць часу, без дыпламатыі і нейкіх адступленняў. Як і ўсе маладыя (і дзякуй за гэта маладосці!), мы былі непапраўнымі ідэалістамі і патрабавалі ад старэйшых больш, чым ад сябе».

Спачатку Броўка, вядома, укрыўдаваў, а потым нават быў удзячны, бо не сядзеў у пісьменніцкім саюзе, а рабіў першую ў беларускай гісторыі энцыклапедыю. Так і адбылося прымірэнне мудрага Петруся Усцінавіча і няўрымслівага Генадзя Бураўкіна...

## «Як і ўсе маладыя, мы патрабавалі ад старэйшых больш, чым ад сябе»

Гэта ўвогуле было яго адметнай рысай: Бураўкін быў шчырым у ацэнцы ўласных учынкаў і часам публічна прызнаваўся ў тым, у чым іншы схітраваў бы або змаўчаў. Як, напрыклад, у гісторыі з Броўкавай адстаўкай. Альбо разам з Барадуліным, Быкавым, Вярцінскім і Гілевічам падпісаў ліст супраць беларускай эміграцыі.

Калі неяк запытаўся пра гісторыю з’яўлення бураўкінскага подпісу пад гэтым калектыўным лістом, Генадзь Мікалаевіч сказаў: «Гісторыі судзіць, што мы зрабілі сумленна, а дзе аказаліся сагітаванымі афіцыйнымі прапагандыстамі. Калі пасля я трапіў у Амерыку і пазнаёміўся з эмігрантамі бліжэй, толькі тады даведаўся, які няпросты быў іхні лёс. Многія з нашых былых суайчыннікаў не бралі ўдзелу ў карных акцыях, былі настаўнікамі ў школах ці працавалі ў бухгалтэрыях ці

### «Не называйцеся беларусамі»

У лісце, які быў напісаны зусім не ягонымі «аўтарамі», а ў ЦК КПБ, бічавалі пісьменнікаў-эмігрантаў і радыё «Свабода», абвінавачвалі іх у калабарацыі ў часе вайны. «Не называйцеся беларусамі: вы гэтага не заслужылі, — гэтак заканчваўся той ліст. — Не спадзявайцеся на наша разуменне ці падтрымку: нам з вамі не па дарозе».

### «Ты мне родная самая, па душы, па крыві»

Маці Генадзя Бураўкіна, Феадосія Ягораўна, пражыла 100 гадоў і памерла ў сакавіку 2014 года, усяго за два месяцы да смерці сына.

Генадзь Мікалаевіч вельмі яе любіў і прысвячаў ёй вершы, на аснове аднаго з якіх спявак Зміцер Вайцюшкевіч стварыў песню «Дачакайся, матуля»:

«Ты мне родная самая.
Па душы, па крыві.
Ты жыві, мая мама,
Доўга, доўга жыві».





З ХАТНЯГА АРХІВА РЫГОРА БАРАДУЛІНА

Злева направа: **Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін.**



**Расонскі раён, дзе нарадзіўся Генадзь Бураўкін**, — гэта беларуская Сібір. Лясы і лясы. Тут самая малая шчыльнасць насельніцтва. Красны Бор у Расонскім раёне. Фота Віктара Малышчыца.

канцылярыях, зараблялі сабе і сям'і на кавалак хлеба, каб выжыць, крыві на іх руках не было. І яшчэ — яны сапраўды хацелі вольнай Беларусі. Даведаўшыся пра тое, я зразумеў, наколькі крыўдным быў той ліст для іх...» Між іншым, калі надышоў час вярнуцца з ЗША дадому, Бураўкіну было прапанавана ўзначаліць эміграцкі рух — ва ўсялякім выпадку, так сцвярджалі чуткі.

Ці шчыры аповед Генадзя Бураўкіна пра тое, як студэнтам ён прыехаў на журналісцкую практыку ў Оршу, дзе ў газеце «Ленінскі прызыў» якраз у той час з'явіўся артыкул супраць Уладзіміра Караткевіча — гэтак па-партыйнаму павыхоўваць маладую мясцовую зорку вырашылі рэдактар Васіль Калібераў і былы партызан Леанід Высоцкі. Апошні прапанаваў Бураўкіну напісаць «ад імя літаратурнай моладзі» матэрыял у падтрымку крытыкі. «І я паспешліва і спалохана ўцёк з Оршы, як гэта ні сумна прызнаваць, — шчыра згадваў Генадзь Мікалаевіч. — У мяне не хапіла мужнасці сказаць усё, што думаў, ні строгаму рэдактару, ні заслужанаму ветэрану, якія так добра да гэтага ставіліся да мяне і далі магчымасць за час практыкі зарабіць на новы касцюм і чаравікі. Я не мог здрадзіць сябру, якога шчыра палюбіў...»

Гісторыя гэтая адбылася ў 1957 годзе. Да гонару Бураўкіна, больш ён ніколі не «ўцякаў». І, заступаючыся за іншых, часам рызыкаваў не толькі кар'ерай, але і ўласным лёсам.

### «Мы такога ў 1937-м не зрабілі»

Пачатак 1966 года. Апублікавана аповесць Васіля Быкава «Мёртвым не баліць». Хутка аўтара будуць шальмаваць «ад Масквы да самых да ўскраін», але адзін з першых залпаў дадуць свае — газета «Советская Белоруссия» артыкулам пад красамоўнай назвай «Вопреки правде жизни». Абураныя несправядлівай крытыкай, маладыя паэты Генадзь Бураўкін і Анатоль Вярцінскі пішуць у ЦК КПБ ліст-пратэст і збіраюць пад ім подпісы больш чым паўсотні літаратараў, у тым ліку першых беларускіх пісьменнікаў, якія ў той час успрымаліся не іначай, як жывыя класікі: Янкі Брыля, Аркадзя Куляшова, Івана Мележа, Максіма Танка. «Хлопцы, вы малайцы! — пахваліў сяброў стары Міхась Лынькоў, народны пісьменнік, ардэнаносец і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа. — Мы такога ў 1937 годзе не зрабілі».

У СССР не любілі публічных пратэстаў, тым больш калектыўных. Каб прадухіліць «ідэалагічную дыверсію», Бураўкіна выклікаў сакратар ЦК Станіслаў Пілатовіч. Юлія Якаўлеўна згадвала, што, калі праводзіла яго, думала, што




**Пісьменнікі і Пятро Машэраў.** Перад сабой кіраўнік Беларусі паставіў аўтара «Міколкі-паравоза» **Міхася Лынькова**. Першы справа ў першым шэрагу — **Максім Танк**. Каля яго — злева стваральнік харавой капэлы **Рыгор Шырма**. Злева ад Машэрава — **Іван Шамякін** (чытайце пра яго ў «Нашай гісторыі» №3/2018). За ім далей у гэтым шэрагу — **Васіль Вітка** (чытайце пра яго ў «Нашай гісторыі» №7/2021). За Машэравым — аўтар «Людзей на балоце» **Іван Мележ** (№1/2021). Каля яго справа — **Пімен Панчанка**, аўтар «Мала сказаць — ненавіджу…». За Віткай — **Васіль Быкаў** (№4/2018), яшчэ такі малады. А **Генадзь Бураўкін** — другі злева ў другім шэрагу, у сваіх цёмных акулярах.

## Кампрамісы ўлады і інтэлігенцыі

Машэраву ўдасца сплавіць Пілатовіча паслом СССР у Польшчу толькі праз тры гады, у 1971-м. Пілатовіч вернецца ў Мінск з дыпламатычнай службы ў 1978-м, але ўжо не ў ЦК, а намеснікам кіраўніка Саўміна, па тых часах гэта было значнае паніжэнне. Нават плошча кватэр у саўмінаўскіх дамах была ніжэйшая, чым у цэкоўскіх.

Тым часам на змену Пілатовічу ідэалогіяй кіраваць Машэраў вылучыў ліберала, былога лётчыка-франтавіка Аляксандра Кузьміна. Гэты чалавек з Быкавым не ваяваў, а сябраваў. Увогуле, ён дзейнічаў пернікам, а не бізуном. Яго тактыка давала плён. У БССР гэтага перыяду крытычна настроеная інтэлігенцыя не пераходзіла ў дысідэнцтва, а знаходзіла нішу для кампраміснай культурнай работы. Не толькі нацыянал-камуністы, як Бураўкін, але і перакананыя антыкамуністы, як Пазняк, мелі магчымасць працаваць. Нават большасць удзельнікаў «Акадэмічнага асяродку», разгромленага савецкім КГБ у 1974–1975 гадах, Кузьмін і намесніца кіраўніка ўрада Валянціна Сняжкова на працягу года ўладкавалі ў розныя ўстановы. Для таго перыяду тыповым было супрацоўніцтва, а не канфрантацыя. У такіх умовах фарміравалася беларуская культура — і палітычная культура — у познесавецкі перыяд.

▸ развітваецца калі не назаўсёды, дык на гады…

І сапраўды, іх імёны фігуравалі ў дакладной старшыні КГБ СССР Уладзіміра Сямічаснага на імя ўсясільнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Суслава: «Некаторыя беларускія пісьменнікі адкрыта сталі на абарону В. Быкава, лічачы, што газета “Советская Белоруссия” выступіла неаб’ектыўна. Загадчык аддзела газеты “Літаратура і мастацтва”, член КПСС пісьменнік Г. Бураўкін заявіў: «“Советская Белоруссия” перакрэсліла творчасць В. Быкава і выклікала адваротную рэакцыю сярод пісьменнікаў. Адбываецца здзек. Пасля выступу газеты складваецца ўражанне, што В. Быкава судзяць як на працэсе”».

Але, на дзіва, наступстваў для Бураўкіна не было. Калі не лічыць, што ў Саюзе

пісьменнікаў адбыўся партыйны сход, на якім яго павінны былі выключыць з КПСС, аднак пісьменнікі — нават тыя, з якімі Бураўкін знаходзіўся не ў самых добрых адносінах, — усталі на яго абарону. Ды яшчэ праз два гады пры вылучэнні на пасаду карэспандэнта «Праўды» Пілатовіч напісаў на імя генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Брэжнева ліст, у якім заявіў, што Пятро Машэраў дапускае грубую палітычную памылку, падтрымліваючы нацыяналіста.

Камуністычныя кіраўнікі бывалі розныя.

### Уратаваў Купалаўскі

На сумоўі ў галоўнай газеце СССР Бураўкін шчыра сказаў, што Быкаў — ягоны сябар, крытыкаваць яго, вядома, можна, але не так, як гэта рабілася. І гэта спадабалася галоўнаму рэдактару, беларусу Міхаілу Зімяніну. Аднак у час другой сустрэчы Зімянін быў ужо спахмурнелы: хоць Брэжнеў падпісаў рашэнне аб


БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

прызначэнні, але якраз прыйшоў ліст Пілатовіча, у якім Бураўкін абвінавачваўся ў нацыяналізме і ідэалагічнай гніласці. «Калі за цябе паручыцца асабіста Машэраў, тады выкінем кляўзу ў кош», — казаў галоўны рэдактар «Праўды» і тут жа патэлефанаваў у Мінск. Потым усміхнуўся: «Тваё шчасце — Пятро Міронавіч за цябе паручыўся».

Што ж датычыць Бураўкіна і «Праўды», то тут, на старонках галоўнага савецкага афіцыёзу, ён пісаў, сярод іншага, пра апальнага Васіля Быкава, апроч таго, надрукаваў артыкул маладога мастацтвазнаўцы Зянона Пазняка пра руйнаванне Нямігі: паводле задумы аўтараў забудовы сталіцы, Стары горад — пачынаючы ад Траецкага прадмесця, Верхняга горада і Ракаўскага прадмесця — ішоў пад знос. «Тады я з Бураўкіным якраз і пазнаёміўся, — прыгадваў Пазняк. — Ён быў цалкам на маім баку, але кажа, што як для “Праўды”, то артыкул напісаны зарэзка. Трэба трохі скараціць і нешта згладзіць. Інакш не ўдасца, а артыкул патрэбны: мусім бараніць Менск. Я адразу ўбачыў, што ў гэтай справе мы аднадумцы, і пагадзіўся, каб ён сам, як рэдактар, тыя скароты і зрабіў. Генадзь яшчэ чамусьці пачаў апраўдвацца, што ён не цэнзар і не баязлівец, але трэба падысці так, каб надрукаваць і каб стрэліла».

## «Ці была я **шчаслівая** з Генадзем? Дасюль не ведаю адказу на гэтае пытанне»

Публікацыя сапраўды «стрэліла», і ўдалося ўратаваць будынак Купалаўскага тэатра. Было спыненае і разбурэнне Старога горада, праўда, часова. Часова пабыў карэспандэнтам «Праўды» і Бураўкін — у 1972-м ён узначаліў часопіс «Маладосць». Хадзілі чуткі, што гэта абураны артыкулам у абарону Старога горада Машэраў пакараў яго, але прычына была іншай: Масква пачала спакушаць Бураўкіна пасадай уласнага карэспандэнта «Праўды» ў якой-небудзь заходняй краіне ▸


З СЯМЕЙНАГА АРХІВА БУРАЎКІНЫХ

Пазнаяце жанчыну, што стаіць другая справа? **Гэта маладая Элеанора Язерская**, будучая свецкая львіца Беларускага тэлебачання. Побач з ёй — кампазітар Сяргей Картэс. А побач з Бураўкіным, справа — ягоная жонка Юлія.

(пасады з валютнымі зарплатамі тады вельмі цаніліся, яны забяспечвалі высокі ўзровень жыцця), і, каб затрымаць яго ў Беларусі, Машэраў аддаў яму «Маладосць» — часопіс, які з'явіўся на свет у бытнасць Машэрава першым сакратаром ЦК ЛКСМБ.

Між іншым, у Бураўкіна была іншая спакуса — стаць на чале беларускага камсамолу. Але ягоная жонка трываць не магла, па яе словах, «камсамальчыкаў». «Калі будзеш разам з імі — я з табой развядуся», — казала яна і прызналася ўжо праз гады: «Ці была я шчаслівая з Генадзем? Дасюль не ведаю адказу на гэтае пытанне. Усё-ткі нашае жыццё было доўгае і такое разнастайнае... У ім было ўсё: і добрае, і кепскае, і радаснае, і горкае, шчаслівае і не. Мы ж не анёлы абое былі... Адзінае, што я вельмі рада, што ў нас такія дзеці — дачка Святлана і сын Аляксей. Яны цалкам падзялялі і падзяляюць нашы думкі і пачуцці. У гэтым сэнсе я насамрэч шчаслівая. А калі жанчына шчаслівая ў дзецях, значыць, яна ўвогуле шчаслівая, ці не так?.. Шчасце — гэта крыху дзіўнае паняцце... Усё ж больш як пяцьдзясят гадоў пражыта разам, і не магу сказаць, што гэта былі бясхмарныя гады. Колькі я пераплакала... А пасля прачытаеш ягоны верш... Я даравала яму ўсё за яго паэзію...

Наогул, для Генадзя праз усё жыццё на першым месцы была нават не праца, а літаратура. Калі пабудаваць градацыю важных для яго паняццяў, дык яна будзе наступнай: літаратура і сябры-літаратары, праца і ўжо потым ішла сям'я...»

### «Усяго на тры гады»

У бытнасць Бураўкіна рэдактарам «Маладосці» пад вокладкай з фірмовай валошкай па-ранейшаму друкаваліся Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч, тут жа ўпершыню з'явілася знакамітая кніга Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка «Я з вогненнай вёскі...», якую адмовілася друкаваць «Полымя» і якую Машэраў прызнаў толькі пасля таго, як станоўчы водгук далі аўтарытэтныя ў СССР пісьменнікі Канстанцін Сіманаў і Чынгіз Айтматаў. «Дзякуй табе, Генадзь, — казаў першы сакратар ЦК Бураўкіну. — Каб не ты, гэтай кнігі не было б».

Зрэшты, і ў «Маладосці» ён прабыў нядоўга — у 1978 годзе Машэраў прапанаваў яму іншую пасаду. Ніл Гілевіч запісаў у гэтыя дні ў дзённіку, маючы на ўвазе Бураўкіна: «Аказваецца, ён тры гадзіны гутарыў з Машэравым. У выніку — амаль даў згоду стаць міністрам радыё і тэлебачання (дэпутат, член ЦК, урадавая дача і г. д.). Я — падтрымаў. Пара, даўно пара Генадзю выходзіць на



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА БУРАЎКІНЫХ

**Генадзь Бураўкін** высока ацэньваў кіраўніка савецкай Беларусі ў 1965–1980 гадах **Пятра Машэрава (злева).**

**Генадзь Бураўкін высока ацэньваў кіраўніка савецкай Беларусі ў 1965–1980 гадах Пятра Машэрава.**
Высокай думкі пра Машэрава былі і іншыя тагачасныя прадстаўнікі інтэлігенцыі, якія працавалі ў ЦК, — Алесь Петрашкевіч, Сяргей Законнікаў. У той жа час Зянон Пазняк быў пра Машэрава нізкай думкі, лічыў яго русіфікатарам, хоць высока ацэньваў Кірыла Мазурава, які кіраваў Беларуссю ў 1956–1965 гадах. Негатыўныя ацэнкі Машэрава ўтрымліваюць і мемуары маскоўскіх лібералаў таго перыяду — напрыклад, высокапастаўленых апаратчыкаў ЦК КПСС Анатоля Чарняева і Георгія Шахназарава. Яны апісваюць падхалімства і адсутнасць уласнай пазіцыі на партыйных пленумах, адносячы Машэрава да рэакцыйнага крыла партыйнага апарата.
Як можна патлумачыць такое разыходжанне думак? Магчыма, Машэраў па-рознаму паводзіў сябе ў Маскве і ў Мінску. Як і многія не толькі дзяржаўныя, але і культурныя дзеячы з нацыянальных ускраін імперыі, якія лічылі немагчымым ніякае адхіленне ад «лініі партыі» і перастрахоўваліся нават у дробязі. Рэпрэсіі ў Беларусі 1930-х былі асабліва жорсткія, пад іх патрапіў і бацька Машэрава. Памяць пра тыя крывавыя гады дамоклавым мячом вісела над савецкімі беларусамі.

аператыўны прастор! І атрымае незалежнасць, і адарвецца ад карыта і парсюкоў у СП!»

**«Я не магу падтрымаць цябе ў справе беларушчыны афіцыйна з трыбуны, бо мяне тут жа здымуць, але ты рабі справу», — казаў Машэраў Бураўкіну**




**Шарж Кастуся Куксо** на Генадзя Бураўкіна.

«Я не магу падтрымаць цябе ў справе беларушчыны афіцыйна з трыбуны, бо мяне тут жа здымуць, але ты рабі справу», — даводзіў Машэраў Бураўкіну, які не хацеў ісці ў Дзяржтэлерадыё. Вырашальным жа аргументам стала «ўсяго на тры гады». І ён пагадзіўся. Гаварыў, што памятаў пра падтрымку Машэрава пры прызначэнні ў «Праўду» і не мог быць няўдзячным.

Гэта таксама было яго адметнай рысай — удзячнасць.

### Ультыматум

Святлана Алексіевіч згадвала, як упершыню ўбачыла Бураўкіна. Ёй тады адмовілі ў здымках нарыса пра вясковых жанчын, і па падтрымку яна прыйшла да старшыні Дзяржтэлерадыё. «Дасюль памятаю тую дыстанцыю, якую трымаў Бураўкін, калі толькі ўвайшла ў кабінет, — прыгадвала Алексіевіч. — Аднак калі пачала гаварыць, зразумела, што паміж намі ўсталявалася сувязь, што мы апынуліся на адной хвалі. Праз пяць хвілін я, абсалютная дзяўчынка, якая толькі-толькі скончыла журфак, была ў гасцях у паэта... Бураўкін быў не трывіяльным чыноўнікам — ён быў чыноўнік-паэт».

Ён працаваў па 12–14 гадзін у дзень, амаль без выхадных і ўжо недзе праз год, па словах Юліі Якаўлеўны, стаў прафесіяналам тэлевізійнай справы. Хоць на тэлебачанні не ўсе былі той жа думкі — лічылі, што, даўшы дарогу ў эфір «нацыянальна свядомым», Бураўкін прынёс у ахвяру якраз той самы тэлевізійны прафесіяналізм...

Так ці інакш, але менавіта пры ім Беларускае тэлебачанне стала, як казаў Рыгор Барадулін, беларускім. У неспрыяльных умовах ён рабіў тэлебачанне нацыянальным, наколькі тое было магчыма ў рамках той сістэмы.

Між тым, толькі сам чыноўнік-паэт Бураўкін ведаў сапраўдную цану гэтаму. Хмары сабраліся над яго галавой, калі адбыўся пераход на самастойную беларускую праграму.

Беларусь стварала свой мясцовы тэлеканал апошняй з саюзных рэспублік. Бураўкін для гэтага заручыўся падтрымкай Машэрава. Праца ішла поўным ходам, і тут Машэраў гіне ў аўтакатастрофе. Над беларускім тэлевяшчаннем павіс пытальнік...

Як прыгадваў куратар тэлебачання ў Цэнтральным камітэце кампартыі Валянцін Болтач (таксама паэт, які друкаваўся пад псеўданімам Валянцін Блакіт), на чацвёрты дзень пасля выхаду беларускай тэлепраграмы на ЦК абрынуўся літаральна вал пратэстаў. Найбольш — супраць пераносу перадачы «Спакойнай ночи, малыши». На думку незадаволеных (а гэта былі ▸



**Стыль Бураўкіна**

«Памятаю скураны чорны пінжак, вельмі модны ў 1970–1980-я. Любіў вадалазкі і, зразумела, берэты, якія тады насілі многія творчыя людзі. На працу, канечне, надзяваў касцюм, гальштук. Меў і “дыпламат”, — кажа дачка Генадзя Бураўкіна Святлана. Дыпламат (па-англійску *briefcase*, або *attaché case*) — гэта такі невялічкі плоскі чамаданчык з прамымі вугламі, які быў вельмі папулярны сярод мужчын у 1970–1980-я.




**Крыжоўка, месца сілы і спакою**, моцна змянілася за апошняе дзесяцігоддзе. Але горы і сосны тут тыя самыя, якія Бураўкін так любіў.

вакуум: ён прыходзіў на працу, але ніхто яму не тэлефанаваў і не заходзіў...

**Бураўкін гаварыў, што ягоныя пасады скралі ў яго больш за дзясятак кніг**

найперш жонкі вайскоўцаў з ваенных гарадкоў), «Калыханка» з Дзедам-Барадзедам не ішла ні ў якое параўнанне з Хрушам і Сцяпашкам. Жалезабетонных поглядаў загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ Савелій Паўлаў, які ўсімі фібрамі душы ненавідзеў Бураўкіна, не хаваў радасці: «Дагуляліся! Пасля абеду збіраецца бюро, і ўсе вашыя эксперыменты будуць пахераныя. Тэрмінова адкручвайце назад!»

І сапраўды, у той жа дзень сакратар ЦК Аляксандр Кузьмін працягнуў Бураўкіну праект пастановы Бюро ЦК КПБ, паводле якога ад заўтра вяртаўся былы фармат вяшчання. «Візіраваць не буду і даваць каманду паварочваць назад — таксама, — катэгарычна адказаў Бураўкін і дадаў: — Тут патрэбен яшчэ адзін пункт: вызваліць таварыша Бураўкіна ад займанай пасады. Я не хачу браць на сябе адказнасць за гэтую ганебную справу».

У чорным целе Бураўкіна — члена ЦК, дэпутата і старшыню Дзяржтэлерадыё — трымалі больш за месяц. Вакол яго ўтварыўся

Бюро ЦК на чале з першым сакратаром Ціханам Кісялёвым сабралася ўжо без Бураўкіна. Усе былі адкрыта незадаволеныя ім: бач ты, надумаў ставіць ультыматумы! Але ўступіўся Кісялёў: «Вызваліць, тым больш выключыць з партыі заўсёды паспеем. Магчыма, ён ведае нешта такое, чаго мы не ведаем? — І звярнуўся да прысутных: — Хто з вас дзеля прынцыпу здольны паставіць на кон сваю пасаду, кар'еру, членства ў партыі, устаньце ці падыміце руку». Ніхто не варухнуўся.

## Застоллі 1980-х

«Застоллі былі часта, на кожнае свята дакладна, — расказвае Святлана Бураўкіна. — За сталом, як правіла, збіралася больш за 10 чалавек. Абавязкова на стале бульба. А таксама салаты, сухая каўбаса, запечанае мяса. На такія выпадкі ў мамы заўсёды ў халадзільніку была чырвоная ікра, ласось у кансервах для салаты. На стол выкладвалася ўсё самае лепшае, што было і што ўдавалася дастаць у эпоху дэфіцыту. Мама добра гатавала і ўмела прымаць гасцей. А як за сталом спявалі! Бацька вельмі добра спяваў, ведаў многа народных песень. Памятаю, **як прыгожа яны спявалі народныя песні на пару з Нілам Гілевічам».**




**Ніл Гілевіч, Валянцін Болтач, Генадзь Бураўкін і Мікалай Матукоўскі** падчас сяброўскага застолля. Здымак зрабіў Васіль Быкаў.


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

Кабінет паэта ў яго кватэры каля Батанічнага саду. Тут нічога не змянілася. На фота тры пакаленні жанчын сям'і Бураўкіных: Юлія Міхайлаўна, дачка Святлана і ўнучка Марыя.

Ціхан Кісялёў быў хоць і супернікам Машэрава ў выбары на пасаду кіраўніка Беларусі ў 1965-м, але чалавекам машэраўскіх поглядаў на свет. На жаль, на пасадзе Кісялёў прабыў нядоўга: яго забрала цяжкая хвароба.

Між тым, за свае поспехі, як бы сёння казалі, менеджара Бураўкін расплачваўся не адным толькі ўласным спакоем: сам ён гаварыў, што ягоныя пасады скралі ў яго больш за дзясятак кніг.

### «Без іх я быў бы інакшы»

Бураўкін, называючы Машэрава «асабліва дарагім чалавекам», усё жыццё гаварыў пра яго толькі добрае. Да прыкладу, казаў: «Шкада, што сёння розныя папулісты і кан'юнктуршчыкі спекулююць ягоным, сапраўды дарагім для беларусаў імем. Ён не такі быў, якім многія хочуць яго зрабіць. На мой погляд, ён быў лепшы, глыбейшы, цікавейшы і больш нацыянальна свядомы».

Хоць і пагаджаўся, што Машэраў быў чалавекам свайго часу і што гэта пры яго непасрэдным удзеле праводзіліся масавая меліярацыя, настойлівая русіфікацыя і далёкія ад дэмакратычнасці ідэалагічныя кампаніі, аднак разам з тым зазначаў: «Але гэта — будзем справядлівымі — не ягоныя ініцыятывы, гэта была славутая "генеральная лінія", якую ён, як адданы і дысцыплінаваны камуніст, ажыццяўляў з партыйнай паслухмянасцю і верай у гістарычную неабходнасць. Не ведаю, ці былі ў яго пры гэтым душэўныя пакуты, а што сумненні былі — дакладна ведаю, бо пра гэта ён мне сам казаў падчас некалькіх шчырых гутарак».

«Сын рэпрэсаванага селяніна з Віцебшчыны, ён добра адчуваў людскі боль, — падводзіў



**«Завіруха» ў «класічным» выкананні «Верасоў».**

своеасаблівую рысу пад асабістымі ўражаннямі пра першага сакратара ЦК Бураўкін іншым разам. — Ягонай любові да нацыянальнай інтэлігенцыі нельга было не заўважыць, настолькі яна была глыбокая і адкрытая. Ён доўгія гады сябраваў з Аркадзем Куляшовым і сцішана плакаў каля труны Івана Мележа. Ды і да Быкава ён ставіўся з разуменнем значнасці ягонага таленту... Гэта трагедыя для нашай культуры, што жыццё ягонае абарвалася якраз тады, калі ён пачаў усведамляць сябе нацыянальным лідарам...»

Зрэшты, не аднаму Машэраву быў удзячны Бураўкін. «Пакінулі свой непаўторны след у маім некароткім жыцці і Кірыла Трафімавіч Мазураў, Пётр Міронавіч Машэраў, Аляксандр Нічыпаравіч Аксёнаў, Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін... — гаварыў Генадзь Мікалаевіч і дадаваў:

— І яшчэ многім хачу я з удзячнасцю пакланіцца. Без іх я быў бы інакшы». ▸

Аднак не толькі Бураўкін быў бы інакшы без вышэй названых кіраўнікоў Беларусі — і яны таксама былі б інакшымі без Бураўкіна. Бо гэта Кірыла Мазураў — папярэднік Машэрава, які фактычна стаў першым беларусам, пастаўленым Масквою на чале Беларусі, — прасіў праз свайго памочніка даслаць яму ў Маскву нумары рэдагаванай Бураўкіным беларускай «Маладосці» з публікацыямі Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Івана Мележа. І будучы ўжо першым намеснікам старшыні Савета міністраў СССР, усё адно пісаў лісты па-беларуску. Дый каб толькі лісты! Мазураў нават вершы свае дасылаў Бураўкіну на паэтычны суд...

## Бураўкін думае пра Беларусь

Калі ягоны сябар Рыгор Барадулін антысавецкіх вершаў «у стол» не пісаў, то Бураўкін хоць рэдка, але грашыў гэтым. Напрыклад, напісаў у 1970 годзе казку-быль «Мяшок з медалямі» пра чалавека, які меў мех з узнагародамі і сам на сябе іх чапляў.

І вось ужо,
З галавы да ног
Абвешаны ўсімі рэгаліямі,
Ён на нагах устаяць не змог —
І грымнуўся
На прагаліне.

Ваўкі завылі непадалёк.
На асінах залопала лісце…
Але адшпіліць
Хоць адзін медалёк
Рукі не падняліся.

Сатыра на абвешанага ордэнамі і зоркамі Брэжнева па вядомых прычынах не магла быць надрукавана, затое хадзіла ў так званых спісах. У той час, як хадзілі «па руках» Аляксандр Салжаніцын і Аляксандр Твардоўскі, Барыс Пастарнак і Восіп Мандэльштам, Аляксандр Галіч і Уладзімір Высоцкі...

Ужо праз дзесяцігоддзе старшыня Дзяржтэлерадыё Бураўкін, працягваючы тэму «Мяшка з медалямі», напісаў:

Яны здзяцінелі* даўно.
Нібыта немаўляты тыя,
То круцяць пра сябе кіно,
То дзеляць зоркі залатыя.

І паміж іх —
Славуты самы,

* **Здзяцінець** — гэта калі чалавек у старасці пачынае паводзіць сябе як дзіця малое.




З СЯМЕЙНАГА АРХІВА БУРАЎКІНЫХ

**Павітанне ў ЗША.** «President Dementey» — гэта старшыня Вярхоўнага Савета БССР Мікалай Дземянцей (стаіць справа), які запомніўся народу сваімі выразамі «Уключыце шастой мікрафон!» і «Хто как хаціт, той так і гаварыт».

## Маленькія радасці савецкага дыпламата

«З Нью-Ёрка прывозілі адзенне, — расказвае Святлана Бураўкіна. — Прычым для ўсіх сваякоў і шматлікіх сяброў. Тады, у 90-я, атрымаць амерыканскія джынсы было сапраўдным цудам. А ў сярэдзіне 70-х, калі бацька паехаў у Нью-Ёрк на сесію ААН, ён пісаў нам лісты, перадаваў іх праз дыпламатаў, якія ехалі ў Мінск, а ў кожны канверт укладаў жуйкі для нас, для дзяцей. Вось было радасці!»

Наш наваспечаны айцец
Махае ўзбуджана брывамі
І ўсё не можа ўзляцець.

А неўзабаве з-пад бураўкінскага алоўка (Генадзь Мікалаевіч звычайна пісаў не ручкай, а алоўкам) з'явіўся заключны верш гэтага своеасаблівага цыкла пад назвай «Сучасны свет бязлітасна старэе...», дзе састарэлыя ўладатрымцы-дзяды, у якіх «абвіслі шчокі» і «патухлі вочы»,

Бяссільнай зграяй збіліся з дарогі.
Рыпяць, як перасмяглыя драчы*.
Памочнікі перастаўляюць ногі,
І замяняюць сківіцы ўрачы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Іх сцяў адзін —
Уладу страціць —
Жах.
Трасуць галовамі — і цэлы свет трасецца
І ўжо не хоча старасць паважаць.

* **Драч** — птушка, што рэзка, непрыемна крычыць, нібы горла дзярэ, адсюль яе і назва.

Верш датуецца 1982 годам. Упершыню публікуючы яго праз дванаццаць гадоў, Бураўкін тлумачыў ва ўступным слове, што робіць гэта не для таго, каб запознена апраўдацца, а каб засведчыць той неабвержны факт, што і беларускія інтэлігенты, «жывучы і працуючы ў сваім часе і са сваім народам, думалі над усім, што дзеялася на Радзіме, і не згаджаліся з афіцыйнай хлуснёй і самазадаволенасцю»...

А як жа паэма «Ленін думае пра Беларусь», якую ў савецкі час вывучалі ў школах? Сам Генадзь Мікалаевіч гаварыў: «Я ад гэтай паэмы не адракаюся і не адракуся... Для мяне важна было праз цэнзуру правесці тое, што я думаў пра нашу гісторыю, мову. Я ўзяў дарагія мне імёны — Скарына, Каліноўскі і Купала — і паспрабаваў "дадумаць", ці мог Ленін пра іх ведаць». Іншым жа разам тлумачыў: «Я — давайце не забываць — быў "сынам" XX з'езда партыі, які шчыра верыў у тое, што ленінская палітыка — мудрая, чыстая і сумленная і змагацца трэба са Сталіным, які яе сказіў. Тады я проста не ведаў многага. Іншая справа, што ёсць вершы для мяне абавязковыя, як тая ж "Малітва", і неабавязковыя — кшталту песень пра партыю. Паэма "Ленін думае пра Беларусь" пры ўсім пры гэтым для мяне абавязковая. А песні пра партыю, калі хочаце ведаць, пісаліся з канкрэтнай нагоды. Прыходзіў Ігар Міхайлавіч Лучанок і гаварыў: трэба адкрыць канцэрт... Тады пісалі пра Леніна і партыю многія: і мой сябар Рыгор Барадулін, і Анатоль Вярцінскі, і Андрэй Вазнясенскі — памятаеце: "Уберите Ленина с денег!" Але ім гэта не прыгадваюць (і правільна!). А мне — прыгадваюць. ▶




## Амлет і лобстары Бураўкіна

«Тата любіў простыя стравы: бульбу, дранікі, яечню, боршч, — расказвае ягоная дачка Святлана. — Таксама любіў амлет, які мама гатавала. Ён крышку адрозніваецца ад традыцыйнага: добра ўзбіваем 3 яйкі , дадаём паўшклянкі малака, перамешваем, дадаём лыжку мукі і крышку солі. Смажым на патэльні з двух бакоў».

З больш складанага любіў фаршыраванага карпа. Тады гэтую страву гатавалі практычна ў кожнай прыстойнай мінскай сям'і. Любоў да фаршыраванай рыбы, кажуць гісторыкі, перайшла беларусам у спадчыну ад яўрэяў.

«А калі тата быў у Нью-Ёрку, то пакаштаваў лобстара — і з таго часу лічыў гэту ежу насмачнейшай», — напісала нам Святлана Бураўкіна.

▶ Як прыклеілі ярлык “грамадзянская лірыка” — так і нясу яго да гэтага часу».

Між іншым, у адрозненне ад тутэйшых аматараў пакрытыкаваць, былы ссыльны «нацдэм» і «антысаветчык» Масей Сяднёў (якога цяжка западозрыць у сімпатыях да савецкага) пісаў: «Як рэдка хто з беларускіх савецкіх паэтаў, Бураўкін і ў часы, калі трэба было прытрымлівацца метаду сацыялістычнага рэалізму, здолеў захаваць сваю суверэннасць паэта, прытым нават у такой коўзкай тэме, як ленінская тэма, — ён яе смела беларушчыў. Вядома, тут не абышлося без выдаткаў, але ў цэласці талент Бураўкіна, мастакоўская чэснасць, чалавечае перамагала і тут. Няма двух Бураўкіных — ёсць суцэльны архіпелаг паэзіі Бураўкіна, паўторым яшчэ раз: чалавечай паэзіі, арганічна патрыятычнай».

## Добраахвотнае выгнанне

Канец 1980-х — час, калі СССР стаў развальвацца. Падчас аднаго з мітынгаў, узімку 1990 года, да сценаў тэлебачання прыйшлі тысячы людзей і запатрабавалі адкрытага эфіру для кіраўніцтва Народнага Фронту. І старшыня Дзяржтэлерадыё эфір даў. Гэты ўчынак (зрэшты, не толькі ён) каштаваў яму пасады — Бураўкіну прапанавалі перайсці на дыпламатычную працу і пакінуць краіну. Па сутнасці, гэта было добраахвотнае, але выгнанне. «Вораг не дрэмле, у тым ліку і драпежны вораг беларушчыны, — пісаў Васіль Быкаў. — Калі на беларускім краявідзе блiснуў ценькі праменьчык адраджэння і функцыя нацыянальнай культуры куды пабольшала, менавіта тады ад гэтае культуры быў адлучаны яе шчыры служка Генадзь Бураўкін».

У сваю чаргу, тагачасны міністр замежных спраў Пятро Краўчанка згадваў: «І яго прызначэнне ў Нью-Ёрк стала прадуманай палітычнай ссылкай, якая значна аслабіла апазіцыйны фронт. Але не было б шчасця, дык няшчасце дапамагло. Генадзь Мікалаевіч — прыроджаны дыпламат. Без курсаў, школ і дыпакадэмій ён сходу арганічна ўпісаўся ў сусветную дыпламатычную эліту. Ужо праз некалькі месяцаў не пабаяўся наладзіць першыя кантакты з нашай эміграцыяй, першым працягнуў руку тым, хто адарваўся ад радзімы па незалежных ад іх прычынах».

**«Перадайце вашаму ўсёмагутнаму патрону, што на свеце няма і не будзе такіх пасад, за якія я мог бы прадаць сяброўства з Васілём»**



ФОТА УЛАДЗІМІРА КРУКА

**«З Быкавым яны былі людзі блізкія па поглядах, адчувалі патрэбу ў зносінах.** У абодвух было выдатнае пачуцце гумару. Калі збіраліся за сталом, многа жартавалі, смяяліся, — расказвае Святлана Бураўкіна. — Акрамя ўсяго, Быкаў быў надзвычай сціплым чалавекам. Быў вельмі інтэлігентны, далікатны, я б сказала. Бацьку, напэўна, гэта вельмі ў ім падабалася». Бураўкін — справа. Злева — драматург Андрэй Макаёнак.

Прашэнне аб адстаўцы з дыпламатычнай пасады Бураўкін пісаў неаднойчы, але яму даравалі вольніцу толькі праз чатыры гады. І хоць прэм’ер-міністр Вячаслаў Кебіч гарантаваў пасаду міністра культуры і друку, але потым прапанаваў... датэрміновы выхад на пенсію. «Генадзь, наіўны ты чалавек! — казаў, даведаўшыся пра тое, Васіль Быкаў. — Нікуды цябе не пусцяць. Табе [посткамуністы] ніколі не даруюць тваёй беларускасці».

У гэтыя дні і сустрэўся яму даўні камсамольскі знаёмы, які даверліва паведаміў, што ў яго можа быць якая заўгодна высокая пасада, але пры ўмове, калі ён публічна, у друку, адмовіцца ад

сяброўскіх адносін з Быкавым. «Перадайце вашаму ўсёмагутнаму патрону, — адказаў Бураўкін, — што на свеце няма і не будзе такіх пасад, за якія я мог бы прадаць сяброўства з Васілём».

Адступніцтва было не ў ягоным характары.

### Так сыходзяць паэты

У 1994-м Бураўкін на кароткі час стаў намеснікам міністра культуры і друку, затым — дарадцам віцэ-прэм'ера, але ў выніку ён — славуты паэт і дзяржаўны дзеяч з вялізным кіраўнічым досведам — працаўладкаваўся ў сатырычны часопіс «Вожык», дзе за галоўнага рэдактара быў яго сябар Валянцін Болтач (Блакіт). Пазней была яшчэ асабістая публіцыстычная калонка ў газеце Аляксандра Старыкевіча «Салідарнасць»...

Кола замыкалася: з журналістыкі пачынаў, журналістыкай заканчваў. Гэта быў апошні акт яго жыцця, які доўжыўся дваццаць год і які мог трагічна абарвацца значна раней: калі ў 2006 годзе Міністэрства юстыцыі паставіла пытанне аб ліквідацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў, Бураўкін, абараняючы дарагую яго сэрцу арганізацыю, ледзь не памёр ад інфаркту проста ў тым самым міністэрстве — яго сэрца стаяла тады чатыры хвіліны. Калі ён нарэшце апрытомнеў, першае, што сказаў: «Не дачакаецеся». І сапраўды, тым разам удалося ўратаваць не толькі Бураўкіна, але і Саюз пісьменнікаў.

...А ў студзені 2014-га дактары паставілі яму смяротны дыягназ. Як вынік — імклівае згасанне і апошняе ў жыцці жаданне: паспець убачыць кнігу новых вершаў, што былі напісаныя пераважна на яго ўлюбёным лецішчы ў Крыжоўцы, дзе ў дачным пасёлку на захад ад Мінска ў Бураўкіна з савецкага часу быў парослы высокімі




**Вокладка апошняй прыжыццёвай кнігі** Генадзя Бураўкіна.

соснамі ўчастак. Думка пра гэта, мусіць, трымала яго нават тады, калі ён ужо не мог ні есці, ні піць. «За тры дні да ягонай смерці мы прынеслі яму ягоную кнігу вершаў. Апошнюю. Ён проста прагнуў яе ўбачыць, бо разумеў, ведаў, што яна — развітальная, — напісаў потым Уладзімір Някляеў, рэдактар бураўкінскай кнігі. — І трэба было бачыць ягоны твар, калі ён узяў кнігу ў рукі. Гэта было не шчасце ці радасць, цяжка шчасцю ці радасці выявіцца на мяжы жыцця і смерці, — гэта было Вялікае Супакаенне. Што жыццё пражыў як належыць. Зрабіў у ім, што мог. Так сыходзяць паэты».

Ён сапраўды праз усё жыццё найперш заставаўся паэтам, для якога перадусім была Беларусь. Менавіта такую назву абярэ для кнігі ўспамінаў ягоная жонка. «Ён усё жыццё змагаўся за беларускае — нягледзячы ні на што, нягледзячы ні на мяне, ні на

На вершы Бураўкіна напісана нямала шлягераў: «Завіруха», «Зачараваная», «Конь незацугляны», «Першае спатканне», «Белыя крылы» — тое, што прыгадваецца аўтаматычна. Што ўжо казаць пра калыханку «Баю-бай, вачаняты закрывай»: «Доўгі дзень, цёплы дзень адплывае за аблокі…»

А Эдуард Ханок паклаў на музыку знакамітую «Малітву», якую сам аўтар залічваў да «вершаў, для мяне абавязковых».

### Малітва

*Мы здалёку ўбачылі свабоду*
*І яшчэ не вырваліся з пут...*
*Божа,*
*Не дабаў майму народу*
*Пошасці,*
*Няпраўды*
*І пакут.*
*У чужым нялюдскім землятрусе*
*Хіба ў нечым мелі мы віну?..*
*Божа,*
*Адвядзі ад Беларусі*
*Здраду,*
*Вераломства*
*І вайну.*
*Смутнаю парою нелюдзімай,*
*Калі ўсё вакол ідзе на злом,*
*Божа,*
*Захіні маю Радзіму*
*Мудрасцю,*
*Спакоем,*
*І цяплом.*

**«Малітва»** ў «класічным» выкананні Святланы Ханок.



дзяцей... — скажа яна. — І, вядома, меў рацыю, калі папрасіў, каб на яго надмагільным помніку былі гэтыя радкі:

Ты, мой народ, мяне не папракнеш:
Я ўсё табе аддаў — жыццё і сілы...

Бо Беларусь была для яго перадусім. Яна была ў яго душы і сэрцы пастаянна. Гэта і было яго сапраўдным жыццём». ◆

# Паўстагоддзя з кляймом здрад

## *Гісторыя адной правакацыі*

**Мінск быў захоплены вермахтам на сёмы дзень вайны, а ўжо на чацвёрты ў горадзе не было нікога з кіраўніцтва. Антынацысцкі супраціў тут узнік стыхійна, без кіравання з Масквы. Але гэта прызналі толькі пасля краху савецкай улады. Піша Антон Рудак.**

**Уцякайце**

У чэрвені 1941 года ў Мінску жыве каля 270 тысяч чалавек — пераважна ў межах сённяшняга другога кальца. За гэтай рысай горад актыўна рос толькі ў раёне Сельгаспасёлка. Забудова збольшага драўляная, а жылыя камяніцы цэнтра — амаль усе яшчэ дарэвалюцыйныя, з драўлянымі перакрыццямі, якія ў выпадку пажару імгненна выгаралі.

Першыя нямецкія бомбы падаюць на горад ужо на другі дзень вайны: бамбяць раёны вакзала і аэрапорта. Назаўтра нямецкая авіяцыя наносіць жахлівы ўдар па цэнтры. Мінск бамбяць хвалямі па сорак самалётаў, агулам за дзень 24 чэрвеня адбылося каля дваццаці налётаў.

Мінск.
Аэрафотаздымка 1942 года.
З архіва Паўла Растоўцава.

ціка

Колькі было ахвяр гэтых налётаў — не палічылі дагэтуль, але немцы пакуль што не цэлілі адмыслова ў людзей: перадусім імкнуліся парушыць камунікацыі, пасеяць паніку і прымусіць насельніцтва бегчы з горада, каб запоўніць транспартныя артэрыі і перашкодзіць перамяшчэнню савецкіх войскаў. Найбольш пацярпелі ад бамбаванняў цэнтральныя раёны: сённяшнія праспект Незалежнасці і вуліца Леніна. Ад пажараў, выкліканых нямецкімі бомбамі, згараць амаль цалкам кварталы на левым беразе Свіслачы аж да самай Камароўкі.

І ўжо ўвечары 24 чэрвеня людзі пабягуць з Мінска, запоўняць Маскоўскую і Магілёўскую шашу, спяшаючыся на ўсход. Рэспубліканскае кіраўніцтва на чале з Панцеляймонам Панамарэнкам дачакаецца а 20-й гадзіне дазволу Сталіна — і таксама «эвакуіруецца». У ноч на 25 чэрвеня горад пакінуць усе органы ўлады, структуры НКВД і дзяржбяспекі, а таксама штаб фронту. Пры гэтым звычайных жыхароў працягнуць запэўніваць, што Мінск не трапіць у рукі ворага.

28 чэрвеня ў горад увойдуць часці вермахта.

### Вярнуцца на працу

У першыя ж дні пасля захопу горада ўсе мужчыны ад 16 да 50 гадоў будуць змешчаныя ў адмысловы фільтрацыйны лагер, створаны ў Драздах на беразе Свіслачы (на гэтым месцы да нядаўняга часу размяшчалася птушкафабрыка імя Крупскай, сёння тэрыторыя актыўна забудоўваецца жылымі кварталамі). Сюды сагналі каля ста тысяч ваеннапалонных і каля сарака тысяч цывільных. Каля дзесяці тысяч вязняў адразу ж расстралялі і пахавалі непадалёк: перадусім яўрэяў і камуністаў. Гэта было першае жахлівае ваеннае злачынства нацыстаў у Мінску.

Астатніх некалькі дзён утрымлівалі на адкрытым паветры пад спякотным сонцам без вады і ежы. Ваеннапалонных пасля перавядуць у лагер «Шталаг 352», створаны ў Масюкоўшчыне, — а цывільных адпусцяць па хатах, абавязаўшы вярнуцца на ранейшыя месцы працы. Яўрэяў прымусяць перасяліцца ў гета.

Агулам падчас акупацыі насельніцтва горада будзе налічваць у розныя гады прыкладна 100—150 тысяч чалавек.

### Ініцыятыва знізу

Першыя канспірацыйныя групы ўзніклі ў горадзе самастойна, па ініцыятыве знізу. Ствараліся яны зазвычай у асяроддзі добра знаёмых міжсобку людзей: сваякоў, суседзяў, калегаў па працы альбо навучанні. Аднымі з першых уключыліся ў падпольную дзейнасць медыкі: працуючы ў лазарэтах, створаных немцамі для ўтрымання параненых савецкіх ваеннапалонных, яны дапамагалі сваім пацыентам хавацца і далучацца да падпольных груп ці партызанскіх атрадаў.

Ужо ў першы год акупацыі падпольныя групы існавалі на ўсіх асноўных прадпрыемствах горада: чыгуначным вузле, цагельнях, пякарнях, ЦЭЦ, гарбарным, вагонабудаўнічым і станкабудаўнічым заводах, і нават у Доме друку ды гаражы гарадской управы. На сёння вядомыя імёны каля дзевяці тысяч удзельнікаў мінскага падполля. Такім чынам, падполлю дапамагаў прыкладна кожны дзясяты жыхар горада.

Савецкае кіраўніцтва проста не паспела пакінуць у нямецкім тыле адпаведныя групы для арганізацыі супраціву. Але ў канцы чэрвеня, калі фронт ужо знаходзіўся на ўсход ад Мінска, партыйныя дзеячы ўзяліся за сваю папяровую справу: прынялі пастановы аб пераводзе партыйных арганізацый на акупаванай тэрыторыі ў стан падпольнай дзейнасці. А праз год тэрытарыяльна падзялілі падполле на пяць падпольных ▸

▶ райкамаў: Сталінскі, Кагановіцкі, Варашылаўскі (паводле трох раёнаў даваеннага горада), а таксама Чыгуначны (падпольная арганізацыя чыгуначнікаў была адной з найбольшых) і Тэльманаўскі, які быў створаны на тэрыторыі гета.



YANDEX MAPS

**Мінскае ўпраўленне абвера знаходзілася на вуліцы Карла Маркса, у будынку, які цяпер займае філалагічны факультэт БДУ.** У маі 1943 года, падчас адной з найбуйнейшых савецкіх бамбардзіровак Мінска, будынак быў значна пашкоджаны і ахоплены пажарам.

## Медыкі і здраднік

26 кастрычніка 1941 года ў Мінску адбылося першае публічнае пакаранне смерцю. Салдаты літоўскага паліцэйскага батальёна на чале з Антанасам Імпулявічусам павесілі ў розных месцах на вуліцах горада дванаццаць удзельнікаў групы, якая займалася ратаваннем савецкіх ваеннапалонных і перапраўкай іх да партызан.

Мінчукам добра вядомае адно з месцаў страты ўдзельнікаў гэтай групы: Кірыла Труса (Трусава), Уладзіміра Шчарбацэвіча і Марыю Брускіну павесілі на браме дражджавога завода на вуліцы Варашылава, якая сёння называецца Кастрычніцкай. Цяпер на гэтым месцы стаіць сціплы мемарыял з барэльефам. Публічнае павешанне было акцыяй застрашвання.

Гэтая група дзейнічала ў лазарэце, які размяшчаўся ў галоўным корпусе сённяшняга БНТУ. Яе выдаў здраднік — адзін з тых ваеннапалонных, якім дапамагалі падпольшчыкі. Барыс Рудзянка, былы шыфравальшчык адной з савецкіх вайсковых часцей, быў перахоплены гітлераўцамі на шляху да партызан і пагадзіўся на супрацоўніцтва з нямецкай вайсковай контрразведкай — абверам. Супрацоўніцтва было плённым: здраднік спрычыніўся да цэлага шэрагу правалаў падполля, хаця пэўныя засцярогі на яго конт выказваліся. Пасля вайны ён усё ж трапіў у рукі савецкай дзяржбяспекі і ў 1951 годзе быў расстраляны.

Але змагалася супраць мінскіх падпольшчыкаў не толькі і не столькі франтавая вайсковая контрразведка, як органы СД — тыя, якія часта называюць «гестапа», хаця афіцыйна структуры нацысцкай дзяржбяспекі называліся так толькі ў Рэйху і на непасрэдна ўключаных у яго склад тэрыторыях.



PLANETABELARUS.BY

Двухпавярховы будынак злева — **адна з сядзіб мінскага СД падчас акупацыі.**

**СД (Служба бяспекі рэйхсфюрара СС)**
орган выведкі і контрвыведкі ў Трэцім рэйху і на акупаваных Германіяй землях падчас Другой сусветнай вайны.
Штат мінскага СД налічваў каля 1 100 чалавек, прычым толькі сто з іх былі немцамі. Рэшта былі хто заўгодна: фольксдойчы, «белаэмігранты», савецкія калабаранты і г.д., існавала таксама асобная латышская каманда. Сядзіба СД размяшчалася ў будынках універсітэцкага гарадка — прыкладна ў раёне сучаснага галоўнага корпуса БДУ. Тут жа ў падвалах дзейнічала следчая турма, а рэшту вязняў трымалі ў «Валадарцы». Будынак СД таксама моцна пацярпеў падчас савецкіх бамбардзіровак пры вызваленні горада і пазней быў разабраны падчас рэканструкцыі плошчы перад Домам урада. Прычым, кажуць, у 1960-х будаўнікі натрапілі ў падвалах разбуранага гмаху на частку дакументаў нацысцкай спецслужбы.

### Не галоўны герой

Ажно да самага распаду СССР лічылася, што мінскім падполлем кіраваў Ісай Казінец. Ураджэнец украінскага Генічаска, яўрэй, інжынер-нафтавік, перад нападам Германіі на СССР ён быў накіраваны на працу ў Беласток, а пасля, уцякаючы ад нацыстаў, выпадкова апынуўся ў Мінску.

Ніхто не даваў яму ніякіх афіцыйных паўнамоцтваў, і таму дзіўна, што Казінца так бессумнеўна прынялі ў ролі галоўнага мінскага падпольшчыка: і самі падпольшчыкі, якія нібыта нават выбралі яго сакратаром Мінскага падпольнага гаркама партыі, і вышэйшае кіраўніцтва. У 1965-м Казінцу пасмяротна далі званне Героя Савецкага Саюза, пісьменнік Іван Новікаў зрабіў яго галоўным героем сваёй кнігі «Руіны страляюць ва ўпор», а ў 1970-х выйшаў тэлесерыял «Руіны страляюць...» — і прызнанне стала ўсенародным.

**Штат мінскага СД налічваў каля 1100 чалавек, прычым толькі сто з іх былі немцамі**

Але папраўдзе не Ісай Казінец кіраваў мінскімі падпольшчыкамі, хоць ён і ўваходзіў у кіраўніцтва падполля. Дабраўшыся да Мінска, ён легалізаваўся як татарын Мустафа Дэлікурды-Аглы. Пазнаёміўся і блізка пасябраваў з Аленай (Лёляй) Равінскай — дачкой таго самага Міколы Равенскага, кампазітара, які на эміграцыі пасля вайны паклаў на музыку гімн Наталлі Арсенневай «Магутны Божа» (розніца ў напісанні прозвішчаў бацькі і дачкі тлумачыцца блытанінай у дакументах). Казінец і Равінская былі разам арыштаваныя ў сакавіку 1942 года. У маі павесілі ў Аляксандраўскім скверы яго, а крыху пазней у турме СД закатавалі і яе.

### На чале гаркама

Хто ж насамрэч быў кіраўніком мінскага падполля і чаму яго імя не называлі? ▶



**Шасцісерыйны фільм Віталя Чацверыкова «Руіны страляюць...»**, зняты на студыі «Беларусьфільм» у 1970–1972 гадах.



Ісай Казінец і Лёля Равінская.

**Ісай (Іегуда) Казінец**
(1910–1942) нарадзіўся ў Генічаску на беразе Азоўскага мора (цяпер Херсонская вобласць Украіны) у яўрэйскай сям'і. Жыў у Батумі, вучыўся ў Кіеве, працаваў у Калініне і Горкім. У Беларусь упершыню патрапіў толькі ў 1939 годзе, пасля пачатку Другой сусветнай вайны і далучэння да СССР Заходняй Беларусі. Ён быў камандзіраваны ў Беласток на пасаду галоўнага інжынера прадпрыемства «Нафтазбыт» і працаваў там да самага пачатку вайны з немцамі. Пасля таго разам з часцямі Чырвонай арміі адступіў на ўсход і апынуўся ў Мінску.
У акупаваным горадзе арганізаваў і ўзначаліў падпольную групу, уваходзіў у Мінскі падпольны гарком КП(б)Б, адказваў за сувязь з падпольшчыкамі гета, кіраваў адпраўкай партызанам папаўнення, зброі, медыкаментаў. Быў таксама адным з арганізатараў падпольнай друкарні. 27 сакавіка 1942 года арыштаваны, 7 мая павешаны. На месцы пакарання смерцю ў Аляксандраўскім (Цэнтральным) скверы цяпер ёсць мемарыяльная шыльда, таксама іменем Казінца названыя плошча, вуліца і два завулкі ў мікрараёне Курасоўшчына.

▶ Яшчэ ў жніўні 1941 года ў Мінску з'явіўся Іван Кавалёў. Ён быў адным з тых самых арганізатараў падполля, якіх накіроўвалі праз лінію фронту для стварэння канспірацыйных структур на акупаванай тэрыторыі. Іван Кавалёў меў паўнамоцтвы на стварэнне падполля ў Заслаўі, але, дабраўшыся туды, справядліва разважыў, што ў невялікім мястэчку, дзе яго ўсе ведаюць, дзейнічаць будзе даволі складана. Так Кавалёў апынуўся ў Мінску, дзе падполле ўжо існавала і намагалася аб'яднацца. Іван Кавалёў адшукаў сваіх даваенных знаёмых па партыйнай рабоце, стварыў падпольны гаркам партыі і сам жа ўзначаліў яго.

У Маскве пра гэта даведаліся толькі праз некалькі месяцаў: да вясны 1942 года аніякай сувязі з Мінскам у цэнтра не было, і толькі першыя закінутыя сюды разведгрупы ГРУ з рацыямі здолелі паведаміць, што падполле ў Мінску ёсць.

Як ні дзіўна, для найвышэйшага беларускага кіраўніка Панцеляймона Панамарэнкі гэта была, відаць, не надта прыемная навіна: ён ужо паспеў даць справаздачу Сталіну і нават пашырыць у савецкай прэсе меркаванне, што ўсе, хто хацеў, у чэрвені 1941 года з Мінска эвакуіраваліся, а тыя, хто застаўся, — спрэс здраднікі і калабаранты. І таму кожны правал падполля Панамарэнка выкарыстоўваў для дыскрэдытацыі яго кіраўнікоў і ўдзельнікаў наогул.




**Іван Кавалёў.**

## Кожны правал падполля Панамарэнка выкарыстоўваў для дыскрэдытацыі яго кіраўнікоў і ўдзельнікаў наогул

**Іван Кавалёў** (1906–1943) нарадзіўся ў вёсцы Бабічы Рагачоўскага павета (цяпер Чачэрскі раён Гомельскай вобласці). Перад вайной працаваў у Заслаўі, спачатку дырэктарам мясцовай машынна-трактарнай станцыі, пасля сакратаром Заслаўскага райкама. Пасля пачатку вайны перабраўся ў Мінск, стварыў гарадскую падпольную арганізацыю, ініцыятар стварэння і кіраўнік падпольнага Мінскага гаркама партыі. Гэты гаркам займаўся не толькі арганізацыяй падполля непасрэдна ў горадзе, але і стварэннем партызанскіх атрадаў у яго ваколіцах. У кастрычніку 1942 года Іван Кавалёў быў арыштаваны немцамі, далейшы лёс дакладна не вядомы, але, хутчэй за ўсё, ён загінуў вясной 1943-га ў Трасцянцы.

### Падмена

Буйныя правалы ў мінскім падполлі здараліся, але найстрашнейшай была хваля арыштаў увосень 1942 года, у выніку якой было схопленае амаль усё кіраўніцтва падпольнага гаркама на чале з Іванам Кавалёвым. Тут і хаваюцца карані гісторыі з «падменай кіраўнікоў». Арыштаваўшы лідара гарадскога падполля, нацысты зладзілі маштабную правакацыю: яны пашырылі ў мясцовай пранямецкай прэсе звесткі, нібыта Іван Кавалёў пайшоў на супрацоўніцтва з акупантамі і заклікае спыніць супраціў. Імя кіраўніка падполля было абылганае — але самае прыкрае, што ў гэтую дэзынфармацыю паверылі ў Маскве.

## Імя кіраўніка Мінскага падполля было абылганае немцамі, і ў гэтую дэзынфармацыю паверылі ў Маскве

Кіраўніцтва Цэнтральнага штаба партызанскага руху на чале з Панцеляймонам Панамарэнкам выдала дырэктыву, у якой абвінаваціла кіраўніцтва падполля ў здрадзе, назваўшы падпольны гаркам падстаўным і адмыслова створаным нацыстамі для выкрыцця савецкіх патрыётаў. Дырэктыва прадугледжвала, што ўсе, хто будзе прыходзіць з Мінска ў партызанскія атрады ад імя гаркама, мусяць быць

**Сабакі Аніта і Рэй на вуліцы Кавалёва ў мінскім Сухараве**, якая складаецца з прыватных дамкоў, што рассыпаныя між шматпавярховікаў.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

затрыманыя. На практыцы гэта азначала, што западозранага ў «здрадзе» часцей за ўсё чакаў расстрэл. Так, напрыклад, загінула дачка аднаго з найбліжэйшых паплечнікаў Кавалёва, Лявонція Адзінцова, — 18-гадовая Ніна. Сёння іменем яе бацькі названая вуліца на захадзе сталіцы.

> **Дачка Лявонція Адзінцова Ніна была западозраная ў «здрадзе» і загінула ад рук сваіх**

Пасля восеньскага правалу 1942 года падпольны гаркам быў адноўлены толькі праз год, і ўжо не ў горадзе, а ў партызанскай зоне, і адтуль кіраваў групамі падпольшчыкаў у Мінску.

### Вяртанне імя

Пасля вайны шальмаванне імені Івана Кавалёва працягнулася: партыйнае кіраўніцтва лічыла яго здраднікам. Хоць напрыканцы 1950-х справы аб «здрадніцтве» больш чым 120 удзельнікаў падполля былі перагледжаныя і амаль усе фігуранты рэабілітаваныя.

Толькі з прыходам галоснасці выявілася, што савецкія спецслужбы вымусілі аднаго са сваіх тайных супрацоўнікаў, земляка Кавалёва, агаварыць кіраўніка мінскага падполля. Той даў хлуслівыя паказанні, нібыта Кавалёва бачылі ў нацысцкай Германіі, дзе ён выступаў перад публікай з антысавецкімі прамовамі. Пашыраліся плёткі, нібыта Кавалёў нават здымаўся ў нейкіх прапагандысцкіх фільмах і пісаў на замову нацыстаў кнігі. Усё гэта не мела ніякага дачынення да праўды. Урэшце даследчыкі знайшлі паклёпніка — і ён пацвердзіў, што агаварыў лідара падпольшчыкаў пад ціскам. Імя гэтага чалавека гісторыкі пакуль не назвалі, вядомы толькі псеўданім — Дубаў.

Такім чынам, усё сведчыць аб тым, што Іван Кавалёў ніколі не пагаджаўся на супрацоўніцтва з ворагам і быў закатаваны ўжо ўвесну 1943 года.

Вуліца Івана Кавалёва з'явілася ў 1990-я ў сталічным Сухараве. Сёння яе траса актыўна забудоўваецца шматпавярховікамі, ад старой прыватнай забудовы застаецца з дзясятак дамоў. Так зноў незаўважна сціраецца памяць аб гэтым несправядліва абвінавачаным чалавеку — сапраўдным герою, які цэлы год, самы цяжкі год вайны, калі здавалася, што немцы перамагаюць, кіраваў мінскім падполлем.

Іван Кавалёў заслугоўвае помніка ў горадзе, у якім загінуў. ◆

Найлепшы знаўца гісторыі мінскага падполля — архівіст Яўген Бараноўскі. Па к'юар-кодзе — спасылка на ягоны артыкул **«Далёкае шчасце мінскага падпольшчыка Івана Кавалёва»**.



# Кітай эпохі Сі

**Былы пасол Беларусі ў Кітаі Кірыл Руды напісаў захапляльную кнігу пра гэтую краіну — і яе новую «эпоху Сі». Ад кнігі дыпламата менш за ўсё чакаеш таго, чым яна аказваецца, піша Мікола Бугай.**



REUTERS / THOMAS PETER

«Нашым кітайскім сябрам, якія ў нас пазнаюць сябе» — эпіграф да кнігі. «У якім сэнсе пазнаюць сябе?» — думаеш. Сэнс будзе зусім не такі, што першы прыходзіць у галаву. Кірыл Руды ў Кітаі бліскуча авалодаў кітайскім стылем афарыстыкі.

Калі пасол Руды ўручаў даверчыя граматы Сі Цзіньпіну, ён пажартаваў, выклікаўшы жывую рэакцыю кіраўніка Кітая: «Нашы краіны блізкія дзякуючы сяброўству лідараў, і геаграфічна мы амаль суседзі, між намі толькі адна краіна, хоць і вялікая».

**«Мы амаль суседзі, між намі толькі адна краіна, хоць і вялікая»**

У іншым месцы Руды адзначае: у Кітаі на Расію глядзяць зусім інакш, чым у Беларусі — як на краіну з эканомікай у 10 разоў меншай за кітайскую і якая з кожным годам адстае ўсё больш.

### «Гаворыць той, хто не ведае, хто ведае — маўчыць»

Беларусы, якія трапляюць у Кітай, піша Руды, і пад «беларусамі» ён тут яўна разумее чыноўнікаў і гаспадарнікаў маладога пакалення, да якога належыць і ён сам, перажываюць тры стадыі. Першая — адмаўленне. «Пад уплывам старых стэрэатыпаў, заходніх фобій пра Кітай, ментальнай прыналежнасці да малой краіны, проціпастаўлення “камуністаў і капіталістаў” з’яўляецца адмаўленне пабачанага, крытыка, успрыманне атачэння нейкім штучным. Умацоўваецца першапачатковая думка, што “ўсе кітайцы хітруны і нават манюкі, крадуць тэхналогіі, робяць падробкі”». Руды піша, што такое першае ўражанне ўласцівае не толькі беларусам, але і іншым замежнікам.

Першая стадыя хутка змяняецца другой — захапленнем. «Узнікае закаханасць у гісторыю, культуру, кухню Кітая. Усплывае настальгія па савецкім мінулым і ўпушчанай будучыні, якая нібыта ўвасобілася ў цяперашчыне Кітая. Ідэалізуецца і кітайская эканоміка, — піша Руды (сам ён далёкі ад ідэалізацыі яе — пра гэта ніжэй). — Складваецца новае ўражанне пра нармальнасць кітайцаў, іх у нечым падобнасць да амерыканцаў, еўрапейцаў і якія мы ўсе да іх непадобныя».

**Сярэднемесячны заробак у Кітаі** вырас з 520 долараў у 2010-м да 1250 долараў у 2020-м.




**Сярэднегадавы заробак у юанях.** Курс юаня на сёння 6,5 юаня за долар.

Трэцюю стадыю Руды характарызуе як «маўчанне». «У Кітаі ёсць выраз: “Гаворыць той, хто не ведае, хто ведае — маўчыць”. З часам прыходзіць усведамленне складанасці Кітая, яго жорсткага прагматызму, пастаянных хуткіх і глыбокіх перамен, якія псіхалагічна цяжка пераправіць, што выклікае ментальную стому. Узнікае наканаванасць цяжкай працы і няспыннага руху ў патрэбным кірунку. Стамляе і рэалістычнае разуменне [сціпласці] нашага месца ў гэтай краіне».

### Рост хлопчыкаў і дзяўчатак

Пастаяннае рэфармаванне было дзяржаўнай ідэалогіяй Кітая апошнія 40 гадоў. Рэформы, рэформы, рэформы — як мантру, паўтаралі і паўтараюць кіраўнікі партыі і ўрада. За гэтыя гады кітайцы прывыклі да таго, што ўсё і ўвесь час мяняецца і будзе мяняцца. «Мы ведаем, што заўтра дакладна не будзе як сёння ці ўчора, таму мы павінны быць гатовыя да зменаў, рухацца наперад і расці», — тлумачыў беларускаму паслу кітайскі бізнэсмен.

«Пры наведванні ў верасні 2019 года выставы дасягненняў Кітая запомніўся адзін са стэндаў – рост 12-гадовых кітайскіх дзяцей у 2012 і 2017 годзе: хлопчыкаў 145,7 і 148,5 см, дзяўчатак — 146,3 і 149,1 см», — расказвае Руды.

Рост — вынік таго, што кітайцы сталі больш зарабляць, лепш есці, здаравей жыць. Практычны крытэр ацэнкі росту ўзроўню жыцця.

Сярэдні заробак у Кітаі вырас з 520 доляраў у 2010 годзе да 1250 доляраў у 2020 годзе. Пры гэтым курс юаня да долара быў стабільны: за 10 гадоў юань узмацніўся з 6,8 да 6,5. Памер даходу, які не абкладаецца падаткам, ад 2019 года паднялі з 515 да 735 доляраў. Падаткам не абкладаюцца таксама даходы, якія трацяцца на здым кватэры, адукацыю, падтрымку старых бацькоў, лекаванне ад хранічных хвароб.

**«Беларусы пераанялі ад рускіх і еўрапейцаў тое, што ў спалучэнні дае найгоршы вынік: ад першых — недасканалыя законы, а ад другіх — жорсткае правапрымяненне»**

У той жа час у Кітаі ёсць разуменне, што якасную адукацыю можна толькі купіць, бясплатнай яна не бывае. Кітайцы здзіўляюцца, калі чуюць, што ў Беларусі трохгадовы адпачынак для догляду дзіцяці (у Кітаі яго працягласць — пара тыдняў, далей дзяцей глядзяць бабы і дзяды) або месячны адпачынак (у Кітаі ў пачатку кар’еры ён складае ўсяго пару дзён і толькі паступова, з гадамі, павялічваецца).

Усё гэта было вынікам рэформаў і свабоды для прыватнага бізнэсу. Малы і сярэдні прыватны бізнэс у Кітаі сёння стварае больш за 60% ВУП (у 1978 годзе было 0%, у 2007 годзе — 52,4%). Прыватны сектар стварае 90% экспарту і практычна ўсе новыя працоўныя месцы. І нават цяпер улады Кітая ўжываюць рэпрэсіўныя меры ў дачыненні тых, хто замінае развіццю

### Беларускія заганы

Якія прэтэнзіі кітайцы найчасцей выстаўляюць беларусам на перамовах: «складанасць беларускіх нормаў, правіл, працэдур, боязь сілавікоў, кантралёраў, прыняцця рашэнняў, залежнасць ад Расіі».

«Беларускі бок заўсёды гатовы вырашыць пытанне сілавым ці палітычным спосабам, кітайскі — камерцыйным ці судовым», — адзначае Руды.

Адзін з кітайскіх бізнэсоўцаў сказаў паслу Рудаму, што беларусы пераанялі ад рускіх і еўрапейцаў тое, што ў спалучэнні дае найгоршы вынік: ад першых — недасканалыя законы, а ад другіх — жорсткае правапрымяненне.

недзяржаўнага сектара. Так, за 9 месяцаў 2019 года пракуратура Кітая выдала ордары на арышт больш чым 10 тысяч чалавек па абвінавачванні ў перашкодах развіццю недзяржаўнага сектара (напрыклад, за адміністратыўную перадачу будаўнічых падрадаў на карысць дзяржаўных арганізацый).

«Лозунг Дэн Сяапіна “Разнявольвайце розум!”, які падштурхнуў да прагрэсу, розніцца ад беларускага “Дысцыпліна і парадак!”» — піша экс-пасол. І хоць Руды далікатна змоўчвае, як памяняліся ВУП, сярэднія заробкі і г. д. у Беларусі за той жа перыяд, вывад яго адназначны: Беларусь і Кітай непадобныя не расай, не культурай і не месцам на карце, а дынамікай развіцця. Кітай пастаянна, у дзікім рытме трансфармуецца, тады як у Беларусі нічога не мяняецца.

### Стаўка на IT

Руды праз усю кнігу падкрэслівае, што эканамічныя поспехі Кітая апошніх гадоў звязаныя са стаўкай на IT. ►

▸ «Кідаецца ў вочы, як людзі разлічваюцца ў крамах і грамадскім транспарце ўжо нават не сканаваннем тэлефонам к'юар-кода, а сканаваннем твару ці далоні. У парках ездзяць беспілотныя аўталаўкі з прахаладжальнымі напоямі, а ў барах робаты гатуюць кактэйлі».

З 2016 года Кітай стаў сусветным лідарам па тэмпах росту лічбавай эканомікі. Кітайцы займаюць перадавыя пазіцыі ў свеце ў аналізе *big data*, вялікіх даных. У краіне рэалізуецца дзяржаўная праграма развіцця штучнага інтэлекту, а фінансавы ўдзел дзяржавы ў развіцці IT — дэ-факта капіталістычны.

Але Кітай пакуль толькі на пачатку шляху. Руды прыводзіць такі прыклад. У Кітаі пакуль толькі 8 лаўрэатаў Нобелеўскіх прэмій, тады як у ЗША — 383, Брытаніі — 132, Нямеччыне — 108. А колькасць нобелеўскіх лаўрэатаў — гэта свайго роду паказчык колькасці ўласных, не запазычаных, не купленых, не крадзеных інавацый.

### Феномен запавольвання часу

«Калі вы адправілі паведамленне ў сацыяльнай сетцы... свайму кітайскаму партнёру і на працягу гадзіны (калі не адразу) няма адказу, то, імаверна, у яго здарылася нешта сур'ёзнае. Працоўны кантакт з кітайскім партнёрам адбываецца незалежна ад часу сутак і дня тыдня, — піша Руды. — У сваю чаргу, атрымаць адказ ад беларускага боку на паведамленне ў той жа дзень у працоўны час — вялікая ўдача і знак асабістых адносін», — параўноўвае Руды. У Беларусі ў параўнанні з Кітаем адбываецца «феномен запавольвання часу», піша экс-пасол.

Ён тлумачыць гэта большым кантролем і ўмяшальніцтвам дзяржавы ў штодзённае грамадскае, а парою і прыватнае жыццё. Людзі на гэта рэагуюць стварэннем свабодных ад працы і ўсяго працоўнага часу і прасторы. Папросту кажучы, яны ў адказ імкнуцца працаваць чым менш.

**Авіякампанія Air China** размясціла ў сваім самалётным часопісе артыкул пра Беларусь пад загалоўкам «Каханне з другога погляду» — напэўна, з намёкам, што з першага закахацца складана, адзначае Кірыл Руды. Беларусь у артыкуле пазіцыянуецца як «апошняе невядомае месца ў Еўропе».

**Беларускі бок заўсёды гатовы вырашыць пытанне сілавым ці палітычным спосабам, кітайскі — камерцыйным ці судовым**

### Вялікі паварот

Да прыходу да ўлады Сі Цзіньпіна Кітай — так здавалася замежным назіральнікам — паступова, вельмі паволі, але рухаўся ў бок дэцэнтралізацыі і плюралізму. Маа Цзэдун (1949–1976) меў абсалютную ўладу, Дэн Сяапін (1978–1993) — абсалютны аўтарытэт, Цзян Цзэмінь (1993–2003) — абсалютны кантроль над палітычнымі працэсамі з дапамогай спецслужбаў. Ху Цзіньтаа (2003–2013) зрабіў эканоміку прыярытэтам над палітыкай, пачала гучаць ідэя палітычнай рэформы для стымулявання эканамічнага росту. Пачынаючы з канца 1970-х у Кітаі існавала своеасаблівая сістэма калектыўнага кіраўніцтва. І менавіта гэты перыяд стаў часам эканамічнага рыўка. Рынак зрабіў у камуністычнай краіне эканамічны цуд.

На момант прыходу да ўлады Сі Цзіньпіна ў кіраўніцтве Кітая былі як кансерватары-неамааісты, так і лібералы-рэфарматары. Сі адносіўся да трэцяй групы — цэнтрыстаў.

З прыходам да ўлады Сі найперш распачаў антыкарупцыйную кампанію. Былі арыштаваныя і прыгавораныя да пажыццёвага зняволення спачатку кіраўнікі кансерватараў. Чыстка хутка распаўсюдзілася на сотні найвышэйшых чыноўнікаў.

Варта адзначыць, што карупцыя прасякала камуністычны Кітай з нізу да самага верху. «Калі змагацца з карупцыяй, можна развaліць партыю. Калі не змагацца — то дзяржаву». Гэты афарызм прыпісваюць былому кіраўніку краіны Цзян Цзэміню. Крытэры карупцыі раней былі настолькі размытымі, што ў новую эпоху пад гэтае абвінавачанне мог падпасці кожны. Антыкарупцыйная кампанія, якую народ вітаў, у выніку аказалася інструментам фарміравання рэжыму аднаасобнай улады Сі.

### Сацыяльны давер

Таксама Сі ў 2016 годзе даў адмашку стварэнню сістэмы «сацыяльнага даверу». «Трэба ўдасканальваць як механізмы заахвочвання законапаслухмяных і добрасумленных грамадзян, так і механізмы пакарання тых, хто

парушае закон і страціў давер». Руды расказвае, што гэта азначала на практыцы (сістэма тэсціруецца ў 30 гарадах). Усім людзям прысвойваецца стартавы рэйтынг 1000 балаў. Далей рэйтынг чалавека павялічваецца ці меншае ў залежнасці ад інфармацыі пра яго з розных органаў. Так, напрыклад, калі сістэма відэаназірання зафіксавала, што вы не прыбралі за сваім сабакам, балы ў вас здымаюцца. А вось калі вы паведамілі аб правапарушэнні іншага чалавека, вам, наадварот, дадаюць 5 балаў. Адзіны інфармацыйны цэнтр аналізуе 160 тысяч параметраў пра вас! Ад наведвання партыйных сходаў да актыўнасці ў сацыяльных сетках. Таксама дзейнічае сетка інфарматараў. Насельніцтва падзеленае на блокі, якія павінны кантраляваць адзін аднаго. Акрамя таго, збіраюцца фота- і відэадоказы парушэнняў. Інфарматызацыя дазваляе аўтаматычна апрацоўваць гіганцкія масівы інфармацыі.

Да апісанага ў кнізе Рудага варта дадаць, што, з улікам развіцця ў Кітаі штучнага інтэлекту і сістэмы распазнавання твараў, кантроль за дзеяннямі чалавека робіцца ўсё больш татальным. Гаворка пра размяшчэнне камер відэаназірання, далучаных да адзінага цэнтра, унутры кватэр пакуль не ідзе, але ўжо распрацаваныя алгарытмы ацэнкі эмоцый чалавека. Чалавек не павінен быць раззлаваным у публічным месцы; калі такое здараецца, ва Уйгурскай аўтаномнай акрузе гэта ўжо фіксуецца. Наступны крок напрошваецца: чалавек павінен дэманстраваць радасныя эмоцыі, калі бачыць партрэты кіраўніка краіны.

Калі ў чалавека рэйтынг большы за 950 балаў, ён мае права на бясплатнае лячэнне без унясення закладу, калі кошт лячэння не перавышае 10 тысяч юаняў. З рэйтынгамі, большымі за 1000 і 1050 балаў, беззакладная сума на лячэнне павялічваецца да 20 і 50 тысяч юаняў адпаведна. Ад рэйтынгу залежыць права на турпуцёўкі са зніжкамі, бясплатнае карыстанне спортаб'ектамі. А вось калі ў цябе рэйтынг зніжаецца да 850 балаў, ты страчваеш права працаваць на дзяржаўнай службе ці ў муніцыпальных структурах. Калі ж ты маеш рэйтынг ніжэйшы за 600, табе не выдадуць крэдыт, не прададуць білет на самалёт ці хуткасны цягнік, табе забаронена вучыць дзяцей у прыватнай школе.

Аналагічныя рэйтынгі прысвойваюцца і прадпрыемствам.

Лічбавы таталітарызм? Гэтыя оруэлаўскія навацыі спалучаюцца — прынамсі, да апошняга часу спалучаліся – з працягам курсу на далейшую лібералізацыю эканомікі. Кніга Рудага выйшла да таго, як улады Кітая ў 2021-м пачалі «нармалізаваць» лічбавых гігантаў, у тым ліку Джэка Ма, бізнэс якога беларусы ведаюць па «Аліэкспрэсе».

## У Кітаі з вамі сябе паводзяць так, як вы дазваляеце з сабой паводзіць

### Змена масак у кітайскай оперы

Руды шчыра піша і пра неадназначнасць працэсаў у кітайскай гаспадарцы, нарастанне негатыўных з'яў у фінансавым сектары, а таксама пра тое, наколькі цяжкія кітайцы партнёры: і ў дыпламатыі, і ў бізнэсе. Ён апісвае цырымоніі старога кітайскага імператарскага двара і пераказвае шматлікія сучасныя «трукі кітайскага пратакола».

«Адзін з кітайскіх партнёраў, усміхаючыся кожны раз, выходзіў на сустрэчу толькі пасля таго, як ад замежнага госця гучала прапанова з-за спазнення гаспадара перанесці перамовы», — апісвае ўласны досвед ён. Або «сыход ад прамых адказаў са спасылкай на "трэба пачакаць"», а пасля «вытанчана сфармуляваная пісьмовая адмова, якая ўнушае аптымізм чытачу, не знаёмаму з кітайскім стылем, і вусным каментаром, што ніколі такога не было, у тым ліку з іншымі краінамі, "і яшчэ гадоў 100 не будзе"».

У Кітаі з вамі сябе паводзяць так, як вы дазваляеце з сабой паводзіць, адзначае беларускі экс-пасол: «Гэтую пастаянную змену пазіцый, ліслівасці на пагрозу, дружбы на варожасць і наадварот, у дыпламатыі Кітая мой калега, пасол ФРГ у КНР у 2013–2018 гадах Майкл Клаус, аднойчы вельмі дакладна параўнаў са «зменай масак у кітайскай оперы».

### Што чакае Кітай эпохі Сі?

Руды ў дэталях тлумачыць, што Кітай рабіў, а Беларусь не рабіла апошнія дзесяцігоддзі, і ў той ▸

### Кітайская кухня ў Мінску

У Мінску адкрыліся рэстараны ланчжоўскай кухні «Усходні» (вул. Усходняя, 129), хунаньскай — у гатэлі «Пекін» (вул. Чырвонаармейская, 36), чунцінскага хуа-гуа (вул. Уманская, 45), традыцыйнай кітайскай кухні «Тан чаа» (вул. Кастрычніцкая, 19).

жа час не абыходзіць пытанні, адказу на якія сёння шукае цэлы свет: цяпер, калі Кітай перайшоў ад калектыўнага кіраўніцтва да культу асобы Сі Цзіньпіна і пачаў «нармалізацыю» гігантаў IT, гэтай краіне ўдасца захаваць ранейшыя тэмы развіцця ці не?

Прагноз Рудага — аптымістычны. Ці можа быць, што наш дыпламат недаацэньвае пагрозы лічбавага таталітарызму?

«На практыцы бестэрміновае кіраванне — парою не самамэта. Яно зыходзіць з унутранага пераканання, што служыць умовай для рашэння іншых задач, — піша Кірыл Руды. — Непазбежна з часам сціраюцца механізмы стрымлівання і процівагі, утвараецца атмасфера пастаяннага кансэнсусу, спрыяльная для промахаў і памылак, інерцыі і страху перамен у кіраўнічага апарату, перакладання адказнасці за ўсе рашэнні на лідара», — піша Руды.

## «Бестэрміновае кіраванне — парою не самамэта. Яно зыходзіць з унутранага пераканання, што служыць умовай для рашэння іншых задач»

Але, на думку беларускага пасла, як бы ні змяніла Кітай аднаасобнае кіраванне і новы курс, «мы застаёмся непадобнымі. Кітай змяніўся, пайшоў далей і ўжо прайшоў пункт невяртання. Каб выйсці на яго ўзровень, давядзецца мяняцца і Беларусі, — падсумоўвае Руды. — Надзеі на вонкавы рычаг для развіцця Беларусі ў абліччы Кітая ў сілу яго ўсё большай непадобнасці і апераджальных тэмпаў развіцця знікаюць. Беларусі не пазбегнуць, якім бы нудным і стамляльным тое ні здавалася, эканамічных, інстытуцыйных ды іншых рэформаў, якія ў выніку раскадзіруюць паводзіны беларусаў, зрабіўшы Беларусь і Кітай падобнымі».

### Што яшчэ прачытаць, каб лепей разумець Кітай?

Не страціла актуальнасці грунтоўная праца амерыканскага дыпламата і навукоўца Генры Кісінджэра «Пра Кітай».

**Беларускі строй. Каталог традыцыйнага адзення на Беларусі канца XIX – пачатку XX стагоддзяў па рэгіёнах.** З калекцыі гурта Volya, Сіэтл, ЗША. — Мінск: Р. М. Цымбераў, 2021. — 50 с.

Белы, чырвоны, чорны. 100% хэнд-мэйд па старадаўніх тэхналогіях. Непаўторнае хараство і багацце беларускай культуры. Знаёмцеся: каталог традыцыйнага адзення Беларусі канца XIX – пачатку XX стагоддзяў па рэгіёнах. Строі, у якіх у мінулым красавалі беларускі, не адзін год збіралі, аднаўлялі і рэканструявалі паводле старых фотаздымкаў нашы сучаснікі: спявачка, кінавытворца і прадзюсарка Воля Дземка, якая зараз жыве ў Сіэтле (ЗША), і яе паплечніцы з фальклорнага гурта Volya.

У каталогу прадстаўленая адна з найбуйнейшых прыватных калекцый




беларускага народнага строю, сабраная па-за межамі краіны. 16 поўных камплектаў з 79 прадметаў жаночага адзення і аксесуараў ад 1880-х да 1940-х гадоў, якія дагэтуль нідзе не выстаўляліся. Дызайн і аздабленне ўбораў адлюстроўваюць адметнасці пяці з шасці гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі.

За кожным прадметам свая гісторыя, спалучэнне шчаслівага выпадку, звычайнага цуду і імпэту людзей, улюбёных у беларускую народную культуру. На 50 старонках — не проста традыцыйныя жаночыя ўборы і іх рэгіянальныя адметнасці. Тут ажывае гісторыя краіны, прашытая сімваламі на кашулях, хустках і фартухах, напоўненая ўрачыстым настроем, прасякнутая цеплынёй умелых рук беларускіх майстрых.

Кніга прадаецца ў Мінску ў гандлёвым цэнтры **«Купалаўскі»** (пад Кастрычніцкай плошчай, крама 41–42), мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72), сетцы кнігарняў **oz.by**, інтэрнэт-кнігарні **kniganosha.by**.




POLITIKA.KO.NET.UA

**Венгерскі сцяг (другі справа) побач з украінскім н**а будынку гарсавета Берагава. Суседняя Славакія забараніла вывешваць сцягі іншых дзяржаў на адміністрацыйных будынках. Тады ў венгерскіх гарадках сцягі пачалі ўздымаць не на фасадах, а на флагштоках.

# БЕРЭГСАС

## *Закарпацкі след венгерскай драмы*

**Падчас вандроўкі па Закарпацці турысты часцей едуць у больш вядомыя Ужгарад і Мукачава. І шмат губляюць, не наведаўшы Берагава. Гэты гарадок на 24 тысячы чалавек мае чым здзівіць, пераканалася Сняжана Іванец.**

6 жніўня 1919 года румынскія войскі ўступілі ў Будапешт. Гэта было дно падзення Аўстра-Венгерскай імперыі, пад скіпетрам якой венгры стагоддзямі панавалі над суседнімі народамі.

Аўстра-Венгрыя Габсбургаў дзялілася на дзве паловы: аўстрыйскую і венгерскую. У апошняй венгры афіцыйна складалі 48% насельніцтва. Насамрэч, іх было менш, проста венграмі пісалі многіх прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей.

Адносіны са славянамі-харватамі ў венграў былі аддаўна напружаныя, з Сярэднявечча, а ў 1848 годзе менавіта харвацкія часці душылі венгерскую рэвалюцыю, спадзеючыся такім чынам узамен атрымаць ▶

**У Берагаве лёгка пагрузіцца ў часы Аўстра-Венгрыі.** Цэнтральная плошча гарадка носіць імя героя венгерскай рэвалюцыі 1848 года Лаяша Кошута.



▶ ад імператара большую самастойнасць.

Румыны складалі большасць у Трансільваніі. А незадаволеныя дамінаваннем мадзьярскай шляхты нямецкія сяляне і буржуа — саксы ў Сямігароддзі і швабы ў Банаце — таксама падтрымлівалі румын, а не венграў.

Славакаў венгры пазбавілі дзяржаўнай самастойнасці яшчэ 1000 гадоў назад, і маладая славацкая нацыя нараджалася ва ўмовах эканамічнага і культурнага процістаяння з мадзьярамі.

Сербы жылі з венграмі цераспалосна ў рэгіёне, які венгерскія географы называлі Бачка, а сербскія — Ваяводзіна.

І русіны, якія ўсё больш усведамлялі сябе ўкраінцамі, былі таксама ахвярамі паступовай мадзьярызацыі, а ў пачатку XX стагоддзя пабачылі шанец на самастойнасць у межах «сабornай Украіны».

Калі ў 1918 годзе стомленыя бясконцай вайной войскі пачалі распускацца, аўстра-венгерская армія пацярпела паразу на італьянскім фронце. Любы камень мог выклікаць лавіну, і лавіна была непазбежнай. Сербы, румыны, харваты, чэхі і славакі схапіліся за свой шанец — саюз з Францыяй, заваяванне сімпатый новай сілы на еўрапейскай арэне — ЗША і іх прэзідэнта Вудра Вільсана — і пашырэнне сваіх межаў з дапамогай Антанты.





Святыня венграў — **карона святога Стэфана.**

У Празе абвяшчаюць незалежнасць Чэхаславакіі, прэзідэнтам завочна абіраюць Томаша Масарыка, які быў у той час у эміграцыі ў ЗША.

Румынскія войскі, якія яшчэ нядаўна страцілі 90 працэнтаў тэрыторыі краіны пад ціскам венгерска-нямецка-балгарскіх саюзнікаў, цяпер займаюць расійскую Бесарабію і наступаюць у Трансільваніі і Букавіне.

А з поўдня ціснуць сербы, узмоцненыя французскім экспедыцыйным корпусам.

Тым часам у Венгрыі да ўлады прыходзіць леваліберальны ўрад Міхая Караі. Ён кіраваўся жаданнем вырваць уладу з рук арыстакратаў,

**Горад Лампертхаза** (пазней — Лампертсас) быў заснаваны ў 1063 годзе венгерскім прынцам Лампертам. У 1240-х яго спалілі татары, на аднаўленне горада кароль Венгрыі Бела IV запрасіў саксаў. Назва Берэгсас (*Beregszasz*) упершыню ўжываецца ў 1499 годзе.

манеўраваў з улікам інтарэсаў рэвалюцыйнай вуліцы і быў паралізаваны нежаданнем салдат ваяваць далей.

Антанта ціснула шляхам эканамічнай блакады. На баку Антанты дзейнічалі чэхі, якія спынілі пастаўку вугалю. У выніку Венгрыя пражыла зіму без ацяплення, спыніліся чыгункі. Гэта паставіла краіну на калені. На патрабаванне Антанты і хочучы дабіцца сепаратнага міру, урад Караі распусціў армію. Але ўмовы міру аказаліся бязлітаснымі для Венгрыі: пад кантролем Будапешта засталіся толькі тыя тэрыторыі, якія былі не занятыя арміямі суседніх народаў. Леваліберальны ўрад страціў апошнюю падтрымку, а ўладу ў Будапешце захапіла група камуністаў, якая са зброяй прыбыла з Савецкай Расіі.


ФОТА АЛЯКСАНДРА ЛЫЧАЎКІ

**Помнік першаму каралю Венгрыі** — Стэфану Святому.

Гэта быў смяротны ўдар па рэпутацыі венграў. Французы і італьянцы былі гатовыя душыць «бальшавіцкую заразу» любымі спосабамі. Румыны атрымалі карт-бланш на паход на Будапешт. Абараняць сталіцу Венгрыі не было каму: за тры месяцы бальшавізму ў новай уладзе расчараваўся нават пралетарыят.

Проста ашаламляльна, як тысячагадовая манархія абрынулася за некалькі тыдняў, як з тысячагадовым усясіллем венгерскай шляхты суседнія народы справіліся за год.

Трыянонскі мір замацаваў тое, што было дасягнута сілай зброі. Тры мільёны мадзьяраў засталіся за межамі новай венгерскай дзяржавы, у складзе Румыніі, Чэхаславакіі і Югаславіі.

Спроба рэваншу ў саюзе з Гітлерам стане ганьбай і трагедыяй. Венгры Закарпацця таксама вернуцца ў склад Вялікай Венгрыі толькі на 1938–1944 гады. Цяпер гэта ўкраінскія венгры, бо ў 1945 годзе большая частка тэрыторыі былой Падкарпацкай Русі (зямля ў складзе міжваеннай Чэхаславакіі) стала Закарпацкай вобласцю Украінскай ССР, а з 1991-га — незалежнай Украіны.


ФОТА АЛЯКСАНДРА ЛЫЧАЎКІ

**Касцёл Узвіжання Святога Крыжа** будавалі ў той жа час, што і нашу Каложу, але ён перажыў татальную рэканструкцыю ў XIX стагоддзі.

## Спусціўшыся з Карпат

Мы прыехалі ў Берагава — так горад называюць па-ўкраінску, па-венгерску гэта Берэгсас — на два дні, спусціўшыся з Карпат. Спачатку — каля дзвюх гадзін электрычкай ад Валаўца да Мукачава. З цягніка добра назіраць, як краявіды памалу змяняюцца з горных на раўнінныя. З Мукачава да Берагава — 40 хвілін на аўтобусе.

Берагава знаходзіцца амаль на мяжы з Венгрыяй — за пяць кіламетраў. Горад справядліва называюць цэнтрам венгерскай культуры рэгіёна. Падчас апошняга перапісу (праводзілі ў 2001 годзе) 55% мясцовага насельніцтва назвалі роднай мовай венгерскую. І гэта не толькі словы: мясцовыя штодня ёй карыстаюцца. Цікава, што ў Берагаве венгерскай карыстаюцца не толькі самі мадзьяры, але і цыганы.

## Казіно і касцёл

Рака Верке дзеліць горад на дзве часткі. У самым цэнтры цераз яе перакінуты 150-гадовы мост, адзін з першых мураваных у Закарпацці. ▸


PHOTOGORODA.COM



ФОТА АЛЯКСАНДРА ЛЫЧАЎКІ

Венгрыя ўкладае ў Берагава вялікія грошы. **Колішні даходны дом у 2008 годзе і цяпер.**

Пры савецкай уладзе рэчышча Верке каналізавалі, звузілі. Мясцовыя жыхары ўзгадваюць, што пасля звужэння пустыя маставыя пралёты сталі актыўна выкарыстоўваць. У адным з іх знаходзіўся каларытны тракцір: госці самі абіралі сабе ў акварыуме рыбу, з якой гатавалі мадзьярскую юшку.

Ад моста адкрываецца некалькі паштовачных відаў на горад. Бліжэй, адразу за ракой, — будынак былога казіно, які спалучае стылі мадэрн і арт-нуво. Пабудаваны яшчэ ў 1913-м, ён і сёння выглядае пампезна. У пачатку XX стагоддзя менавіта тут бурліла культурнае жыццё Берэгсаскага камітата (раёна): праходзілі балі, канцэрты, пасяджэнні грамадскіх культурніцкіх арганізацый. У гэтым будынку ў свой час адпачываў венгерскі пісьменнік і палітык-рэфарматар граф Іштван Сечэны, імя якога носіць адна з цэнтральных вуліц. Шыкоўныя інтэр'еры казіно захаваліся дагэтуль, нягледзячы на пажар, які адбыўся ў пачатку 2000-х. Цяпер у будынку — рэстаран «Залатая пава» і гасцініца.

Праз дарогу ад казіно — вежа касцёла Узвіжання Святога Крыжа. Першы будынак храма пабудавалі яшчэ ў XII стагоддзі, з тых часоў касцёл некалькі разоў знішчалі, а потым адбудоўвалі. Адзін раз гарадскі храм разграмілі татары ў 1241-м. Другі раз яго палілі польскія войскі (у 1657-м) — разам з месцічамі, якія хаваліся ў храме. Існуе легенда, што польскі князь Ежы Себасцьян Любамірскі вывеў на абгарэлай сцяне касцёла такія словы: *Vicem pro vice reddo tibi, bone vicine!* («Вока за вока, вяртаю пазыку, дарагі суседзе!») — так ён, відаць, помсціў трансільванскаму князю Дзьёрдзю II Ракацы за ягоны хаўрус са шведамі.

Прайшло яшчэ трыццаць гадоў — і храм зноў пацярпеў, гэтым разам падчас баёў паміж аўстрыйскім войскам і антыгабсбургскімі паўстанцамі. Апошнюю глабальную рэканструкцыю ў касцёле праводзілі ў сярэдзіне XIX стагоддзя: акрамя абноўленага выгляду, храм прыдбаў арган з Будапешта. Сёння будынкам апякуецца Рымакаталіцкая царква, службы тут вядуцца па-венгерску.

Увогуле, тут так: уніят, грэкакаталік — значыць, украінец, рыма-каталік — значыць, венгр.

У двары сабора ўжо ў нашы дні паставілі помнік венгерскаму каралю Стэфану Святому (кіраваў у пачатку XI стагоддзя), пры ўваходзе вісіць дошка ў гонар заснавальніка Берагава князя Ламперта. Венгерскіх мемарыялаў, маленькіх і вялікіх, тут шмат. Да помнікаў венгерскім героям шчодра нясуць кветкі і нацыянальныя чырвона-белазялёныя сцяжкі.

## XX стагоддзе

За XX стагоддзе Берагава перажыло шмат зменаў. Вясной 1919-га яго акупавалі чэхаславацкія і румынскія войскі — яны тады былі саюзнікамі ў змаганні з венграмі, напрыканцы таго ж года па Сэн-Жэрменскай мірнай дамове горад адышоў Чэхаславакіі.



Вэб-камеры **на плошчы Кошута ў Берагаве.**

З восені 1938-га — зноў у складзе Венгрыі, бо вугорцы тады зрабілі стаўку на Гітлера, а ён наступаў. Рэжыму адмірала Міклаша Хорці ўдалося на час вайны далучыць назад і паўднёвую Славакію, і Закарпацце, і Трансільванію. Але Венгрыя заплаціла за саюз з Гітлерам вялізную людскую і маральную цану. У вайне загіне каля 300 тысяч вайскоўцаў і 600 тысяч мірных жыхароў. Сярод апошніх большую частку складаюць яўрэі і цыганы, знішчаныя падчас нацысцкай акупацыі краіны ў самым канцы вайны, у 1944–1945 гадах.

У кастрычніку 1944-га ў Берагава ўвайшла Чырвоная армія, а летам 1945 года населены пункт у складзе Закарпацця адышоў да Украінскай ССР.


ФОТА АЛЯКСАНДРА ЛЫЧАЎКІ

**Цыгане ў Берагаве** ўсё яшчэ ездзяць на конях.

## Дзве мовы

Венгерскую мову ў Берагаве чуеш паўсюль. Менавіта па-венгерску вітаюцца ў краме, але прадаўцы лёгка пераходзяць на ўкраінскую ці рускую, калі чуюць іх у адказ. Тут шмат двухмоўных вітрын, але ёсць і толькі венгерскія.

На фасадзе мэрыі напісана вялікімі літарамі: Міська рада / Városháza. Над уваходам, акрамя ўкраінскага, вісяць венгерскі сцяг і сіні з зоркамі штандар ЕС. У вокнах — вытрымкі з законаў Украіны аб праве меншасці вывешваць сцягі, развіваць культурныя традыцыі, а таксама вучыцца на роднай мове.

Цытаты — не проста так. Цэнтральныя ўлады Украіны, як і дэпутаты ад украінскіх раёнаў Закарпацця, спрабавалі забараніць вывешванне венгерскага сцяга. Марна. Тэма сцягоў вострая для ўсяго рэгіёна. Суседняя Славакія забараніла вывешваць сцягі іншых дзяржаў на адміністрацыйных будынках. Тады ўпартыя жыхары венгерскіх гарадкоў сцягі пачалі ўздымаць не на фасадах, а на флагштоках перад уваходамі ў мэрыі.

Мэра Берагава завуць Золтан Адальбертавіч Бабяк. Цэнтральная плошча ў горадзе носіць імя Лаяша Кошута.

У горадзе сустракаюцца шыльды венгерскіх школ. ▶



ФОТА АЛЯКСАНДРА ЛЫЧАЎКІ

**Прыпынкі ў Берагаве аформлены на дзвюх мовах.** На раскладзе аўтобусаў удакладненне: «па кіеўскім часе».

**Былая Вялікая сінагога** ў цэнтры горада ў савецкія часы была моцна перабудавана, у ёй зрабілі Дом культуры. Але некалькі гадоў таму на будынку з'явілася выява сінагогі. У Берагаве ў 1930-я гады жыло некалькі тысяч яўрэяў. Венгерскія ўлады прынялі антысеміцкія законы яшчэ ў 1930-я, але да 1944-га правадыр краіны адмірал Хорці не дапускаў іх фізічнага вынішчэння. Халакост адбыўся толькі пасля акупацыі краіны нямецкімі войскамі. У яўрэяў быў большы шанец выжыць там, дзе ў вайну захоўвалася нацыянальная дзяржава (гл. пра гэта артыкул Максіма Маханькова «Пры якіх умовах Халакост можа паўтарыцца» ў № 6/2019 «Нашай гісторыі») — Венгрыя была сярод такіх краін.

▶ І з гэтым не ўсё проста: у 2017-м Украіна прыняла закон аб украінскай мове выкладання ў школах. Навучанне на роднай мове, напрыклад венгерскай, прадугледжана ў пачатковых школах, а далей — на ўкраінскай. Венгры Закарпацця лічаць, што гэта парушае іх правы, афіцыйная Венгрыя працягвае пра гэта перамовы з украінскімі ўладамі.

У жыхароў Берагава сувязі з Венгрыяй сёння шчыльныя. Шмат хто мае пашпарт суседняй краіны, многія выпраўляюцца ў Еўрасаюз на заробкі — такой магчымасці прысвечаныя шматлікія аб'явы на вуліцах.

«Мой бацька — украінец, маці — венгерка. Такія сем'і тут звычайная з'ява», — распавядае пра тутэйшую сітуацыю ўладальнік аднаго з берагаўскіх хостэлаў.

Толькі калі ў XIX стагоддзі дзеці ў змешаных сем'ях запісвалі сябе ў венгры, цяпер яны часцей за ўсё рэгіструюцца ўкраінцамі.

Этнічную мазаіку дапаўняюць каларытныя цыганы. Яны, дарэчы, размаўляюць па-венгерску. На ўскрайку горада ёсць вялікі цыганскі квартал — Акрэмы хутар, шмат людзей там жывуць за мяжой беднасці. Асноўныя заняткі — праца на будоўлях, гандаль і сарціроўка смецця.

Шмат разоў на дзень у цэнтры Берагава можна пачуць цокат капытоў па брукаванцы — гэта едзе конь з возам. На ім — цыган у каларытным капелюшы ці цэлая сям'я. Ромы дагэтуль выкарыстоўваюць гужавы транспарт для паездак па горадзе і для перавозкі грузаў.

## Берагаўскі гандбол

«Бакцянка» — так называлася жаночая гандбольная каманда з невялікага Берагава, якая ў 1980-я гады гуляла ў вышэйшай лізе чэмпіяната СССР. Яе назва — ад сяла Вялікая Бакта за 7 кіламетраў ад Берагава, дзе базіравалася каманда. У 1989 годзе яна перабралася ў абласны цэнтр, Ужгарад, і стала называцца «Карпаты».



**Ужгарадскія «Карпаты»** і дагэтуль адна з наймацнейшых жаночых гандбольных каманд Украіны.

## Гуляш, бograч і вінныя скляпы

У Берагаве варта есці гуляш (суп з ялавічыны, бульбы, морквы, салодкага перцу і памідораў), бограч (гуляш у яго карпацкай форме), банаш (кукурузная каша, часам вараная на смятане, з брынзай і вяндлінай). «Бомбезна кухня!» — выгукае выпадковая знаёмая, рэкамендуючы, куды зайсці на абед.

Калі ёсць час і адпаведны настрой, можна выправіцца ў атмасферны вінны склеп на вуліцы Вінаграднай ці наведаць адну з дэгустацыйных залаў. У сутарэннях вам распавядуць легенду пра ўладальніка замка ў Мукачаве, які шмат стагоддзяў таму разграбіў Берагава, забраўшы больш за сотню бочак віна.

Мясцовыя спачувалі нам, калі чулі: «Мы да вас на два дні, толькі горад паглядзець». Справа ў тым, што шмат хто едзе сюды на аздараўленне, а якое ж аздараўленне за два дні! Таму і гучыць прысуд: «Калі вы не былі на тэрмальных крыніцах — вы не былі ў Берагаве!» Басейны з вадой, якая застаецца гарачай нават узімку, ёсць у аздараўленчым комплексе «Жаўранак», а таксама на тэрыторыі



DEPOSITPHOTOS.COM. BY TSIDVINTSEV

**«Калі вы не былі на тэрмальных крыніцах —** вы не былі ў Берагаве!»

## Як чытаюцца спалучэнні літар па-венгерску

| | | | |
|---|---|---|---|
| c | ц | g | г |
| cs | ч | ly | й |
| dz | дз | s | ш |
| dzs | дж | sz | с |
| gy | дь | zs | ж |

## Напісанне па-венгерску і вымаўленне

Imre Nagy [Імрэ Надь]
Sándor Petőfi [Шандор Пэтёфі]
Ferenc Liszt [Фэрэнц Ліст]
Ferenc Puskás [Фэрэнц Пушкаш]
Ferenc Gyurcsány [Фэрэнц Дьюрчань]

ФОТА АЛЯКСАНДРА ЛЫЧАЎКІ







У Берэгсасе ціха і прыгожа.

комплексу «Закарпацце». Дарэчы, у апошнім у часы СССР была алімпійская трэніровачная база.

## Мясцовыя прызвычаіліся да жыцця па двух гадзінніках

### Па якім часе ты жывеш?

Людзі ў Берагаве, як, дарэчы, і ва ўсім Закарпацці, жывуць у двух вымярэннях: хтосьці карыстаецца кіеўскім часам, іншыя — мясцовым, сярэднееўрапейскім.

Асаблівасць не адразу кідаецца ў вочы, але рана ці позна вы яе заўважаеце. На прыпынку грамадскага транспарту напісана, што графік руху дадзены «за київським часом». Вандроўнік пачынае хваляваацца, што прапусціць аўтобус. А вось рэжым працы кавярні ў цэнтры весяліць: для тых, хто чытае кірыліцай, — з 8.00 да 20.00, а пры лацінскіх літарах — з 7.00 да 19.00.

Мясцовыя да жыцця па двух гадзінніках прызвычаіліся, нічога дзіўнага ў такім укладзе не бачаць. Уладальніца невялікай утульнай кавярні распавядае, што так тут жылі і пры саветах.

На пытанне, як не заблытацца, калі дамаўляешся пра сустрэчу, жыхарка Берагава адказвае: «Дык нічога складанага ж няма. Размаўляю з чалавекам — і адразу ▶




WIKIMEDIA COMMONS




Тэрыторыі, дзе **большасць насельніцтва гаворыць па-венгерску.**


ФОТА АЛЯКСАНДРА ЛЫЧАЎКІ

**Сонечны гадзіннік на касцёле** паказвае еўрапейскі час.

▶ разумею, па якім часе ён жыве: па Кіеве ці па Будапешце».

Людзі прыстасоўваюцца, а сонечны гадзіннік на сцяне ўжо вядомага нам старажытнага касцёла Узвіжання Святога Крыжа бескампрамісна паказвае сярэднееўрапейскі час.

Якім будзе для Еўропы XXI стагоддзе? Гэта будзе час, калі людзі розных культур будуць шчасліва жыць разам? Або адродзіцца права моцнага і пачнуцца новыя перадзелы межаў? Ёсць сілы, зацікаўленыя ў распальванні канфлікту. У 2018 годзе быў падпалены венгерскі культурны цэнтр Ужгарада. Следства выявіць, што зрабілі гэта гастралёры — трое польскіх радыкалаў на грошы звязанага з Расіяй нямецкага журналіста.

Пакуль у Берэгсасе ўсё ціха і прыгожа. ◆

Больш пра шматаблічнае ўкраінскае Закарпацце чытайце ў артыкуле Андрэя Кусія «За гарамі, за даламі. Закарпацце: незвычайная кухня, мінеральныя воды, венгерская спадчына, русіны» ў № 4/2019 «Нашай гісторыі».

# БОГРАЧ

*Bogracs* па-венгерску — гэта казан. *Gulyas* — гэта па-венгерску пастух, а мяса «па-пастушынаму» называлі *gulyas hus*.

Класічны бограч-гуляш, суп пастухоў, вараць у казане на вогнішчы. Але смачны бограч можна гатаваць і дома. Вось рэцэпт, адаптаваны ў тым ліку да мультыварκі.

Асноўныя прынцыпы бограчу такія.

Ён самы смачны, калі яго гатуюць з розным мясам адначасова. Якое маеце, такое і кладзіце. Акрамя ялавічыны і свініны, смак бограчу надаюць рабрынкі і галёнка, трохі засмажанага сала, а пад канец — трохі кілбаскі.

Ялавічына, рабрынкі і галёнка доўга тушацца, да мяккасці, каб раставала ў роце.

Абавязковы інгрэдыент бограчу — салодкі перац папрыка. Яго кладуць і свежым (таму бограч гэта найперш летня-восеньская страва, калі ёсць сезонны перац), і сушаным, молатым.

Памідоры, морква, бульба, цыбуля — таксама абавязковыя кампаненты.

Добры бограч — гэта феерверк розных смакаў. Таму, акрамя розных інгрэдыентаў, яго дапаўняюць рознымі прыправамі: часнок, чабор, кроп, пятрушка, кмен і, канечне ж, востры чырвоны перац. Як і папрыку, яго кладуць аднačасова і свежым стручком, і сушаным молатым.

Нарэшце, кульмінацыя — гэта трохі чырвонага віна. І галушачкі-шчыпеткі.

Магчымыя інгрэдыенты на 4 вялікія-вялікія порцыі:

- вада — 2–3 л
- сала (звычайнае або венгерскі шпік) — грамаў 50–60
- ялавічына — 200 г
- свініна — 200 г
- рэбры (звычайныя або вэнджаныя) — 200 г
- каўбаса для смаку (сушаная або вэнджаная) або вяндліна — 50–100 г
- свіная галёнка (калі гатуеце вялікую каструлю ці казан, то лішняй не будзе,


DEPOSITPHOTOS.COM, BY DIETMARRAUSCHER

**Венгры ядуць бограч і гуляш вострым.** Беларусам ён будзе смакаваць з меншай колькасцю перцу.

калі малую каструлю, то без яе)
- цыбуля — 1–2 галоўкі
- папрыка молатая (чырвоная) — сталовая лыжка
- бульба — некалькі бульбін
- морква — не малая
- салодкі перац папрыка — штукі дзве
- свежыя памідоры — адзін вялікі ці некалькі малых
- спецыі: часнок, кмен, чабор (як мінімум палова чайнай лыжкі), зяленіва (кроп, пятрушка)
- востры чырвоны перац (палова чайнай лыжкі — калі для дзяцей, то мінімальна)
- востры перац стручком — адна штука
- чырвонае віно (лепш паўсухое венгерскае) — каля 50 г

Для шчыпеткаў:
- мука — грамаў 100 (столькі, каб цеста можна было «шчыпаць»)
- яйка — 1 штука
- соль




**Класічны бограч гатавалі на адкрытым агні.**

Мяса нарэжце кубікамі. На павольным агні ў казане (ці патэльні, калі далей будзеце гатаваць у мультыварцы, ці ў качачніцы або іншай каструлі з тоўстым дном, калі будзеце гатаваць у ёй) растапіце дробна парэзанае сала да залатых скарынак, дадайце дробна парэзаную цыбулю, а як абсмажыцца да залатога колеру, дадайце молатую папрыку. Перамяшайце.

Дадайце ў поліўку нарэзанае мяса — і яшчэ раз старанна перамяшайце і абсмажце.

Нельга, каб поліўка падгарала! Молатая папрыка ад таго робіцца нясмачная.

Калі будзеце далей гатаваць у мультыварцы, то перакладзіце мяса з поліўкай туды. Калі ў казане ці качачніцы — пакідайце там.

Пакладзіце рэбры, галёнку і заліце страву вадой так, каб усё мяса было пакрытае. Усё гэта трэба тушыць на малым агні, памешваючы і даліваючы пры неабходнасці ваду, 2–2,5 гадзіны.

Калі вы варыце бограч з галёнкай, то, як мяса пачне аддзяляцца ад косткі, яе вымаюць з казана і разбіраюць. Мяса рэжуць на невялікія порцыі і кідаюць назад у страву.

Пасля гэтага даліваеце рэшту вады, соліце і дадаяце гародніну. Гуляш тушыцца яшчэ 30 хвілін. Найперш дадаюць парэзаную кубікамі моркву (яна варыцца каля 30 хвілін). Пасля — бульбу долькамі (вараць 25 хвілін). Пасля — салодкі перац. Нарэшце — памідоры.

У самым канцы дадайце ў бограч спецыі.

Венгры таксама кідаюць у бограч шчыпеткі — маленькія галушкі.

З мукі, яек і солі (без вады) замешваюць цеста, а пасля абсыпанымі мукой рукамі шчыплюць яго памерам з пазногаць. «Чыпетке» — так па-венгерску — выкладаюць на драўляную дошку, каб падсушыць, а пасля вараць у супе. Праз 5–6 хвілін яны ўсплываюць. Таму іх кідаюць у бограч за 5–10 хвілін да гатоўнасці.

У самым канцы можна дадаць нарэзанае зяленіва.

Для водару ў гатовы гарачы бограч выліваюць келіх чырвонага віна.

Па-старадаўняму, калі казан здымалі з агню, у гуляш таксама на некалькі імгненняў апускалі палаючую галавешку з цвердалістай (дуб, клён, ясень, акацыя) або фруктовай пароды дрэва. Так суп пачынаў пахнуць яшчэ і дымам.

Ядуць бограч гарачым, запіваючы прахалодным чырвоным віном.

**Гарадзішча Білёніс у Шалальскім раёне Таўрагскага павета сучаснай Літвы** — адно з найбольш верагодных месцаў колішняга знаходжання замка Пілены.

# Абаронцы Піленаў

**Як загінула літоўская Масада, расказвае кандыдат гістарычных навук Алег Дзярновіч.**

У нямецкіх хроніках гэтыя падзеі апісваліся так.

У лютым 1336 года дзевятнаццаты вялікі магістр Нямецкага ордэна Дзітрых фон Альтэнбург рушыў на паўночныя землі Вялікага Княства Літоўскага, каб перавыхоўваць паганцаў. Суровы фанатык, магістр Дзітрых вёў свежыя сілы, у якіх была прадстаўленая ледзь не ўся Еўропа: аддзелы герцага брандэнбургскага, графаў з Фландрыі, Францыі, нямецкіх і аўстрыйскіх земляў. Атрад добра ўзброеных «гасцей» налічваў каля 200 шаломаў.

25 лютага 1336 года рыцары ўзялі ў аблогу *castrum Pillenen in terra Troppen*. Відаць, гэты «замак Пілены» ў «зямлі Тропен» быў важным апорным пунктам у Жамойці, на мяжы з ужо заваяванай Ордэнам Прусіяй. Праўда, і да сёння невядома, дзе дакладна ён быў размешчаны: магчыма, на паўночным (правым) беразе ніжняга Нёмана.

Ордэнскі храніст Віганд Марбургскі рыфмаванай прозай на сярэдне-верхненямецкай мове (*vulgari teutonico*) пісаў, што да замка Пілены збеглася звыш 4 000 чалавек з чатырох земляў. Пабачыўшы крыжацкае войска, язычнікі «страцілі надзею на ўтрыманне замка» і сталі кідаць сваю маёмасць у полымя.

**Доўгі час лічылася** што замак Пілены месціўся на гарадзішчы Пуня ў Троцкім павеце (сёння Алітускі раён Літвы). Ля падножжа гарадзішча быў нават усталяваны **мемарыяльны камень (на фота)** з радкамі класіка літоўскай літаратуры Майроніса (Ёнаса Мачуліса).

*Гэта магіла волатаў Маргіса!*
*Хоць прайшло шэсць вякоў,*
*Што яны — проста жменька попелу!..*
*Але скажуць больш, чым жывыя.*



А пасля — забіваць самі сябе. Драматызму аповеду надаваў сюжэт пра *vetula pagana* («старую паганку»),


WIKIMEDIA COMMONS

як можна меркаваць — чараўніцу, якая сякерай забіла сотню сваіх супляменнікаў, а потым — сябе.

І ўжо калі замак быў захоплены, частка абаронцаў, параненыя, здолела ўцячы на конях. Але, калі яны адарваліся ад пагоні, правадыр паганцаў закалоў сваю



жонку і ўкінуў яе цела ў агонь. Паганцы, уражаныя такой рашучасцю, схілілі свае галовы — і правадыр пазабіваў іх усіх.

Замак Пілены быў разбураны і пасля не аднавіўся.

## Упоравень з Талай і Масадай

У сярэдзіне XV стагоддзя на замову польскага гісторыка Яна Длугаша хроніка Віганда была перакладзена на лацінскую мову. Пры гэтым быў зроблены не толькі пераказ падзей, але і іх інтэрпрэтацыя. Там, дзе ў Віганда Марбургскага былі паганцы (*pagani*), у лацінскім тэксце з'явіліся літоўцы (*lithwani*). Апроч таго, калектыўны суіцыд у Піленах у Віганда Марбургскага зладзіла язычніцкая чараўніца з рытуальнай сякерай, а ў Яна Длугаша — сам правадыр замка.

У сваю чаргу, гісторык ужо XVI стагоддзя Мацей Стрыйкоўскі паказаў, як менавіта трэба ставіцца да гэтай гісторыі — як да гераічнага нацыянальнага міфа. Расказваючы пра Пілены, ён параўнаў гэтыя падзеі з аблогай замка Тала падчас Югурцінскай вайны 112–105 гадоў да н. э. паміж Рымам і паўночнаафрыканскім нумідзійскім царом Югуртам, пра якую сам прачытаў у Гая Салюсція Крыспа.

Горад Тала быў адной з тых рэзідэнцый, дзе захоўваўся скарб цара Югурты. Пасля паразы, панесенай ад рымскага палкаводца Матэлы, Югурта хаваўся ў пустыні Сахара, а горад быў узяты ў аблогу рымскімі войскамі. Праз сорак дзён аблогі рымляне авалодалі горадам, але не нумідзійскімі багаццямі. Паводле Салюсція, пабачыўшы, што гарадскі мур разбіваюць таранамі, верныя Югурту гараджане перанеслі золата і срэбра ў царскі палац,



SVAJKSTA.BY

Літоўцы лічаць, што **Маргер (Маргірыс) мог быць братам Віценя і Гедыміна**. Карціна Артураса Слапшыса.

а там, «напіўшыся і наеўшыся», кінулі ў агонь царскія скарбы і падпалілі палац. Добраахвотна аддаўшы сябе смерці, яны згарэлі.

Такую ж гераічную ахвярнасць праявілі і абаронцы старажытнай цытадэлі, узведзенай царом Ірадам Вялікім у 25 годзе да н. э. на гары Масада. Падчас антырымскага паўстання, вядомага як Першая Іўдзейская вайна, Масада была занятая паўстанцамі-зілотамі. Яны хацелі любымі сродкамі спыніць рымскае панаванне ў Іўдзеі. Цытадэль трапіла пад кантроль сікарыяў — баявой габрэйскай групоўкі, якая адкалолася ад зілотаў ды стала на шлях прамых нападаў і тэрарыстычных актаў.

У 70 годзе рымскія легіёны аблажылі Масаду. Тысячы рабоў будавалі дарогі і насілі зямлю для вала вакол цытадэлі, штурмавога пандуса і пляцовак для кідальных машын і таранаў. З дапамогай гэтых таранаў рымляне прабілі-такі знешнюю сцяну фартэцыі, а пасля падпалілі і ўнутраную драўляную сцяну. Лёс Масады быў вырашаны.

Правадыр паўстанцаў Элазар бэн Яір звярнуўся да сікарыяў ▸

з палымянай прамовай. Сучаснік тых падзей, старажытнагабрэйскі гісторык Іосіф Флавій так падае яе тэкст:

«Будзьце мужныя, героі, пакрыйце сябе славай!... Не аддамо ж сябе цяпер добраахвотна ні рабству, ні тым жахлівым пакутам, якія чакаюць нас. Не зганьбім сябе перад рымлянамі, не здамося ім жывымі!... Мы першыя паўсталі супраць іх і апошнімі пакідаем поле бою... Вялікую ласку аказаў нам Бог, даўшы магчымасць памерці смерцю герояў, загінуць свабоднымі людзьмі, чаго не дадзена было здзейсніць нашым братам, паланёным знянацку... Хай нашыя жонкі памруць не зганьбаванымі і нашы сіроты не зведаюць горычы рабства. А таму саслужым адзін аднаму апошнюю службу, акажам апошнюю міласць, і што можа быць, браты, лепшым і даражэйшым за пачэсны саван свабоды? Але перш чым памром, аддамо агню нашую маёмасць і крэпасць. Я дакладна ведаю: рымляне пакрыўдзяцца, убачыўшы, што не ўзялі нас жыўцом і ашукаліся ў сваіх спадзяваннях пажывіцца здабычай. Толькі прадукты пакінем некранутымі, каб яны сведчылі пасля нашай смерці, што мы не пакутавалі ні ад голаду, ні ад недахопу вады, але самі аддалі перавагу смерці перад няволяй — як і пастанавілі загадзя...»

Іосіф Флавій таксама занатаваў успаміны дзвюх жанчын, якія здолелі схавацца ў пячоры і потым расказалі рымлянам, як адбыўся калектыўны суіцыд. Спачатку мужчыны забілі сваіх жонак і дзяцей, затым па жэрабі адзін аднаго: «...затым абралі па жэрабі дзесяць чалавек, якім трэба было закалоць астатніх. І кожны распластаўся на зямлі каля сваіх мёртвых жонкі і дзяцей, абхапіўшы рукамі іх цела, і з ахвотай падставіў сваё горла дзесяцярым, якія выконвалі жахлівы абавязак. Гэтыя людзі без уздрыгу пракалолі мячамі ўсіх, аднаго за адным. Затым яны кінулі жэрабя паміж сабой, каб той, на каго пакажа лёс, забіў дзевяцярых таварышаў, а затым наклаў рукі і на сябе... Назаўтра падняліся рымляне на Масаду, і калі знайшлі груды забітых, не ўзрадаваліся пры выглядзе загінулых ворагаў, а толькі застылі ў маўчанні, уражаныя веліччу іх духу і нязломнай пагардай да смерці».



Ілюстрацыі для першага выдання рамана «Кунігас» падрыхтаваў **Міхал Эльвіра Андрыёлі.**

Амаль неверагодна, але падчас археалагічных раскопак цытадэлі сапраўды знайшліся каменныя таблічкі з імёнамі, якія выкарыстоўваліся ў якасці жэрабя дзесяццю забойцамі.

## Легенды, легенды

У XIX стагоддзі, у эпоху рамантызму, летапісны сюжэт з абаронай Піленаў зажыў новым жыццём, бо прыцягнуў увагу белетрыстаў. Вядомы як драматург і раманіст, які добра патрапляе ў густы натоўпу, Аўгуст фон Кацэбу ў пачатку XIX стагоддзя ўзяўся пісаць «Гісторыю старажытнай Прусіі» (выйшла ў 1808 годзе). Не забыўся ён і пра Пілены, разбурэнне якіх назваў «самай дзіўнай падзеяй гэтага рэйду». У адпаведнасці з традыцыямі рамантызму, руіны замка сталі «помнікам адвагі тых паганцаў, вартым пяра Тацыта, як і ліры Гамера», а загінулых абаронцаў нямецкі аўтар называе «высакароднымі варварамі».

Каб узмацніць драматызм, фон Кацэбу дадаў у першасны сюжэт дэталяў ад сябе. У прыватнасці, ён прыдумаў, што адну з найважнейшых роляў падчас штурму выканалі трыццаць лучнікаў рыцара Вернэра фон Рандорфа, якія выпусцілі 600 стрэлаў, абматаных каноплямі, змочанымі ў смале. Агонь нібыта зрабіў немагчымай абарону драўлянага замка — і наступіла вядомая ўжо нам трагічная развязка.

Эстафету мастацкага ўдасканалення сюжэту абароны Піленаў падхапіў Тэадор Нарбут. У ягонай працы «Гісторыя літоўскага народа» (1835–1841) ахвяраў стала ўжо 12 000 чалавек. А яшчэ да сюжэту дадаліся словы прарочыцы і алтар Зніча — святога агню паганцаў.

## Кунігас Маргер

Некалькі новых пытанняў у тэме Піленаў паставіў літаратар і гісторык Юзаф Ігнацы Крашэўскі ў манаграфіі «Старажытная Літва. Яе гісторыя, законы, мова, вера, звычаі, песні...» (1847–1850): ці не паходзіць назва Пілены ад літоўскага *pilis* — замак, ці не быў правадыр паганцаў, «непераможнай яцвяжскай адвагі» ваяр Маргер князем?

А пазней ён сам і адказаў на свае пытанні — цэлым раманам «Кунігас», што ўпершыню выйшаў у 1882 годзе.

Менавіта ў рамане Юзафа Крашэўскага з'явіўся літоўскі герой Маргер (Маргірыс), лёс якога нібыта быў звязаны з абаронай Піленаў. Паводле раманіста, у дзіцячым узросце Маргер быў захоплены крыжакамі падчас аднаго з рэйдаў у глыб літоўскай тэрыторыі, атрымаў хрысціянскае імя Юрый і выхоўваўся ў крыжацкай сталіцы Марыенбургу (Мальбарку). Але «голас крыві» ўрэшце перамог, прывёў юнака да сваіх суродзічаў, і Маргер-Юрый узначаліў абарону Піленаў ад крыжакоў.

**Аўгуст фон Кацэбу** быў газетным агентам на расійскай службе ў Остзейскім краі. Ён выдаваў у Берліне газеты, якія праводзілі прарасійскую прапаганду, быў вядомы сваімі нападкамі і на нямецкіх лібералаў, і на нацыяналістаў. Мяркуецца, што менавіта за сваю прарасійскую пазіцыю фон Кацэбу быў заколаты кінжалам студэнтам-радыкалам Карлам Людвігам Зантам. Гэтае забойства стала нагодаю для забароны студэнцкай карпарацыі Буршэншафт і адмовы ад увядзення ў Прусіі і іншых нямецкіх дзяржавах канстытуцыі.

## Жаданне літоўцаў

І ўсё ж сцвярджаць, што ўсю гісторыю пра кунігаса Маргера прыдумаў Юзаф Ігнацы Крашэўскі, будзе няправільна. ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Апошнія хвіліны жыцця легендарнага Маргера. Карціна Уладзіслава Канстанціна Маераноўскага**, сярэдзіна XIX стагоддзя. Для палякаў пафас карціны ўспрымаўся як антынямецкі, скіраваны супраць Прусіі — адной з дзяржаў, што здзейснілі падзелы Рэчы Паспалітай.

▶ Справа ў тым, што яго апярэдзіў асветнік і адзін з пачынальнікаў літоўскага нацыянальнага руху Сімонас Даўкантас. Даўкантас скончыў Віленскі ўніверсітэт у 1822 годзе, але з-за працэсу філаматаў-філарэтаў дыплом магістра права атрымаў толькі ў 1825 годзе.

Яшчэ ў студэнцкія гады, у 1822-м, Даўкантас падрыхтаваў першую сваю працу па гісторыі Літвы «Дзеянні старажытных літоўцаў і жамойтаў». У нарацыі Даўкантаса быў узмоцнены маральна-псіхалагічны складнік, падкрэслівалася жаданне літоўцаў памерці, але не стаць рабамі крыжакоў. Даўкантас дазволіў Маргірысу сказаць: «Няхай нявінная кроў цячэ па галовах гэтых крывасмокаў, якія адбіраюць у нас свабоду, якую далі самі багі». І дадаў: «Мы дзякуем нябёсам, што сёння мы можам памерці на свабодзе, нягледзячы на тое, што нас прыгнятаюць».

Пры жыцці аўтара, праўда, ягоны твор не друкаваўся, апублікаваны ён быў толькі ў ХХ стагоддзі. Можна толькі здагадвацца, ці мог Крашэўскі чытаць яго ў рукапісе. У кожным разе ў канцы ХІХ – пачатку ХХ стагоддзя распрацоўкі Даўкантаса і Крашэўскага сталі вельмі запатрабаванымі.

Да пачатку ХХ стагоддзя міф пра Пілены шырока пайшоў у масы, стаў для літоўцаў без перабольшання нацыятворчым. У 1905 годзе пісьменнік Марцэлінас Шыкшніс апублікаваў п'есу «Піленскі князь», створаную паводле рамана Юзафа Крашэўскага «Кунігас». 6 мая 1906 года п'еса была пастаўлена ў Віленскай ратушы, і лічыцца, што гэта была ўвогуле першая значная літоўскамоўная

## Анты-Валенрод

Для чытача ХІХ стагоддзя раман «Кунігас» Юзафа Крашэўскага наўпрост спасылаўся на паэму Адама Міцкевіча «Конрад Валенрод». Яна выйшла ў лютым 1828 года і стала адным з найбольш значных літаратурных твораў рамантызму.

**«Адзінай зброяй нявольнікаў ёсць здрада»**

Паводле сюжэту, галоўны герой паэмы літоўскі хлопчык Альф трапляе ў крыжацкі палон (як і Маргер). Хлопца выхоўвае як роднага сына вялікі магістр Вінрых. Нягледзячы на добрае абыходжанне з боку немцаў, Альф, вонкава скарыўшыся, употай трымае нянавісць да Ордэна.

Палонны літоўскі пясняр Гальбан намаўляе Альфа, каб той спачатку ўсё даведаўся ад немцаў, а затым выкарыстаў веды супраць іх, бо «адзінай зброяй нявольнікаў ёсць здрада».

У першай жа сутычцы з язычнікамі, у якой Альф бярэ ўдзел, ён пераходзіць на бок літоўцаў і дапамагае ім перамагчы. У будучым, пасля наведвання Іерусаліма, Альф выдае сябе за загінулага ў Святой Зямлі пры невядомых абставінах графа Конрада Валенрода і нават абіраецца вялікім магістрам Ордэна.

Трэба сказаць яшчэ, што Конрад фон Валенрод (1330/1340–1393) сапраўды быў вялікім магістрам Ордэна, і прытым непасрэдным кіраўніком Віганда Марбургскага, стваральніка легенды пра Пілены. Ён паходзіў з рыцарскага франконскага роду і ў сваёй палітыцы быў моцна завязаны на Вялікае Княства Літоўскае, першапачаткова падтрымліваў Вітаўта ў яго канфлікце з Ягайлам. Ордэнскія храністы яго не любілі: маўляў, быў недастаткова шчодры да царквы, — а паданні зрабілі з Конрада нават ліцвіна.

Міцкевіч ведаў пра гістарычнага Конрада Валенрода і пісаў у каментарах да паэмы, што рэальны Валенрод сапраўды паставіў Ордэн на мяжу пагібелі, а сам памёр пры цьмяных абставінах.


WIKIMEDIA COMMONS

**Акцёры спектакля «Піленскі князь»**, пастаўленага ў 1910 годзе літоўскім асветніцкім таварыствам «Varpas» («Звон») у Шаўлях. П'еса Марцэлінаса Шыкшніса (пад псеўданімам М. Шаўлянішкіс).

### Адам Міцкевіч. «Конрад Валенрод»

Сто лет мінала крыжацкай навале,
Як кроў з паўночных смактала
паганаў.
Прусы ўжо шыі ў аковы згіналі
Або ўцякалі з радзімых палянаў;
Немец за ўцёкшым пускаўся ўдагонкі,
Нішчыў да самай літоўскай старонкі.

Літвінаў дзеліць ад ворагаў Нёман:
З аднаго боку льсняць стрэхі
святыняў,
І лесу — схову багоў — чуваць гоман;
З другога — ўбіты на ўзгорку пустыні
Крыж, знак нямецкі, рад к небу
сягнуці,
Грозна пільнуе літоўскіх загонаў,
Як бы ўсю чыста зямлю Палямона
Хацеў бы зверху здушыць, загарнуці.

*Янка Купала*


ФОТА АСТАСА САБАНІТАСА

сцэнічная пастаноўка. Пасля яна пераможна крочыла па тэатральных падмостках, у тым ліку ў часы незалежнай Літвы міжваеннага часу, веды пра Пілены і гонар за іх зрабіліся ўсеагульнымі. Не змянілася сітуацыя і пасля акупацыі Літвы СССР, бо ідэя ахвярнасці ў абароне радзімы надта добра клалася і ў савецкую ідэалогію.

### Рэвізія міфа

У сучаснай Літве гісторыю пра Пілены і яго правадыра Маргірыса ведае кожны школьнік, і не будзе перабольшаннем сказаць, што большасць літоўцаў на ёй выгадавана. Таму сапраўдным шокам для літоўскай грамадскасці стала з'яўленне ў 2010 годзе кнігі Даруса Баронаса і Дангіраса Мачуліса «Пілены і Маргірыс: гісторыя і легенда». Медыявіст Баронас прааналізаваў розныя версіі аповеду пра Пілены і прыйшоў да высновы, што звыклая версія падзей занадта рамантычная і не зусім адпавядае крыніцам.

Літоўскі гісторык мяркуе, што яшчэ да пачатку аблогі абаронцы Піленаў страцілі ўпэўненасць у тым, што змогуць абараніць свой замак. Крывавы хаос пачаўся з узаемнага забойства і знішчэння маёмасці. Далейшы лёс правадыра Маргірыса невядомы, а яго маляўнічае самагубства аказваецца літаратурным вынаходніцтвам значна пазнейшых часоў. Адной з яскравых асаблівасцяў гэтай гісторыі, паводле Баронаса, з'яўляецца адсутнасць актыўнага супраціву з боку літоўцаў. І толькі Ян Длугаш у XV стагоддзі «прымусіў» літоўцаў супраціўляцца.

Таму кніга Баронаса і Мачуліса выклікала моцнае незадавальненне кансерватыўных колаў. Што ж, у такіх дыскусіях і фармуюцца адметныя рысы нацыянальнага самаўспрымання.

Магчыма, з часам навукоўцы знойдуць новыя факты, якія дазволяць ужо ўпэўнена рэканструяваць гісторыю гібелі Піленаў. ◆

**Акерман, Фэлікс. Гісторыя Гародні (1919–1991)** / пераклад з нямецкай мовы Марыны Уласавай, Алены Талапілы, нав. рэд. Валер Булгакаў. — Смаленск: Інбелкульт, 2021. — 488 с.




Гэтая кніга — спроба напісаць гісторыю Гародні XX стагоддзя з гледзішча культурнай антрапалогіі. Яе базай паслужылі вусныя аповеды гарадзенцаў, архіўныя пошукі, а таксама ранейшая гістарыяграфія, да якой аўтар ставіцца падкрэслена крытычна. Адказ на пытанне, як узнікла беларуская Гародня, даецца з улікам мясцовай гісторыі фармавання трох нацыянальных праектаў — польскага, савецкага і ўласна беларускага — на сутыку трох краін: Беларусі, Польшчы і Літвы.

Кнігу можна набыць у мінскіх кнігарнях **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72) і **«Галіяфы»** (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе), у гандлёвым цэнтры **«Купалаўскі»** (пад Кастрычніцкай плошчай, крама 41–42), інтэрнэт-кнігарнях **kniganosha.by** і **knihi.by**, гарадзенскай краме **«Цудоўня»** (вул. Кірава, 3). На сайце **arche.by** выданне даступнае як у папяровай, так і ў электроннай версіі.

# КУБА
## Інфармацыйны і спажывецкі дэтокс

**Востраў свабоды — гэта магчымасць ажыццявіць падарожжа і ў прасторы, і ў часе. Тропікі, машыны 1950-х і сацыялізм як ён ёсць. Ці, можа, дакладней, як ён быў — падарожнічала Кацярына Карпіцкая.**

Я паспела пабываць на Кубе яшчэ перад самым пачаткам пандэміі. Мне цікава было зразумець, як у адной краіне ўжываюцца разняволеная сальса і камунізм, раскоша каланіяльных будынкаў і беднасць, рэкі рому і чэргі па дэфіцытныя лекі. Калі ўлічваць, што летась з-за каранавіруса тры з чатырох турыстаў на Кубу не прыехалі, то эканамічная сітуацыя мусіла зрабіцца яшчэ горшай.

### Як да ўлады прыйшлі камуністы

Куба — востраў у басейне Карыбскага мора плошчай 105 000 км$^2$ (удвая меншы за Беларусь), а таксама дзяржава, у склад якой уваходзяць яшчэ меншы востраў Хувентуд і 1600 дробных выспаў.

Да канца XVI стагоддзя тэрыторыя Кубы была заселена індзейскімі плямёнамі. Для



DEPOSITPHOTOS.COM, BY DANMIR12

іншага свету востраў адкрылі паплечнікі Хрыстафора Калумба. Гэта здарылася ў 1492 годзе, а ўжо ў 1511-м Дыега Веласкес заснаваў тут першае іспанскае паселішча. Прыблізна ў той жа час Калумб урачыста рапартаваў пра забойства мільённага індзейца.

Адрозна ад Кюрасаа, які ў XVII стагоддзі адваявалі галандцы (чытайце пра яго артыкул Таісы Андрэевай у №4/2021 «Нашай гісторыі»), Куба заставалася пад уладай Іспаніі аж да 1898 года, хоць ужо з 1868-га змагалася за незалежнасць. Амерыканцы прысутнічалі ў рэгіёне ў якасці назіральнікаў, і менавіта яны, дарэчы, зафіксавалі смерць тысяч людзей у рэкцэнтрада — прататыпах канцлагераў, збудаваных іспанскім урадам. Але 15 лютага 1898 года ў Гаванскай гавані затануў амерыканскі лінкар — і пад ціскам грамадства завязалася іспана-амерыканская вайна. Праз тры месяцы Іспанія саступіла Амерыцы Пуэрта-Рыка, Гуам і Філіпінскія астравы, атрымаўшы 20 мільёнаў долараў кампенсацыі за сваю інфраструктуру, а таксама перадала часовы кантроль над Кубай.

У 1901 годзе кубінцы прынялі Канстытуцыю і выбралі першага прэзідэнта: Томаса Эстраду Пальма. Але ЗША захавалі права кантраляваць фінансы і міжнародныя адносіны маладой краіны. Наступныя некалькі дзесяцігоддзяў прайшлі пад знакам перадзелу партфеляў і палітычных гульняў.

Ужо з 1933 года рэй тут вёў Фульхенсіё Батыста, спачатку праз марыянеткавых палітыкаў, а пазней і наўпрост як прэзідэнт. Адзін з найвядомейшых дыктатараў свету, ён не цярпеў канкурэнцыі і вальнадумства, але асноўныя сферы дзейнасці ў краіне за часамі яго кіравання кантралявала амерыканская мафія. На востраве квітнелі азартныя гульні і прастытуцыя, а грошы, якія ЗША актыўна інвеставалі ў эканоміку, асядалі ў кішэнях багатай праслойкі грамадства. Звычайныя ж людзі змагаліся з беднасцю і беспрацоўем.

На такім вось фоне да ўлады ў краіне і прыйшлі камуністы. Тэма рэвалюцыі, якая скінула дыктатуру, і ролі Фідэля Кастра ды Эрнэста Чэ Гевары заслугоўвае асобнага артыкула. Для многіх кубінцаў (у тым ліку маладых) гэтыя рэвалюцыянеры застаюцца куміразі. Фідэль і Чэ на Кубе амаль на кожным кроку: на налепках на машынах, сцягах, графіці. Схадзіць у бар, дзе ▶





Асноўнай крыніцай прыбыткаў Кубы на працягу ўсёй гісторыі з'яўляецца цукровая прамысловасць. Кубінцаў ва ўсіх сэнсах тут корміць трыснёг.

▶ засядалі і строілі планы будучыя рэвалюцыянеры, — за ганар для кожнага. На вядомасці гэтых персон у тым ліку будуецца турыстычны бізнэс: магнікі, торбы з Чэ, цыгары, якія «курыў сам Фідэль», усё «як у іх» адразу робіцца даражэйшым у некалькі разоў.

### Дарэвалюцыйнае

Шыкоўная архітэктура старой Гаваны з яе гіпсавымі арнаментамі і каляровай кафляй, аканіцамі, высокімі дзвярыма і вокнамі, унутранымі дварамі, тэрасамі, падвойнымі аркадамі — рэха каланіяльных часоў. Усё гэта збольшага было нацыяналізавана, аддадзена на пражыванне новым жыхарам і цяпер прыходзіць у заняпад. Тут можна лёгка пабачыць такую карціну: некалі шыкоўны дом, падобны да занядбанкі, падзелены на шмат маленькіх пакойчыкаў, дзе людзі жывуць гадамі — з дахамі, што цякуць, і без нармальных санвузлоў.

На вуліцах — рой з «кадылакаў», «пантыякаў», «б'юікаў» і «шэўрале», але ўсе аўтамабілі 1950–1960-х гадоў. Сапраўдны музей аўто пад адкрытым небам! Гэта водгулле дарэвалюцыйных часоў, калі ЗША развівалі тут свае бізнэсы і экспарт. Уявіце сабе: да рэвалюцыі Куба была найбуйнейшым лацінаамерыканскім імпарцёрам амерыканскіх аўтамабіляў і адной з першых краін свету па колькасці аўтамабіляў на душу насельніцтва. Усе гэтыя featheнакаляровыя, яркія, нібыта цацачныя аўто ў мясцовым клімаце выдатна захаваліся. Адно што ездзяць на іх пераважна турысты: як на таксі або бяруць у арэнду.

Дарэчы, з арэндай кожнага можа напаткаць непрыемны сюрпрыз. Так, у Варадэра (а гэта самы папулярны ў турыстаў


ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ


**Запраўка ёсць**, а бензіну няма.

ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

**Няма гаджэтаў, мала машын —** і дзеці гуляюць проста на вуліцы.

ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

курорт) мы ўзялі ў арэнду на суткі скутар за 35 еўра (машыны каштуюць каля 80). Канечне, паехалі яго запраўляць, каб паганяць з ветрыкам у валасах уздоўж Карыбскага мора. Але тут не рэдкасць аб'ехаць некалькі найбліжэйшых заправак і пачуць: «Бензіну няма!» Пакуль аб'язджалі іх — ужо прыкідвалі, як пацягнем скутар назад на сабе. У выніку вярнуліся ўсё ж у пункт арэнды — і супрацоўнік за пяць еўра зліў рэшту бензіну з усіх астатніх скутараў. Хоць нешта.

Разам з машынамі амерыканскай вытворчасці на дарогах нямала прадстаўнікоў савецкага аўтапраму — гэта ўжо пра сяброўства Кубы з СССР аж да распаду апошняга: олдскульныя «жыгулі», «масквічы» і «волгі».

## Савецкі след

Савецкага ў краіне куды больш, чым толькі аўтамабілі. Канечне, у турыстычных анклавах вас сустрэнуць дарагія крамы з сусветна



ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

**На Кубе раскошнае мора і цудоўны клімат, але па-ранейшаму многія тавары тут па картках**

вядомымі брэндамі адзення і тэхнікі, а ў перапоўненым бары *Floridita* (любімым месцы Эрнэста Хемінгуэя ў свой час) нальюць келіх дайкіры, але старая, трушная Гавана — гэта штодзённыя чэргі ў банкі, аптэкі і нават па мяса ды марожанае. ▶

**Мужчына курыць цыгару.** Горад Санта-Клара.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY MASTER2



DEPOSITPHOTOS.COM, BY GRETA6

**Кубінец круціць цыгары.**

▶ Дэфіцытныя тавары мясцовыя жыхары дагэтуль атрымліваюць па картках. Пустыя прылаўкі ці застаўленыя нечым адным паліцы ў крамах — гэта штодзённасць. Нават у найбуйнейшым мясцовым «ГУМе» ў дастатку было толькі рому і тытуню. Калі ж спатрэбілася набыць брытву, прыйшлося абысці горад уздоўж і ўпоперак і ўзяць пакунак аднаразовых лёзаў амаль за 10 еўра.

Як выкручваюцца мясцовыя? Заказваюць праз інтэрнэт. Таксама даўняй традыцыяй тут з'яўляецца дапамога сваякоў і сяброў з «праклятых» Штатаў: яны і грашовыя пераводы дасылаюць, і пасылкі.

Самае крыўднае, што ў такім прыдатным клімаце складана нават з набыццём фруктаў: рынкі паўпустыя, на вуліцах курорта Варадэра зрэдку можна сустрэць яткі з ананасамі ці какосамі (ва ўмоўнай Індыі яны б былі на кожным кроку).




ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

**Карткі на інтэрнэт.**



**Кубінскія пляжы** — сярод самых прыгожых на свеце.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY KMIRAGAYA

## Жытло

Наняць больш-менш таннае жытло накшталт хостэла ці часткі дома на Кубе — не праблема. Праўда, будзьце гатовыя да таго, што за тыя ж грошы, за якія вы ў Еўропе маглі дазволіць сабе неблагі гатэльны нумар (каля 20 еўра за ноч), тут вас чакае пакойчык з ні жывым ні мёртвым кандыцыянерам, высокай вільготнасцю, дрэннай гукаізаляцыяй і, хутчэй за ўсё, без вай-фая.



Куба. **Танцоўшчыца.**

DEPOSITPHOTOS.COM, BY GRETA6

Падобная сітуацыя з кавай: яе не купіць, нягледзячы на тое, што Куба яе вырошчвае і нават экспартуе.

Робіцца крыўдна за мясцовых, якія маглі б някепска зарабляць, калі б не манаполія дзяржавы на бізнэс і адсутнасць здаровай канкурэнцыі: тыя ж пляжы Варадэра ўваходзяць у топ найпрыгажэйшых у свеце. Кубінцам дадзеныя раскошная прырода, мора, нерэальныя гістарычныя дэкарацыі, але ўсё развіццё стопарыцца праз адсутнасць эканамічных свабод. ▶

**Адсутнасць анлайн-жыцця на Кубе кампенсуецца актыўнай жывой камунікацыяй**




**Кубінскія тыпажы.**

ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ


ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

## Кубінскі чурас — гэта проста

- 250 мл вады
- 125 г мукі
- каліўца солі
- алей
- белы цукар

Ваду падсаліце і пастаўце ў каструльцы на сярэдні агонь. Калі закіпіць, зменшыце агонь да мінімуму, усыпце муку і як след перамяшайце драўлянай лапаткай.

Калі мука вымесіцца, выключыце агонь і дайце цесту крыху астынуць, а пасля перакладзіце яго ў кандытарскі кулёк або шпрыц, абавязкова з насадкай у форме зоркі. Выціскайце цеста палоскамі даўжынёй каля 10 см, сэрцайкамі або як на фота — спіраллю (але так вам будзе складана яго перакладваць і пераварочваць).

У патэльні разагрэйце алей і выкладвайце ў яго чурас. Алей павінен пакрываць іх цалкам. Печыва трэба ўвесь час пераварочваць, зручней шчыпцамі, каб яно з усіх бакоў зарумянілася.

Абсмажаныя чурас трэба выкласці на сурвэтку, каб сцёк алей, а пасля выкачаць у цукры. Іх можна есці так або начыніць: прыкладам, шакаладнай пастай.

Галоўнае — ежце іх адразу ж!


ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

Гатуюць **чурас** — іспанскі і лацінаамерыканскі дэсерт з заварнога цеста.

Асобным пунктам ідзе інтэрнэт. Ён з'явіўся тут адносна нядаўна: у 2011 годзе. Першапачаткова ў сеціва маглі выходзіць толькі дзяржслужачыя. З часам пачалі адкрывацца інтэрнэт-кафэ, дзе гадзіна анлайн каштавала каля чатырох долараў (сярэдні заробак кубінцаў пры гэтым каля 30 долараў).

Мабільны інтэрнэт стаў даступны кубінцам у 2014-м. Аператар-манапаліст у краіне — ETECSA. І вось уявіце: каб скарыстацца мабільным інтэрнэтам, вам трэба набыць картку з паролем. Яна адкрывае доступ на гадзіну. Шмат картак адразу ў адныя рукі звычайна не купіш (у нашу вандроўку выдавалі не больш за тры ў суткі, бо гэта таксама дэфіцыт). Пры гэтым скарыстацца карткай можна толькі ў зонах, дзе цягне Wi-Fi. Адшукаць іх вельмі проста: па групцы людзей, якія канцэнтруюцца ў адным месцы, утаропіўшыся ў экраны тэлефонаў.



ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

Яшчэ нядаўна для турыстаў была **асобная валюта, за якую ўсё — у 25 разоў даражэй.**


ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

**Мяса *ropa viesta* і рыс з бабамі.**

Важна заўважыць, што ў кавярні бясплатны вай-фай сустракаецца ну вельмі рэдка, а ў хостэле і доме, дзе мы жылі, ён уключаўся на гадзіну раз на дзень. Хочаш яшчэ — зноў набывай картку. І лепш «сёрфіць» зранку, бо ўвечары сетка можа быць перагружаная. Вядома, што ETECSA развівае і звыклы для нас мабільны інтэрнэт, але пакуль ён застаецца досыць дарагім і нізкахуткасным. Карацей, калі вы хацелі сацсетачна-месенджаравы дэтокс, вам сюды.

## Як лепш дабірацца?

Часцей за ўсё беларускія турысты выбіраюць пералёт з Расіі, адтуль даступныя гатовыя пакеты ад туркампаній. Віза беларусам не патрэбная. Раней можна было падлавіць і нешта з Мінска (вядома, часцей з перасадкамі). Мы ляцелі праз Амстэрдам нідэрландскімі авіялініямі KLM (калі ты ў транзітнай зоне менш за суткі, то шэнген не патрэбны). Квіткі ў гэтым кірунку — самае дарагое: за дваіх туды-назад аддалі крыху больш за тысячу долараў. Але і шлях даўгі: ляцець агулам каля 12 гадзін.

Адсутнасць анлайн-жыцця, натуральна, кампенсуецца жывой камунікацыяй. На вуліцах, у дворыках, проста ў кватэрах кубінцы пастаянна танчаць і клічуць да сябе — зазнаць рытмы сальсы. Пры жаданні — з ромам і цыгарамі, якія ў крамах знайсці прасцей, чым мяса.

## Многія кубінцы скардзяцца ў прыватных размовах: для нас — нічога, усё лепшае — прыезджым

Пасля перамогі рэвалюцыі на востраве забаранілі ўсе азартныя гульні (а перад тым пры дапамозе амерыканцаў тут будавалі цэлую імперыю казіно). Сёння, як і шмат гадоў таму, сярод любімых забаў кубінцаў — даміно і чытанне газет з праглядам тэлебачання проста на вуліцы. У Беларусі нават у вёсках ужо даўно не пабачыш суседзяў, якія збіраюцца на вячэру ў двары свайго дома і выносяць паглядзець тэлевізар.

Кубінцы вельмі камунікабельныя, і вы лёгка ▶


ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

Кубінцы, зусім як французы, **любяць багет.**


ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

**Гаванскі рынак.**

можаце завесці сабе сябра, які за проста так стане вашым асабістым экскурсаводам і дапаможа пранікнуць у месцы для «мясцовых», падкажа, як набыць сувеніры танней. Але на вуліцах шмат і «прыліпал», якія проста могуць выканькваць грошы — сцеражыцеся!

### Ежа для сябе і для турыстаў

Да 1997 года кантакты звычайных кубінцаў з турыстамі дэ-факта былі забароненыя, хоць турызм яшчэ з 1930-х гадоў быў найважнейшай сферай эканомікі. Толькі ў 2008-м былі канчаткова скасаваныя абмежаванні, якія не пускалі мясцовых у турыстычныя анклавы.

Яшчэ летась для турыстаў была асобная валюта: мясцовыя карысталіся нацыянальным кубінскім песа, а прыезджыя — канвертаваным (ці кукамі). У куках усё было даражэй амаль у 25 разоў. Праўда, з 2021 года ўлады вырашылі пакінуць у краіне адну валюту — песа — і запусцілі маштабную грашовую рэформу.

І ўсё адно турыстам тут дазволена значна болей. Многія

### Адукацыя на Кубе

Парадоксы сацыялізму. Па эканоміцы Куба — адна з найбяднейшых краін у рэгіёне, але тым не меней па якасці адукацыі яна апераджае ўсю Лацінскую Амерыку. Адзін з прынцыповых момантаў — загружанасць педагогаў: адзін настаўнік на 12 вучняў. Так што ўзровень непісьменнасці сярод моладзі на Кубе імкнецца да нуля, а добра адукаваныя выпускнікі ўніверсітэтаў запатрабаваныя за мяжой.

На Кубе таксама вельмі добрая сістэма аховы здароўя — яшчэ адна пазітыўная спадчына сацыялізму.



**Дворык Гаванскага ўніверсітэта.** Тут можна завіснуць надоўга, разглядаючы яго архітэктуру і раслліннасць.

ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ



DEPOSITPHOTOS.COM, DEMERZEL21

**Ленінская горка ў Гаване.** Белых постацяў дванаццаць — алюзія на апосталаў.




DEPOSITPHOTOS.COM, BY JEHOEDE

**«Заўсёды да перамогі!» —** жалезны Чэ Гевара на плошчы Рэвалюцыі глядзіць на будынак Міністэрства ўнутраных спраў, у якім ён працаваў.

кубінцы скардзяцца ў прыватных размовах: для нас — нічога, усё лепшае — прыезджым. «Нават нашы дзяўчаты дастаюцца замежнікам». І прадукты мора — таксама толькі для турыстаў.

Мясцовыя ж ядуць белы хлеб ва ўсіх праявах. Як французы з багетамі, так і кубінцы ганяюць з даўгімі батонамі і булкамі (у іх, дарэчы, вельмі цвёрдая скарынка). На вуліцы ўсе таксама жуюць печаныя бананы, іспанскі дэсерт чурас (*churros*) і міні-піцы. Папулярныя нацыянальныя стравы — рыс з бабамі і мяса *ropa viesta* (тушанае з гароднінай і цыбуляй, як наша капуста).

З садавіны на вуліцах прадаюць у асноўным бананы, гуаву, радзей — ананасы і папаю. Ваду яшчэ паспрабуй адшукаць, затое ром паўсюль. Мясцовыя цэняць не распіяраны *«Havana club»*, а *«Legendario»*. А тытунь — *«Cohiba»*.

Мясцовыя скардзяцца на адсутнасць свабоды слова, ▶



ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

**Героі рэвалюцыі застаюцца папулярныя на Кубе.** На фота: Чэ на фары.




DEPOSITPHOTOS.COM, BY GRETA6

**«Батыста ўцёк» — карціна ў Музеі рэвалюцыі ў Гаване.** Батыста быў дыктатарам Кубы, яго зрынулі рэвалюцыянеры на чале з Фідэлем Кастра.

на пастаянныя чэргі, на тое, што, нават атрымаўшы добрую адукацыю зусім бясплатна, уладкавацца на радзіме і мець добры заробак амаль немагчыма, калі ты не паліцэйскі ці вайсковец. Моладзь марыць назбіраць грошы на пераезд у ЗША.

### Выйшлі тыя, хто хоча застацца

Уся гэтая неўладкаванасць разам з агульнай напружанасцю з-за пандэміі ў ліпені гэтага года вылілася ў маштабныя пратэсты.

Дэфіцыт прадуктаў і катастрафічная нястача медыкаментаў, якая абвастрылася ў часы каранавірусу, праблемы змагання з пандэміяй — усё гэта хваляй незадавальнення вылілася на вуліцы ў агульны хор стомленасці ад рэжыму, што пануе на выспе больш за шэсць дзесяцігоддзяў. Пераемнік братоў Кастра Мігель Дыяс-



**Ноч. Гавана, уздоўж Малекона — шырокай эспланады.**

DEPOSITPHOTOS.COM, BY BRIANS101



**Сабор Святога Хрыстафора** ў Гаване.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY PHOTOJASSON

**«Ля-Бодэгіта-дэль-Мэд'ё»** — улюбёны рэстаран Эрнэста Хемінгуэя ў Гаване.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY KMIBAGAYA

ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАРПІЦКАЙ

Чарга ў аптэку.

Канэль лічыць, што на пратэсты людзей вывелі знешнія ворагі праз сацсеткі.

Але пабываўшы на Кубе, разумееш, што гэта не так. У мінулым цікава пабываць, але нецікава жыць. ◆

## Што яшчэ варта паглядзець у Гаване?

У Кубе нават без гайдаў немагчыма засумаваць, бо калі ты ў горадзе, то вакол на кожным кроку — жывая гісторыя, ледзь не штодзённыя вулічныя карнавалы і кабарэ, што адчыняюць дзверы пад вечар. А калі ты ў Варадэра, то мора там такое чыстае і прыгожае, што ўмомант настройвае на дзэн і сузіранне — і ўсё астатняе ўжо робіцца непатрэбным. Але вось пару пунктаў *must see* для любога турыста.

**Музей Рэвалюцыі і Арт-музей.** Першы раней быў прэзідэнцкім палацам, таму інтэр’еры там неверагодныя. А другі дапаможа спазнаць душу кубінцаў яшчэ лепш (у тым ліку сённяшніх, бо там прадстаўлена вельмі шмат прац сучасных мастакоў).

**Могілкі Калон.** Вас чакае больш за 800 тысяч могілак-скляпоў-помнікаў. Тут пахавана шмат заможных і вядомых асоб (у тым ліку, ясная справа, рэвалюцыянераў), так што паход сюды — лепш за любы музей, каб даведацца пра гісторыю краіны.




**Замак Эль-Мора** ў Гаване.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY KMIRAGAYA

# ЖЫЦЦЁ Ў СПЫНЕНЫМ ЧАСЕ

**«Мяне выклікаюць» — гэтак пачынаецца кніга нобелеўскай лаўрэаткі Герты Мюлер «Сёння я не хацела б з сабой сустрэцца», якая сёлета выйшла па-беларуску. Месца дзеяння — Румынія часоў Нікалае Чаўшэску. Хто выклікае? Вядома, Секурытатэ — сакрэтная служба, аналаг савецкага КГБ і ўсходнегерманскага Штазі. Можна падумаць, што далей будуць апісанні бясконцых допытаў. Дыялогі з афіцэрам? Апісанніператрусу, турэмнай камеры, лагера? Партрэты іншых зняволеных, побыт? Магчыма, апісанні ўцёкаў, гібель ці хэпі-энд?.. А вось і не. Піша Алесь Кіркевіч.**



**1980-я.** Румынія часоў Чаўшэску.

PINTEREST.COM

### Трамвай

Гэтым кніга адрозніваецца ад вялікага масіву мастацкіх твораў, народжаных у таталітарных рэжымах. Ад кніжнай трылогіі Аляксандра Салжаніцына «Архіпелаг ГУЛАГ» да культавага кіно «Чалавек з жалеза» паляка Анджэя Вайды ці «Жыццё іншых» немца Фларыяна Хенкеля фон Донерсмарка. У прозе Герты Мюлер няма герoікі, барацьбы. Ані слова пра дыктатара і яго партрэты на кожным кроку. Няма падрабязнага апісання рэпрэсіўнага апарату. Усё гэта — толькі дэкарацыі будзённай шэрасці, якая і стварае ўніверсальны партрэт дыктатуры.

Кнігу можна было б назваць бессюжэтнай. Спачатку яна нагадвае плынь свядомасці ды вырваныя з кантэксту асацыяцыі, успаміны. Хаатычныя думкі галоўнай гераіні, якая ў трамваі едзе на допыт. Падарожжа зацягваецца да бясконцасці, хоць у рэальнасці доўжыцца, магчыма, 40 хвілін ці гадзіну. Трамвай ідзе, а час спыніўся. Дакладней, няма розніцы, колькі часу ці які цяпер год.



STEPHANIE VON BECKER / RHEINPFALZ.DE

**Герта Мюлер**

нарадзілася ў 1953 годзе ў Румыніі, у сям'і сялян-швабаў. У вёсцы гаварылі па-нямецку. У 1979 годзе яна страціла працу, бо адмовілася супрацоўнічаць з таемнай паліцыяй Секурытатэ, у 1987 годзе эмігравала ў ФРГ. У 2009 годзе яна атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры з фармулёўкай «за супрацьстаянне прыгнёту і палітычнаму тэрору». Яе кнігі аналізуюць досвед перажытай несвабоды, гвалту, а таксама нежаданне памятаць пра гэта.

Мінулае пераплеценае з сучаснасцю, але не нараджае будучыні. Сучаснасць наўпрост перамяшчаецца ў багаж мінулага, пераўжоўваецца, як вішні, што есць старая па суседстве з гераіняй у трамваі. Вішнёвыя костачкі яна заціскае ў далонь. Калі месца не хопіць, то выкіне на падлогу — ніхто не зверне ўвагу. Мараў ці планаў на будучыню ў галоўнай гераіні няма: пераўжыць бы гэты допыт на дзесяць-нуль-нуль — і тое добра.

### Запіскі для Марчэла

Чаму выклікалі? Ды дробязь. Гераіня працавала на швейнай фабрыцы і ўкладала ў кішэні экспартнай серыі штаноў цыдулкі са сваімі каардынатамі. Магчыма, у Італіі нехта знойдзе і выкліча яе, уратуе з сацыялістычнага раю. Альбу, афіцэр Секурытатэ, пытаецца ў жанчыны, як завуць італьянца, якому тая пісала. «Марчэла», — адказвае першае, што прыходзіць да галавы, бо трэба адказаць хоць што. Сама ж ведае толькі двух італьянцаў: Беніта Мусаліні і Марчэла Мастраяні.

З мужам Паўлем яны абмяркоўваюць, ці ісці ёй на чарговы допыт. «Ідзі, бо інакш яны самі сюды прыйдуць», — абыякава кажа ён. Дахаты, дарэчы, ужо прыходзілі. На блышыным рынку Паўль прадаваў антэны, каб лавіць венгерскія тэлевізійныя каналы. Краў на працы дэталі, майстраваў і вазіў на рынак на матацыкле «Ява». Двое з Секурытатэ прыйшлі і без усялякіх актаў ці допытаў забралі ўсе антэны. Матацыкл «Ява» пазней разбіўся. Так Паўль пачаў піць. Бо ніякая праца ці высілкі не даюць плёну. Будучыню нельга праграмаваць, з ёй можна адно змірыцца.

### Ноч забірае алкаголь

Тэма п'янства ў кнізе на кожнай старонцы. П'юць усе. Прычым няма нейкага асуджэння, маралізатарства. Гэта спосаб выжыць. Пасля можна выспацца і пайсці на працу: «Ноч забірае алкаголь», — кажа галоўная гераіня. Прычым незразумела да канца, што такое п'янства: спосаб залекаваць траўмы і дэпрэсію ці спосаб прабавіць час пры адсутнасці іншых варыянтаў. Ад няма чаго рабіць.

У п'яным шаленстве Паўль аднойчы выкідае з акна падушкі і пасцелю. Гераіня спускаецца, каб падняць рэчы, але па-шпіёнску выключае святло ў пад'ездзе. Каб сусед, які запісвае час яе прыходу і сыходу, не ўбачыў. Да сексотаў, як і да п'яніц, стаўленне паблажлівае, хатняе. Чалавеку, які за ёй сочыць, гераіня дорыць чысты сшытак у клетку. Для запісаў. Той круціць у руках ды кажа, што фармат завялікі, яму зручней нататнікі, каб схаваць у кішэнь пінжака.

### Вар'яты

Жонка сексота, дарэчы, страціла розум. Выходзіць з дому немаведама нашто і швэндаецца абы-дзе. Блытае людзей, месцы, сітуацыі. У кнізе ўвогуле багата вар'ятаў ці тых, хто вар'яцее па ходу дзеяння. Розум страціла і бабуля гераіні, якая трапіла пасля вайны ў ссылку разам з дзядулем. Іх раскулачылі ды высадзілі з цягніка ў чыстым стэпе разам з іншымі. Пакуль дзядуля шукаў ваду ды дрэва пад дом, тая ела гліну... Паўсюль ёй бачыўся «белы конь», абрысы якога дзядуля пасля намаляваў на сцяне хаты-мазанкі, бо лічбы і літары пісаць было забаронена.

«Белы конь» — не выпадковасць. На ім ездзіў чыноўнік, які акурат раскулачваў этнічных немцаў у іхняй мясцовасці. Перавыконваў план. Па волі лёсу ён стаў свёкрам галоўнай гераіні, калі тая ў першы раз выйшла замуж. Дзядуля на тым вяселлі напіўся, пракляў унучку ды распавёў гісторыю пра высылку і вар'яцтва бабулі, якая не пераўжыла першай зімы. Цвярозыя, вядома, пра такое маўчаць.

Сімвалічна, што і свёкар-чыноўнік таксама страціў розум. Ягонага белага каня — адзіную любоў у жыцці — атруцілі мясцовыя людзі. Каня хавалі ўначы, а былы наезнік піў гарэлку, пакуль не кінуўся адкопваць жывёлу. Яго звязалі і п'янага, бруднага, абрыганага звезлі ў вёску адпачываць. Страціўшы ▶



Чарга **па дэфіцытныя прадукты.**

## Трансільванскія немцы

Трансільванія — у перакладзе з лацінскай мовы «Залессе» — рэгіён на паўночным захадзе Румыніі, аддзелены ад рэшты краіны Карпатамі. Продкі румын — дакі і рымляне — засялілі яго з прадаўніх часоў.

У X стагоддзі нашай эры сюды прыйшлі таксама венгры.

А ў XII стагоддзі венгерскі кароль Геза II запрасіў сюды немцаў з даліны Мозеля. Ён разлічваў на іх досвед у распрацоўцы пакладаў карысных мінералаў, на якія Трансільванія багатая (соль, якая страшна дорага каштавала ў Сярэднявеччы, золата, медзь, жалеза). А таксама яны павінны былі стаць заслонай ад набегаў качэўнікаў-полаўцаў.

Цікава, што да трансільванскіх немцаў прыляпілася назва «саксы», па назве пагранічнага германскага племені, што жыло ў Саксоніі, хоць самі перасяленцы пераважна паходзілі з Латарынгіі і Баварыі.

Немцы збудавалі тут сем умацаваных гарадоў. «Сямігароддзе» — па-нямецку *Siebenbürgen* — так доўгі час называлі гэтую зямлю і ў Вялікім Княстве Літоўскім. А ў кожнай нямецкай вёсцы была абарончая царква. Большасць з іх захавалася, падарожжа па Трансільваніі — захапляльная вандроўка ў часе і прасторы.

WIKIMEDIA COMMONS




**Этнаграфічная мапа Аўстра-Венгрыі 1899 года.** Месцы кампактнага рассялення немцаў пазначаныя чырвоным колерам.

Пераехала немцаў досыць шмат, і жылі яны на асобных тэрыторыях, таму не растварыліся ў навакольным насельніцтве, а захавалі сябе як асобны народ восем стагоддзяў. Шмат стагоддзяў яны былі прывілеяваным слоем у Трансільваніі, разам з венгерскай шляхтай і пагранічнікамі-секеямі. Але пасля далучэння зямель да імперыі Габсбургаў паўзучая мадзьярызацыя (мадзьяр — раней так называлі венграў) і акаталічванне прымушалі немцаў, асабліва лютэранскую іх меншасць, шукаць саюзу з румынскім сялянствам.

Толькі ў часы таталітарызму ў XX стагоддзі рэжым Чаўшэску стаў выцясняць іх з краіны. Па перапісе 1930-га немцы складалі 4,1% насельніцтва Румыніі. На сёння іх засталося 0,2%.

Але сімвалічна, што прэзідэнт Румыніі цяпер немец з Сямігароддзя — Клаўс Іаханіс. Ён заслужыў гіганцкую павагу сваёй нецярпімасцю да карупцыі. Пра тое, наколькі ён папулярны, сведчыць яго пераабранне на другі тэрмін з рэдкім для дэмакратый вынікам — 66% галасоў. За час яго кіравання Румынія працягвала эканамічны ўздым, які пачаўся пасля далучэння краіны да Еўрасаюза. Сярэдні заробак «брудны» ў Румыніі з 2014 да 2021 года вырас з 630 да 1430 долараў.



**Брашоў раней называўся Краншатат** і быў адным з цэнтраў Сямігароддзя.

WIKIMEDIA COMMONS

▸ пасаду, ён стаў аграномам, мілым, бяскрыўдным чалавекам, які ведаў назвы процьмы раслінаў на лаціне.

### Дом больш не крэпасць

У кнізе шмат сэксу — амаль столькі ж, колькі п'янства. Але кожны раз сэкс «незаконны». Муж здраджвае жонцы, дачка любіцца з айчымам, кіроўца трамвая марыць пра дзяўчыну з прыпынку. Галоўная гераіня з мужам Паўлем не любяцца. Замест гэтага падушкі — сімвал сямейнага ложка — ляцяць у акно. Героі наракаюць на якасць кітайскіх прэзерватываў: маўляў, добрыя кітайцы адпраўляюць у Штаты, а ў Румынію едуць дзіравыя — такая бяда.

**Нікалае Чаўшэску**

кіраваў Румыніяй з 1965 да 1989 года, свой шлях да ўлады ён пачаў з пасады галоўнага ідэолага румынскай арміі. Пры Чаўшэску кантроль спецслужбы Секурытатэ пранізваў усе сферы жыцця. Румынія пры гэтым стала адной з найбяднейшых краін Еўропы.

Калі ў 1989 годзе пачаліся пратэсты супраць яго бяздарнага кіравання, ён сабраў масавы мітынг у сваю падтрымку, але ад самага пачатку, пасля яго слоў «Хачу падзякаваць ініцыятарам і арганізатарам гэтага вялікага нацыянальнага сходу...» сагнаныя бюджэтнікі і рабочыя пачалі скандзіраваць лозунгі пратэсту. Супрацоўнікі тэлебачання не выканалі загад куратараў з Секурытатэ і не адключылі трансляцыю гэтага правалу. Так пачалася рэвалюцыя.

На наступны дзень вайсковыя часці, уведзеныя ў Бухарэст, перайшлі на бок пратэстоўцаў. Спецпадраздзяленні Секурытатэ адкрылі агонь па дэманстрантах і арміі, але праз некалькі дзён хаосу і яны спынілі супраціўленне.

З дзецьмі таксама цікава. Яны прысутнічаюць эпізадычна, як прыкры вынік палавых адносін, выпадковасць. У трамваі сядзіць бацька з малым на каленях, які ліжа бруднае шкло. Бацька не думае перашкаджаць. Навошта? Дзяцей бяруць у краму, каб у чарзе атрымаць больш тавару. Дзеці мелі б быць працягам жыцця, але навошта яго — такое жыццё — працягваць?..

Тое ж з элементарнымі побытавымі рэчамі, якія перастаюць слухацца чалавека. На кухні гераіня знаходзіць цыдулку ад сяброўкі, але толькі праз тыдзень даведваецца, што тая чапляла яе да дзвярэй. А значыць... Трэба правяраць дом, што ў ім знікла ці дадалося. Дом — зусім не крэпасць. Гэта толькі месца, дзе можна пераначаваць.

### Дзесяць непатрэбных правілаў

А галоўнае, увесь гэты лад не аспрэчваецца. Ён — дадзенасць. Адзіная форма пратэсту — уцёкі праз мяжу. Так, сяброўка гераіні спрабавала збегчы з немаладым афіцэрам, але злавіла кулю. Першымі да яе цела дабраліся



По спасылцы можна прачытаць фрагмент рамана.



А набыць яго цалкам можна на сайце выдавецтва «Янушкевіч».

галодныя сабакі памежнікаў, якія разарвалі труп, выцягнулі вантробы. «Чырвоныя макі» — так гераіня апісвае карціну і прызнаецца, што больш не любіць гэтых кветак.

У грамадстве, якое апісвае Герта Мюлер, не дзейнічаюць правілы. Дакладней, не дзейнічае дэкалог, дзесяць біблейскіх запаветаў. «Не крадзі», «не чужалож»... — усё гэта не працуе. Ёсць сістэма забаронаў, якая стварае калідор, а дакладней — трамвайныя рэйкі, па якіх коціцца трамвай з бруднымі шыбамі. Стомлены кіроўца, які па ходу мяняе потную кашулю або выходзіць, каб выпіць кавы і з'есці рагалік, можа адно лаяць пасажыраў ды спыняцца: адчыняць і зачыняць дзверы. Час у дарозе і напрамак яго таксама не хвалююць. Якая розніца, калі заўтра ўсё паўторыцца. ◆



**Нікалае Чаўшэску** — «ісцінна народны лідар» і «геній Карпат».

# Што Салтыкоў-Шчадрын нам тлумачыць пра Расію і дзяржымордаў

**Савецкім школьнікам неахвотна расказвалі пра высокія пасады пісьменніка Міхаіла Салтыкова-Шчадрына, бо гэта не ўпісвалася ў ідэалагічныя схемы: як так — царскі чыноўнік і геніяльны сатырык. Не проста чыноўнік, а цэлы віцэ-губернатар! Піша Ганна Севярынец.**




**53-гадовы Міхаіл Салтыкоў-Шчадрын** выглядае глыбока трагічнай постаццю на гэтым партрэце пэндзля Івана Крамскога.

### «Змрочны ліцэіст»

Міша Салтыкоў скончыў той самы Царскасельскі ліцэй, з якога пачынаўся зорны шлях Аляксандра Пушкіна. Толькі Пушкін — вучань самага першага выпуску, а Салтыкоў — апошняга, трынаццатага. Установа ўсе гады свайго існавання спраўна рыхтавала апальных геніяў, дзекабрыстаў, непаслухмяных адміралаў, занадта высакалобых дыпламатаў, кіраўнікоў таемных гурткоў — і вось табе на, яшчэ і сатырыкаў. Выпусціўшы ў трынаццаты раз 22 ліцэістаў, большасць з якіх мелі за плячыма бясконцыя вымовы, часовыя выключэнні з ліцэя і запісы ў кандуітах кшталту «курыў, лаяўся нецэнзурна, не падпарадкоўваўся настаўніку», ліцэйскае кіраўніцтва перажагналася і, махнуўшы рукой, увогуле закрыла гэты рассаднік вальналюбства.

Салтыкоў ліцэя, у адрозненне ад Пушкіна, не любіў. Сяброў там ён не меў, светлых одаў, прысвечаных яму, не пісаў

і наогул паступіў туды толькі пад страшным ціскам уласнай маці. Да ліцэя ён вучыўся ў Маскоўскім дваранскім інстытуце, дзе быў адным з найлепшых вучняў. І менавіта таму спецыяльная камісія пры інстытуце вырашыла яго ўзнагародзіць ды перавесці на казённы кошт у ліцэй, ахутаны пушкінскай славай і блізкасцю да імператарскага двара. Найлепшы вучань упёрся, катэгарычна адмовіўся ад найвышэйшай ласкі — і мама, цвярская памешчыца, прымчалася ў Маскву ўгаворваць непаслухмянага сыночка. Юнак быў вымушаны пагадзіцца.

У ліцэі па старой, пушкінскай яшчэ, традыцыі ў кожнага была мянушка. У Пушкіна, напрыклад, Малпа — за надта жывую міміку і халерычныя паводзіны. А ў Салтыкова — Змрочны Ліцэіст, бо ніхто і ніколі не бачыў яго вясёлым. Між тым менавіта гэты вечна сумны хлопец лічыўся на курсе «нашым Пушкіным», бо пісаў вершы антыдзяржаўнай скіраванасці (трэба сказаць, што на кожным курсе ліцэя абавязкова мусіў быць «свой Пушкін»).

Адсюль, з ліцэя, цягнецца знаёмства Салтыкова з Міхаілам Петрашэўскім, будучым арганізатарам нелегальнага рэвалюцыйнага гуртка, за ўдзел у якім будзе праз некалькі гадоў прыгавораны да смяротнага пакарання, пазней замененага на катаргу, малады Фёдар Дастаеўскі. Менавіта Петрашэўскі распрацаваў і ўвёў у агульналіцэйскае карыстанне своеасаблівую «эзопаву мову», у якой, прыкладам, словазлучэнне «стацкі саветнік» замянялася словам «дурак», а тытул «імператар» — здзеклівым «багдыхан». Адсюль пакрысе вырасце і будучая мова казак ды аповесцяў Салтыкова.

## «Шмат хто блытае паняцці “Айчына” і “Ваша Вялікасць”»

### Віна за няволю — і на нявольніках

Віну за сацыяльную несправядлівасць у імперыі Салтыкоў-Шчадрын ускладаў на абодва бакі: і на раздураную, тупую ўладу, і на сам народ, які дазваляе такой уладзе існаваць.

Што праўда, ніякіх заклікаў кшталту някрасаўскага «Где народ, там и стон... Эх, сердечный, что же значит твой стон бесконечный, Ты проснёшься ль, исполненный сил?» — Салтыкоў-Шчадрын не прамаўляў. Ён бачыў галоўную праблему сучаснага яму грамадства ў татальнай неадукаванасці, паслухмянасці, незацікаўленасці ў зменах, а шырэй — у спецыфічнай прыродзе рабаўладальніцкай сістэмы, якая праіснавала ў Расійскай імперыі даўжэй за ўсе еўрапейскія краіны. Напэўна, ярчэй за ўсё ягоныя думкі адлюстраваныя ў знакамітай хрэстаматыйнай казцы «Як адзін мужык двух генералаў накарміў», у якой здаровы, кемлівы, руплівы волат-мужык, што жыве, здавалася б, на вольнай волі на востраве, пабачыўшы там генералаў, неадкладна пачынае ім прыслужваць, нават не патрабуючы грошай — падоранага пятака на гарэлку яму цалкам дастаткова. Такія ж і глупаўцы — жыхары прыдуманага горада Глупава, з якіх з усіхнай маўклівай згоды здзекуюцца адзін за адным тупыя начальнікі.

Трэба сказаць, што такая, даволі песімістычная, пазіцыя адносна ўнутраных магчымасцяў народа вызваліцца ад ўладнага прыгнёту была ўласцівая ўсёй класічнай рускай літаратуры — дастаткова згадаць «Муму» Тургенева.

Думка пра народнае паўстанне як паратунак ад рабства з’яўляецца ў літаратуры так званых «рэвалюцыйных дэмакратаў» — Чарнышэўскага, Дабралюбава, часткова — Някрасава. Шчадрын жа, як і Пушкін, Талстой і Дастаеўскі, бачыў праблему значна шырэй і не прапаноўваў ніякіх хуткіх рэцэптаў яе вырашэння. Асвета, адукацыя, культура, выхаванне праз слова, паступовае ўвядзенне эвалюцыйных дэмакратычных каштоўнасцяў — такім няскорым, але адзіна правільным бачыўся ім шлях імперыі да шчасця.

### Пашэнціла перажыць ка́та

Мала хто рабіў кар’еру так, як рабіў яе Салтыкоў.

У 1844 годзе ён скончыў ліцэй і быў залічаны ў канцылярыю вайсковага міністэрства. ▶




У Царскасельскім ліцэі **Мішу Салтыкова называлі Змрочным Ліцэістам.**



TVERNEWS.RU

**Лізавета Апалонаўна**, жонка пісьменніка, лічыла літаратуру дурасцямі.

▶ Чатыры гады ён даймаў бясконцымі заўвагамі, крытыкай і пісанінай у дэмакратычных часопісах сваё кіраўніцтва — і ўрэшце дамогся. Брыклівага чыноўніка арыштавалі, асудзілі і саслалі ў Вятку за «шкодны лад думак і згубнае імкненне да распаўсюду ідэй, якія скаланулі ўжо ўсю Заходнюю Еўропу і расхісталі ўлады і грамадскі спакой». Рэзалюцыю пісаў сам імператар Мікалай I.

Гэта былі апошнія часы так званай «мікалаеўскай рэакцыі», што цягнулася ажно трыццаць гадоў. Пасля дзекабрысцкага паўстання ў снежні 1825 года і да самай смерці Мікалая I у 1855-м грамадскае жыццё ў імперыі было заціснутае ў самыя жорсткія рамкі. Імператар не дараваў грамадству свайго страху і любыя праявы вальнадумства бязлітасна душыў рукамі вертыкалі і жандармерыі.

Але адразу ж пасля ягонай смерці, як гэта часта бывае, грамадская зіма змянілася адлігай. Усяго толькі праз некалькі месяцаў пасля ягонага пахавання пачалася рэабілітацыя рэпрэсаваных, са сваіх «сібірскіх руд» пачалі вяртацца тыя ўдзельнікі падзей 1825 года, якім пашэнціла перажыць свайго ка́та. Пераемнік Мікалая I, Аляксандр II, імкнуўся мадэрнізаваць краіну, якая толькі што ганебна прайграла Крымскую вайну. Адпаведна, паўсюль — ад самай маленькай канцылярыі да высокіх кабінетаў — пачаў расплывацца подых вольнай думкі.

Цяпер стала нават модна крытыкаваць уладу, чынавенства, парадкі ў імперыі, і тыя самыя вальнадумцы, якія яшчэ ўчора па любым ананімным даносе цярпелі перaслед, станавіліся лідарамі думак.

Чыноўнік вяцкага губернскага дэпартамента Салтыкоў, які ўвесь час сваёй высылкі працягваў дакучаць мясцоваму чынавенству размовамі пра карупцыю, несправядлівасць, негуманнасць і подласць дзейных парадкаў, нарэшце аказаўся запатрабаваны.

**«Ёсць легіёны падшыванцаў, у якіх на языку — дзяржава, а ў думках — пірог з казённым начыннем»**

У яго ўжо быў багаты досвед: падчас высылкі Салтыкова ганялі па самых далёкіх кутках

**«Вопіс граданачальнікаў»** з «Гісторыі аднаго горада» Міхаіла Салтыкова-Шчадрына — бязлітаснае высмейванне тагачаснай уладнай вертыкалі Расійскай імперыі і яе «спраўнасці»:

**Іван Веліканаў** — увёў на кожнага глупаўца падатак «на карысць Веліканава» па 3 капейкі з чалавека;

**Маныл Урус-Куруш-Кільдзібаеў** — так любіў вайну, што аднойчы ў адсутнасць сапраўдных ворагаў браў прыступам сам жа горад Глупаў;

**Дзяменцій Брудасты** па мянушцы Арганчык — у галаве замест мазгоў у яго былі толькі некалькі сказаў, і самы любімы — «Не потерплю!»;

**Сямён Дваякураў** — увесь час сёк глупаўцаў розгамі, каб «усмирять народ»;

**Васіліск Барадаўкін** — правёў у Глупаве чатыры вайны за асвету і тры вайны супраць асветы;

**Ануфры Негадзяеў** — разбурыў усе глупаўскія брукаванкі, а з камення набудаваў помнікаў;

**Угрум-Бурчэеў** — і сам спаў на голай зямлі, і жыхароў прымусіў хадзіць строем і насіць уніформу;

**Архістраціг Перахват-Заліхвацкі** — уехаў у горад на белым кані, спаліў гімназію і першым жа ўказам адмяніў навуку.

Не менш здзекліва апісаныя ў кнізе і глупаўцы, што прымаюць кожнага з граданачальнікаў усур'ёз і цярпяць, хаця і заўважаюць, што «нешта не так». Аднойчы глупаўцы ўсё ж ідуць шукаць свайго шчасця — і кіруюцца на паляну з трыма соснамі, дзе і блукаюць у пошуках дарогі.

Вяцкай губерні з праверкамі і справаздачамі, ускладалі на яго бясконцую папяровую працу, а паколькі чалавек ён быў старанны, метадычны і ўедлівы, то і імперскую бюракратыю, і губернскую рэчаіснасць ведаў ад «азъ» да «іжыцы».

У вяцкай высылцы Салтыкоў здабыў сабе жонку і псеўданім. У 1856 годзе, пасля зняцця статуса высланага, ён ажаніўся з дачкой вяцкага віцэ-губернатара Лізаветай Болцінай.

А ў адной з паездак па губерні Салтыкоў пазнаёміўся з купцом Трафімам Шчадрыным, раскольнікам і дысідэнтам. Уражанне ад гутаркі з Трафімам было такое вялікае, што Салтыкоў стаў падпісваць свае раннія творы псеўданімам Мікалай Шчадрын. І толькі пазней, калі ўжо пазычанае прозвішча стала знакамітым, пачаў падпісвацца ўласным, а ў дужках удакладняць: «Н. Щедрин». А Салтыковым-Шчадрыным яго зрабілі літаратуразнаўцы.

**«Расійская ўлада мусіць трымаць свой народ у стане бесперапыннага здзіўлення»**

Адукаваны, дасведчаны, крытычны, непахісны ў пытаннях маралі, Салтыкоў-Шчадрын быў даспадобы новай вертыкалі. У сакавіку 1858-га Салтыкоў-Шчадрын быў прызначаны віцэ-губернатарам у Разань, у 1860-м пераведзены на такую ж пасаду ў Цвер, а потым пачаргова ўзначальваў Пензенскую, Тульскую і Разанскую казённыя палаты. З гэтых высокіх уладных прыступак ён збяжыць сам у 1868 годзе, расчараваўшыся ў сваіх магчымасцях нешта змяніць у гэтай машыне нават са значных пасад.

### Сатырык па жыцці

Салтыкоў-Шчадрын і ў побыце быў сатырыкам: напрасіцца на ягонае вострае слоўца мог любы, таму пра яго хадзіла шмат смешных і не надта смешных анекдотаў.

Прыкладам, успамінаюць, як у адным з сатырычных нарысаў Салтыкова-Шчадрына быў выведзены даволі вядомы пецярбургскі высокі чын. Сустрэўшыся з Салтыковым, ён, пасмейваючыся, сказаў: «Чытаў-чытаў, як вы мяне прадзёрнулі. Ну, пад якім яшчэ соусам вы пададзіце мяне наступным разам?» На што Салтыкоў адказаў: «Вас і без соусу можна падаваць».

Яшчэ адна знакамітая гісторыя. Неяк Салтыкоў-Шчадрын публічна выказаўся наконт гімназічнай адукацыі: маўляў, ці бачылі вы, якія даюцца тэмы для сачыненняў? А як правяраюцца тыя сачыненні? Я сам для сваёй пляменніцы аднойчы сачыненне напісаў. І што ж? Дзякуй Богу, атрымаў тройку!

Аднойчы да Салтыкова-Шчадрына дадому з'явіўся павятовы доктар. Быў прыняты ў кабінеце. «Что вам угодно?» — спытаўся пісьменнік. «Нет, это вам что от меня угодно!» — закрычаў візіцёр. Сталі разбірацца, і высветлілася, што доктар гэты, малады зусім чалавек, абяцаў ажаніцца з адной дзяўчынай, але абяцання свайго не выканаў. І тады дзяўчына пастрашыла яго, што ўсё раскажа Салтыкову-Шчадрыну, а той ужо напіша пра доктара чарговую сатырычную казку.

### «Мішэлевы дурасці»

Зняверыўшыся, што Расію можна змяніць «зверху», Салтыкоў-Шчадрын застаецца са сваёй апошняй зброяй: літаратурай. Мара аб тым, што Слова можа перамагчы самаўладдзе, у XIX стагоддзі была планам дзеянняў.

Увесь вольны час Салтыкоў-Шчадрын цяпер прысвячае літаратуры і рэдактарскай працы: ён становіцца спачатку фактычным, а потым, пасля смерці Мікалая Някрасава, і фармальным галоўным рэдактарам аднаго з найстарэйшых расійскіх «тоўстых» дэмакратычных часопісаў — легендарных «Отечественных записок», якія ажно з 1818 года неслі ў расійскі свет святло прагрэсіўнай думкі. Са старонак гэтага часопіса прамаўлялі Вісарыён Бялінскі, Іван Тургенеў, Мікалай Гогаль, Фёдар Дастаеўскі, Мікалай Някрасаў. Менавіта ў ім з'яўляюцца і тэксты Салтыкова-Шчадрына: вострыя, гамерычна смешныя і жахліва праўдзівыя. Перачытайце «Гісторыю аднаго ▸




Жыццё вялікага пісьменніка праходзіла ў правінцыйных «выканкамах». На фота — **дом у Цверы, дзе сям'я Салтыковых здымала 9-пакаёвую кватэру і флігель для прыслугі і кухні.**

горада», вось хаця б главу пра граданачальніка Барадаўкіна, які першым сваім загадам выдаў закон «Аб непрыцісканні начальнікаў законамі».

Жонка, Лізавета Апалонаўна, не прымала поглядаў мужа. Усё, што ён пісаў, яна звала «Мішэлевымі дурасцямі». Дома ў літаратара, па ягоным выразе, панавала «суцэльнае пекла», але ён гэтае ўнутранае пекла цярпеў.

Між тым часы пакрысе мяняліся. Рэформы Аляксандра II былі палавінчатымі і запозненымі. Тыя рэформы, па-добраму, мусіў правесці яшчэ Мікалай I, а то і ягоны брат-папярэднік Аляксандр I. Тады яны былі б цалкам своечасовымі. Цяпер жа яны былі мала што запозненымі, але і абмежаванымі, да таго ж моцна тармазіліся чынавенствам. Кацёл з кіпнем выглядаў небяспечна, і тады ў адчаі на ім кінуліся наноў заціскаць накрыўку: цэнзураваць прэсу, абмяжоўваць публічныя выказванні, кантраляваць грамадскую думку. У 1874 годзе цэлы наклад «Отечественных записок» быў знішчаны па патрабаванні цэнзуры.

## «Дазваляецца пры сустрэчы з начальствам пачцівымі рухамі ўсяго цела выказваць задавальненне»



**Угрум-Бурчэеў.** Малюнак Кукрыніксаў да «Гісторыі аднаго горада».

Скончылася гэта тым, што ў 1881-м Аляксандр II загінуў ад рукі беларускага шляхціча-нарадавольца Ігната Грынявіцкага. На трон узыходзіць ягоны сын, Аляксандр III, і пачынаецца новая рэакцыя. Праз тры гады «Отечественные записки», што перажылі чатырох імператараў і ўсе землятрусы расійскага XIX стагоддзя, закрыюць рашэннем галоўнага цэнзара імперыі Яўгенія Феакціставa, між іншым, былога супрацоўніка часопіса. Салтыкоў-Шчадрын, колішні апошні выпускнік пушкінскага ліцэя, стане апошнім рэдактарам «Отечественных записок».

### «Больш розуму, панове!»

З іменем класіка сатыры Салтыкова-Шчадрына ў 1930-я гады быў звязаны гучны і вельмі дасціпны выпадак газетнага, як бы мы сёння сказалі, тролінгу высокіх дзяржаўных чыноўнікаў у Вільні, якая тады ўваходзіла ў склад Польшчы.

У снежні 1935 года на пасаду віленскага ваяводы быў прызначаны палкоўнік Людвік Бацянскі. Да краю ён ніякага дачынення не меў і яго спецыфікі не ведаў, бо сам паходзіў з Велікапольшчы, якая да Першай сусветнай вайны ўваходзіла ў склад Германскай імперыі. Але з вялікім імпэтам стаў праводзіць тут у жыццё тагачасную дзяржаўную палітыку, скіраваную на выпальванне ўсяго апазіцыйнага. Асабліва цярпелі ад жорстка дыскрымінацыйнай палітыкі Бацянскага прадстаўнікі няпольскіх нацыянальнасцяў, беларусы і літоўцы. Але і іншай апазіцыі таксама даставалася. Любая публічная крытыка дзеянняў мясцовых уладаў каралася, наклады газет, якія яе дапусцілі, маглі канфіскоўвацца пасля праведзенай цэнзуры.

Дасціпны спосаб абысці цэнзуру прыдумалі выдаўцы папулярнай у той час віленскай кансерватыўнай газеты «Слова», якая часта цярпела ад канфіскацый. Аднойчы на яе старонках з'явілася «быліна» нібыта Салтыкова-Шчадрына, галоўнымі героямі якой былі губернатар Аістаў і ягоны памочнік Ванюшка. Дзея адбывалася ў расійскім горадзе Глупаве, заваленым канфіскаванымі асобнікамі газеты «Глагол». Цэнзары нічога не заўважылі ды тэкст прапусцілі, не датумкаўшы, што пад Аіставым маецца на ўвазе Людвік Бацянскі (па-польску, як і ў многіх беларускіх гаворках, «бацян» (*bocian*) — бусел), пад Ванюшкам — ягоны найбольш давераны супрацоўнік, начальнік аддзела бяспекі Марыян Ясінскі, а «Глагол» — гэта тое ж «Слова».

Аўтары гэтага своеасаблівага тролінгу самі доўга не хаваліся, ужо ў наступным нумары газеты надрукаваўшы здзеклівы артыкул з апісаннем сітуацыі, пачаўшы яго словамі «Больш розуму, панове!».

Няма сумневу, што славутаму расійскаму сатырыку, іменем якога тут прыкрыліся, такая дасціпнасць была б даспадобы.

Апошнія гады пасля закрыцця часопіса Салтыкоў-Шчадрын моцна хварэе і амаль не піша. Што праўда, ягоныя тэксты ў гэты час — ужо класіка. Ні ў аднаго цэнзара, кім бы ён ні быў, так і не падымецца рука ні на «Губернскія нарысы», ні на «Казкі», ні на «Гісторыю аднаго горада». Аўтар жа іх згасае, пазбаўлены і справы, і надзеі. Ён яшчэ спрабуе змагацца, распачынае сваю апошнюю кнігу пад назвай «Забытыя словы»: «Былі, ведаеце, словы... Ну, сумленне, Айчына, чалавечнасць, іншыя там... Паспрабуйце цяпер адшукайце». Але кнігі з такой назвай у рускай літаратуры так і не з'явілася. У 1889 годзе Салтыкоў-Шчадрын памёр «ад закупоркі сасудаў мозга».

**Талдом**, невялікае мястэчка ў Падмаскоўі, побач з якім знаходзіцца радавая сядзіба Салтыковых і дзе цяпер працуе ягоны музей, звязаны і з гісторыяй беларускай літаратуры. Менавіта ў Талдоме ў 1941–1945 гадах працавала бухгалтарам жонка паэта Уладзіміра Дубоўкі (гл. пра яго артыкул у № 5/2021 «Нашай гісторыі») Марыля: як жонцы ворага народа, ёй было забароненае пражыванне ў Маскве, дзе жылі маці і бацька мужа і адкуль у 1929 забралі ў «Бутырку» самога Дубоўку. Тут, у Талдоме, пахаваны адзіны сын Уладзіміра і Марылі Дубовак — Альгерд Дубоўка трагічна загінуў у 1943 годзе: падлеткі гулялі на ўзлеску, знайшлі ў лесе бомбу і кінулі яе ў вогнішча. Цяпер магілу Альгерда ў Талдоме ніхто не даглядае.



**Алік Дубоўка** ў Талдоме.

### Контррэвалюцыя на заводзе №46

Дачка і сын Салтыкова пражылі ціхае і амаль незаўважнае жыццё, як гэта часта бывае з дзецьмі геніяў. А вось унучка, Тамара Мікалаеўна Гладырэўская, наглыталася XX стагоддзя да смерці. У 1938 годзе яе, беспартыйную перакладчыцу маскоўскага завода №46 (Кунцаўскі патронны завод, закрытае прадпрыемства, што працавала на савецкую абаронку), арыштавалі «за ўдзел у контррэвалюцыйнай змове» і расстралялі на Бутаўскім палігоне.

Калі ў часы яе дзеда метафарычны «горад Глупаў» быў проста агідным і смешным і падавалася, што ягоная праблема — у гарадскіх начальніках, то ўсяго толькі праз адно пакаленне паўсталыя глупаўцы ўпэўнена даказалі сусвету, што пад смешнымі начальнікамі вырастаюць страшныя падначаленыя. ◆

**Бераснявічус, Гінтарас. Вырай: паняцце пра пасмяротнае жыццё ў стараліто̆ўскім светапоглядзе.** — Смаленск: Інбелкульт, 2020. — 192 с.

Гэтая кніга выйшла ў пачатку 2021 года ў кніжнай серыі «Бібліятэка "Свайксты"». Гэта ўжо трэцяя выдадзеная ў гэтай серыі кніга – за год да таго выходзіла кніга Ёнаса Трынкунаса «Шлях старалітоўскай рэлігіі» і зборнік артыкулаў «Пра паганства і балтаў».

У гэтай амаль 200-старонкавай кнізе аўтар, вядомы літоўскі міфолаг і рэлігіязнаўца Гінтарас Бераснявічус, бярэцца за тэму, якая для тутэйшага чытача стане поўным адкрыццём — найперш сваёй пастаноўкай пытання.

Як людзі калісьці ўяўлялі прастору, у якую ідуць пасля смерці душы памерлых? Як аказваецца, гэта залежала ад даўніны часоў. Бераснявічус разгортвае шырокую карціну пачынаючы ад зусім сівой старажытнасці і канчаючы адносна нядаўнім часам.

Хоць у назве і фігуруе «старалітоўскі светапогляд», аўтар згадвае і яцвягаў (судаваў), і «памежнага» Совія, і прусаў. У кнізе ідзе багата адсылак да даследаванняў па старажытных індаеўрапейцах, а ў зносках пададзеныя і тэкстуальныя перагукі з беларускага матэрыялу.




Пры гэтым ніякай містычнай празмернасці ў кнізе не знойдзеце. Па-літоўску «Вырай» выйшаў у 1990-м, праз некалькі гадоў тэкст кнігі быў абаронены аўтарам у якасці навуковай дысертацыі. Менавіта Бераснявічуса называў найбольш цікавым з літоўскіх даследчыкаў знакаміты індаеўрапеіст і міфолаг Уладзімір Тапароў.

Кніга прадаецца ў мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72), этнакраме **«Рагна»** (вул. Сухая, 4).

# ТУРЭМНЫЯ ГІСТОРЫІ

## *Што запомнілася вядомым беларусам з часоў зняволення*




**Дэметра, апякунка ўрадлівасці і земляробства**, стала сімвалам абяздоленасці і страты карміцеля для тых, чые родныя трапілі за краты.

**Нават за кратамі жыццё працягваецца. За яго прыглушанымі фарбамі, на фоне якіх так выразна бачныя ўчынкі і таленты, назіраў Павел Каралёў.**

Калі на перакрыжаванні мінскага праспекта Незалежнасці і вуліцы Гарадскі Вал зірнуць наверх, то на будынку Міністэрства ўнутраных спраў (праспект Незалежнасці, 15) можна ўбачыць прыгожую скульптуру старажытнагрэчаскай багіні Дэметры. У 1930-я гады для тых, хто чакаў вестку пра блізкіх ля сценаў гэтага будынка, фігуры апякункі ўрадлівасці і земляробства з дзецьмі станавіліся сімвалам пакут і адзіноты: нібы гэта звычайная беларуская жанчына, якая засталася без мужа з дзецьмі на руках.

У паданнях пра Дэметру найбольш вядомая гісторыя пра тое, як яна ў пакутах шукала па свеце сваю дачку Персефону, якую выкралі. У гэты час на зямлі не было ўраджаяў, людзі пачалі паміраць ад голаду. У час рэпрэсій 1930-х нібы ўсё гэта паўтарылася: выкраданне людзей, неўраджай, голад.

Хоць не было асабліва соладка і да гэтага.

### Найлепшы турэмны шахматыст

Многія памятаюць радкі паэта Алеся Гаруна (Аляксандра Прушынскага):

Ты, мой брат, каго зваць беларусам,
Роднай мовы сваёй не цурайся;
Як не зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер не зракайся…

Паэт, грамадскі дзеяч, рэвалюцыянер, у 1908 годзе ён



**Алесь Гарун.**

быў асуджаны на высылку ў Сібір за арганізацыю падпольнай друкарні. Паводле ўспамінаў, Алесь быў узорам спакойнага і ўдумлівага чалавека («ціхі, крыху сарамлівы»), але ў непаразуменні з начальствам («валынку») вязаўся першым. Прычым быў перапоўнены адвагаю, стойкасцю і, як прыгадвалі, няўмольнасцю да сваіх палітычных ворагаў.

У зняволенні ён выдатна гуляў у шахматы. Вось што казаў пра яго сукамернік па бараку А. Эсан: «Алесь быў дасканалы шахматыст, найлепшы з усіх нас, хто гуляў з ім. Гулялі часта. Звычайна ён, гуляючы на памяць, гэта значыць без дошкі, быў адна партыя, а колькі нас — другая партыя. Ён расцягваўся на юрцах (нарах), накрываў твар хустачкай, і гульня пачыналася.

### Хто з беларусаў напісаў пра сваё лагернае жыццё

- Францішак Аляхновіч «У капцюрох ГПУ»
- Язэп Германовіч «Кітай, Сібір, Масква»
- Сяргей Грахоўскі «Зона маўчання»
- Ларыса Геніюш «Споведзь»

Мы рэдка выйгравалі, дармо што часта перагаворваліся-кансультаваліся. У шахматнай гульні мяне найбольш уражвала, што Алесь ніколі не нерваваўся. Хіба толькі, калі ён часам забываўся палажэнне тае ці іншае фігуры пасля нашых даўгіх нарадаў, можна было згледзець незадавальненне на ягоным твары. Ведама, што гульня ў шахматы адна з самых нервуючых, газардавых; ніколі мы не бачылі, каб у Алеся дрыжэлі рукі, як у нас, ці каб ён хваляваўся».

## Адным з кіраўнікоў прататыпа сучаснага Следчага камітэта быў Макар Краўцоў, аўтар гімна БНР

Так добра гуляць у шахматы Алесю Гаруну дазваляла фенаменальная памяць. Яму было дастаткова прачытаць нейкі верш два-тры разы — і ён ужо дэкламаваў яго, нідзе не збіваючыся.

У Мінск з сібірскай ссылкі Гарун вернецца толькі пасля рэвалюцыі 1917 года. Але пра спакой можна было толькі марыць. Неўзабаве, з прыходам да ўлады бальшавікоў, цэнзура і рэпрэсіі становяцца штодзённасцю. У горадзе пачынаюцца аблавы, расстрэлы. Паэту пагражала ўжо савецкая турма, але ён да апошняга лічыў, што яго не арыштуюць, бо меў славу рэвалюцыянера і былога катаржніка. Таму



**Шахматы ў турме найчасцей робяць з хлеба.** Мякіш размінаюць, нібы пластылін, 5–6 гадзін (калі дадаць цукар — можна меней), падфарбоўваюць пры патрэбе попелам або атрамантам з асадак і павольна высушваюць.

Гарун пратэставаў адкрыта, не хаваючыся і не баючыся за ўласнае жыццё.

ЧК ужо шукала яго, калі сябры літаральна сілком вывезлі Гаруна з горада. Ад спецслужбаў уратавалі, але не ўратавалі ад хваробы: у 1920-м рэвалюцыянер памрэ ў Кракаве ад крываўкі (дызентэрыі).

### Дзе ў Менску можна было ўратавацца ад ЧК

Макар Касцевіч (псеўданім Краўцоў Макар) — педагог, вайсковец, пісьменнік. Найперш ён вядомы як аўтар слоў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» — гімна Беларускай Народнай Рэспублікі. Але амаль ніхто не ведае, што ў 1919 годзе ён служыў у следчай камісіі створанага за польскай уладай Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта (захаваліся дакументы, што 14 жніўня таго ж года камітэт «прыняў адмову М. Косьцевіча ад працы ў следчай камісіі»). Такім чынам, адным з кіраўнікоў прататыпа сучаснага Следчага камітэта быў знаны дзеяч БНР Макар Краўцоў, аўтар гімна БНР.

З прыходам бальшавікоў у 1919 годзе яму, як сябру Рады БНР, патрапіць у рукі ЧК было больш чым рызыкоўна. Краўцоў прыгадваў: «Жыў я на Міхайлаўскай вуліцы (цяпер гэта вуліца Камуністычная. — *Аўт.*), сярод менскага беларускага пралетарыяту; работнікі ведалі, хто і што я, але я верыў ім, што не выдадуць, і не памыляўся. Здарылася раз, што быў я на валасок ад таго, каб патрапіць у рукі “чразвычайкі”. Яна шукала ўночы дэзерціраў, якіх развялося без ліку шмат. А я, як былы афіцэр ваеннага часу, не рэгістраваўся ў бальшавікоў і фармальна быў злосным дэзерцірам... Сустрэўся я з адным вядомым цяпер савецкім паэтам, якога па зразумелай прычыне не хачу называць. Расказаў яму пра свой клопат, а ён мне раптам прапануе:

— Едзем разам у Весялоўку, там ніякі чорт не здагадаецца, што мы не належым да настаўніцкага персаналу сельскагаспадарчае камуны». ▶

**Весялоўка** (пачаткова Басалаўка, Бейсалаўка, Басіялаўскае прадмесце, назва татарская) — гістарычная мясцовасць і вёска Мінска. У красавіку 1919 года ў былым лецішчы банкіра Браўдэ ў Весялоўцы была заснавана адна з першых у БССР моладзевых камун, якая налічвала каля 500 чалавек. У пачатку 1980-х у часе будаўніцтва развязкі Арлоўская — праспект Пераможцаў і выставачнага цэнтра Белэкспа вёска была знесена.



▶ Весялоўка была сапраўды добрым месцам, каб схавацца. Тут у колішняй раскошнай банкірскай дачы каля самай Свіслачы дзейнічала адна з першых моладзевых камун. Цяпер гэта прыкладна тэрыторыя парку Перамогі. Краўцоў адседжваўся там на працягу месяца, працаваў над сваімі літаратурнымі творамі. Арыштавалі і пасадзілі ў турму яго ўжо толькі ў міжваеннай Польшчы. Пэўна, не знайшлося сваёй Весялоўкі, дзе схавацца.

### Чаго баяліся агенты ГПУ

1930 год — пачатак масавых рэпрэсій у дачыненні да беларускай інтэлігенцыі. На працягу ўсяго лета і восені адбываліся арышты. Актрыса і педагог Паўліна Мядзёлка, якая і сама была арыштаваная, задавалася пытаннем: «Цікава, ці застаўся хто ў Менску на волі? Усе беларускія культурныя дзеячы — навукоўцы, пісьменнікі, акцёры — усе за кратамі. Што ж гэта робіцца на белым свеце?»

Акурат у гэты час была сфальсіфікавана палітычна-крымінальная справа «Саюза вызвалення Беларусі».

У выдавецтве «Кнігазбор» сёлета выйшла **кніга пра Макара Краўцова.**




Пад следствам аказаліся больш як сотня дзеячаў, сярод іх пісьменнік Максім Гарэцкі, гісторык Вацлаў Ластоўскі, рэжысёр Фларыян Ждановіч і многія іншыя.

Зазвычай падчас арыштаў іператрусаў для чэкістаў усё ішло па плане. Хіба толькі пры вобшуку на кватэры Язэпа Лёсіка на Шпітальнай вуліцы (цяпер вуліца Фрунзэ) адбылося непрыемнае для агентаў ГПУ здарэнне. Брат Язэпа Лёсіка Антон прыгадваў: «Якраз у гэты вечар ішла ў тэатры такая пастаноўка, у якой патрэбна была страляніна ў гарадскім садзе, недалёка ад кватэры Язэпа. Гэта страляніна так напужала тых, хто рабіў вобшук, што яны прыпынілі сваю "працу". На спалоханых тварах відаць было, што агенты ГПУ палічылі страляніну ў тэатральнай пастаноўцы за адкрытае выступленне прыхільнікаў беларускіх дзеячаў, якіх у гэты час арыштоўвалі».



**Былы будынак НКВД у Мінску.** Даваенных фота не захавалася.

Тым не менш трывога была памылковай, вобшук завяршыўся паспяхова: было назбірана столькі рукапіснага і друкаванага матэрыялу, што давялося везці гэты багаж на кані.

### Спявалі нават за кратамі

Патраплялі арыштаваныя і ў будынак ГПУ (пазней НКВД) на Савецкай вуліцы. Сёння прыблізна на гэтым месцы стаяць будынкі Камітэта дзяржаўнай бяспекі, пабудаваныя ў 1945–1947 гады. А на той час савецкіх вязняў і мінакоў мусіў уражваць новы «строгі» корпус у стылі канструктывізму з вялікімі вокнамі. Зберагліся фота часоў нямецкай акупацыі, дзе бачна ўжо пашкоджанае бамбёжкамі збудаванне.

Паўліна Мядзёлка прыгадвала, што ў агульнай камеры (вязні знаходзіліся ў падвальнай частцы будынка) склаўся даволі добры жаночы вакальны ансамбль: «Часта мы такія давалі канцэрты, што і ўся варта заслухоўвалася». І толькі калі паказвалася зверху начальства, грозна загадвалі: «Прекратить пение!»

Спявалі арыштанткі на два і тры галасы беларускія народныя песні: «Ах ты, Нёман-рака», «Краю мой родны», «Слуцкія ткачыхі», «Зорка Венера», «Жыў на свеце Лявон», «Пад гоман вясёлы».

Прайшло каля года — і пераважная большасць беларускіх дзеячаў атрымае па 5 год высылкі за межы Беларусі, у глыб Расіі: Уфа, Астрахань, Самара, Чэбаксары...

### Пра турму «Амерыканку»

За фасадамі будынкаў стаяў і стаіць двухпавярховы будынак: унутраная турма ГПУ, а пасля НКВД, КГБ/КДБ. Паўліна Мядзёлка



**Паўліна Мядзёлка**, беларуская артыстка, педагог.

прыгадвала: «12 чорных дзвярэй камер, а ў сяродку жалезная чорная вышка з пляцоўкай для назіраценя... На пляцоўцы, як павук у сетцы павуціння, сядзіць назірацель і са свайго месца пры дапамозе рычага адчыняе і зачыняе дзверы камер».

Многіх у тыя 1930-я здзіўляла нечаканая таямнічасць — самастойна адчыняліся дзверы камеры, куды цябе вялі. А па ўваходзе дзверы за спінай мякка шчоўкалі — і людзі адчувалі сябе ў пастцы.

Калі першае ўражанне светлага круглага памяшкання нагадвала цырк, то сама камера, яе ўсечаны сектар круга напамінаў дамавіну. І яшчэ многія на ўсё жыццё запомнілі пах свежай алейнай фарбы на пакосце*. Калі недзе пасля сустракаўся падобны, то вязням адразу ўзгадвалася: «Амерыканка».

З вядомых беларусаў у «Амерыканцы» сядзелі Паўліна Мядзёлка, пісьменнікі Уладзімір Дубоўка, Сяргей Дарожны, Язэп Дыла і іншыя. Адметна, што Мядзёлка і тут спрабавала спяваць, «але там доўга не папяеш: забаранялі».

Тым не менш праз 40 гадоў пасля зняволення ёй напісаў 88-гадовы пісьменнік Язэп Дыла, які дажываў свой век у расійскім Саратаве. Ён распавёў: «Я Вас добра памятаю яшчэ і таму, што калі мы сядзелі ў Менску ў так званай “амерыканскай ратондзе”, то зусім нечакана нечы дзявочы голас, які не мог быць у нас, а толькі ў галоўным будынку, пачаў апяваць нас у такіх народных беларускіх плачах».

Язэп Дыла і Уладзімір Дубоўка гадалі, хто з беларускіх дзяўчат мог так спяваць, і прыйшлі да высновы, што найверагодней гэта «гераіня Купалы, усім нам мілая Паўлінка». Мядзёлка з сумам адзначала: «Яны не ведалі, што ў той час я сядзела ў верхняй камеры... а я не ведала, хто сядзіць у ніжніх камерах».

А вось як прыгадваў унутраную турму літаратар Сяргей Грахоўскі: «На трэція суткі мяне кінулі ў адзіночку ▶

### «Амерыканка»

Пра гэтую назву (цяпер гэта следчы ізалятар КДБ) спрачаюцца. Найхутчэй, яна з’явілася з-за падабенства да круглых турмаў, якія былі пашыраныя ў ЗША. Існуе таксама версія, што турма пабудаваная па якім-небудзь амерыканскім чарцяжы (праекце). Акрамя таго, план турмы нагадвае разметку табліцы рулеткі, і гэта наводзіць на думку пра адзін з варыянтаў гульні ў яе — «амерыканку».

Увогуле ж, турмы падобнага тыпу былі прыдуманыя ў канцы XVIII стагоддзя англійскім навукоўцам Джэрамі Бентамам, які акурат тады жыў ва ўладаннях графа Грыгорыя Пацёмкіна ў нашым Крычаве, дапамагаючы свайму брату Сэмюэлю. Пра вынаходніцтва гэтай сістэмы, якая атрымала назву «паноптыкум» (ад старажытнагрэчаскага «ўсё бачна»), гл. артыкул Сяргея Астанковіча ў № 8/2019 «Нашай гісторыі».



**«Амерыканка».** Паэтэса Ларыса Геніюш таксама сядзела тут. Яна была перакананая, што некалі ў гэтым будынку будзе музей.

* «Олифа».

▶ ў так званай “Амерыканцы”. Гэтае збудаванне можа адразу дэмаралізаваць, прыгнясці псіхіку любога чалавека. У двары следчага корпуса стаіць круглая, як вадакачка, з шэрага бетону, з маленечкімі закратаванымі акенцамі ўнутраная турма». Ён жа прыгадваў легенду аб пабудове той турмы таленавітым архітэктарам, які пасля туды і сам патрапіў.

Адметна, што, падводзячы да турмы, «вывадны», «вертухай» або «попка», як іх празывалі ўсе арыштанты, мусіў тройчы свісцець. Так ён папярэджваў іншых наглядчыкаў, каб ні ў якім выпадку зняволеныя не сустрэліся, не ўбачылі адзін аднаго. Весці далей можна было толькі тады, калі чуўся свіст у адказ. Забаўная гісторыя адбылася з «вертухаем», які суправаджаў Грахоўскага: «З тоўстых, як сасіскі, губ чулася толькі шыпенне. Падвёў ён мяне да дзвярэй і загадвае: “Свісні!” — “А я не ўмею”, — адказваю. “Свісні, маць-перамаць!” Стаім. Думаю, хоць падыхаю свежым паветрам, а ён аж са скуры вылузваецца — трэба весці іншага арыштанта, а ён са мною валэндаецца».



**Сёстры і браты Улашчыкі, 1920-я гады. Сядзяць (злева направа): Канстанцін, Вольга, Мікалай. Стаяць: Ніна, Павел.**
У тыя страшныя гады былі рэпрэсаваныя бацька Мікалай Феліцыянавіч Улашчык, яго брат Юльян Феліцыянавіч з сынам Яўгенам, а таксама Мікалай, Ніна і Павел Улашчыкі.



## Ніна і рэвальвер

Галоўная мэта ўсіх допытаў заўсёды была адна: дабіцца прызнання, агавору. А калі версія абвінавачвання бурылася, выпускаць арыштантаў было нельга, іначай гэта брак у працы. «Дзверы ў нас адчыняюцца ў адзін бок», –нярэдка так і казалі вязням.

«Замардаваныя на следствах, ахвяры прызнаваліся, што ўзрывалі масты там, дзе іх ніколі не было, пускалі пад адхон цягнікі, дзе і рэек ніхто не пракладваў, падпальвалі неіснуючыя заводы. Следчыя патрабавалі прозвішчы новых і новых сяброў і знаёмых. Даведзеныя да адчаю, пакутнікі называлі людзей, якіх нават не ведалі ў твар. Яны спадзяваліся, што абсурд убачаць пракурор або суд», — пісаў Сяргей Грахоўскі.

Ды толькі часам самі следчыя стамляліся ад пастаянных допытаў, хаця мяняліся неаднаразова. Здараліся і такія выпадкі, як з Нінай Улашчык, старэйшай сястрой знакамітага гісторыка Мікалая Улашчыка. Адной ноччу нейкі маладзенькі лейтэнант сам знямогся і заснуў, паклаўшы голаў на свой локаць на стале. А крыху воддаль ад яго локця ляжаў рэвальвер. Варта было Ніне толькі працягнуць руку — і рэвальвер быў бы ў яе. На імгненне ўзнікла думка пра самагубства, але прыгадаліся дзеці, дзеля якіх трэба неяк перанесці ўсё і выжыць.

А часта было і так. Ледзь у калідоры зарыпяць боты — следчы ўскоквае, пачынае грукаць кулаком па стале, крычыць і сыпле адборныя мацюкі. Сціхнуць крокі — цішэе і следчы, корпаецца ў паперках, тэлефануе дадому, жартуе з жонкаю і дачушкаю. А на іх пытанне, калі прыйдзе, адказвае: «Ды тут адзін тып у мяне ніяк не хоча раззбройвацца, але нікуды не дзенецца».

**Ніна Улашчык**
была асуджана да 5 гадоў працоўна-папраўчага лагера, вызвалена ў 1943-м, у 1956 годзе вярнулася ў Мінск. Разам з сынам Усяславам падрыхтавала і выдала працу жыцця свайго мужа, Янкі Бялькевіча: «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны».



## Турэмныя ўніверсітэты

Агульная камера пад будынкам НКВД у Мінску стала для многіх вязняў сапраўдным універсітэтам. Не дзіва: у турмах тым часам сядзелі найлепшыя навукоўцы. Дацэнт Магілёўскага педінстытута, арыштант Клімент Піпота штовечар чытаў лекцыі па гісторыі Расіі. Пра асваенне Поўначы расказваў дасведчаны палярнік Язэп Сцяпура.

Язэп Германовіч прыгадваў, што, седзячы ў вайсковай турме горада Чыта, ён слухаў ад іншых зняволеных святароў невялікі курс па дагматычнай тэалогіі (распавядаў архімандрыт Андрэй Цікота), па гісторыі (ад настаўніка Віктара Уласава). Усе лекцыі былі цікавыя і карысныя, выклікалі шмат думак, пытанняў і спрэчак, ▶




**Часам на інтэрнэт-аўкцыёнах можна пабачыць у продажы такія жэтоны — нібы колішні сродак аплаты ў савецкіх лагерах.** Даследчыкі мяркуюць, што гэта падробкі 1980–1990-х гадоў. А насамрэч сродкам аплаты быў хлеб або цукар, які «заганялі» пры пільнай патрэбе. Часта здабывалі за гэта тытунь, бо курылі амаль усе і пакутавалі, калі бракавала. «Скрыначка ад запалак была меркаю табакі і ходкаю манетаю», — прыгадвалі вязні.

## Картуз-Бяроза: катаванні бегам

Вельмі многім беларусам давялося прайсці праз турмы і іншыя месцы зняволення ў міжваеннае дваццацігоддзе, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы. Самым страшным з гэтых месцаў быў канцэнтрацыйны лагер у Бярозе-Картузскай (цяпер райцэнтр Бяроза ў Брэсцкай вобласці). Ён быў створаны ў 1934 годзе ў адказ на забойства ўкраінскімі нацыяналістамі міністра ўнутраных спраў Польшчы Браніслава Перацкага. І быў доўгі час не толькі самым жорсткім паводле абыходжання з вязнямі, але і самым загадкавым.

Вядомы ў той час беларускі паэт і мастак Улад. Ініцкі (Уладзіслаў Паўлюкоўскі) пісаў: «Ужо некалькі гадоў, як існуе гэтая Бярэза з сваёю асабліваю сістэмаю марэння чалавека. Шмат хто ў ёй пабываў, але не было чуваць, як там жылося. А гэта дзеля таго, як потым я дачуўся, што ад звольненай з Бярэзы асобы паліцыя брала падпіску-прысягу — нікому і ніколі не казаць аб тым, што бачылася і што перажылося ў ёй».

А рабілася там страшнае, прытым пачынаючы з першых хвілін знаходжання. Улад. Ініцкі, які быў адразу пасля пачатку Другой сусветнай вайны ў верасні 1939 года інтэрнаваны польскімі ўладамі і змешчаны ў гэты жахлівы лагер, так успамінаў пачатак сваёй бярозаўскай эпапеі, якая, праўда, цягнулася не вельмі доўга — 8 дзён. Але і гэтага хапіла, каб напоўніцу сербануць ліха:

«Загадалі рухацца ў першыя вароты, скамандаваўшы: “Бягом!” Толькі я ўбег за вароты, як над галавою пачуў новы крык “Бягом!” і адначасна з ім удар па плячах. Не глядзеў я, хто й чым ударыў, а пабег... Бягу... паміж паліцыянтаў, стаяўшых у два рады і біўшых тых, што беглі перада мною. Паліцыянты крычалі “Бягом!” і білі... а мы, як хто мог, беглі... беглі проста, у лукаткі, ад аднаго раду паліцыянтаў да другога, пераганяючы адзін аднаго, папіхаючы пярэдняга, каб даць сабе дарогу, — кажны, як мог, як знаў, так ратаваўся ад біцця, не глядзеў на свайго таварыша... Не было тутака літасці і гуманнасці паміж людзей, каторых спаткала аднолькавая нядоля... А паліцыянты толькі крычалі “Бягом!” і білі... Білі гумовымі палкамі, прыкладамі стрэльбаў, каламі, палеччамі, хто што меў у руках... Білі ад усяго сэрца й душы, раз’юшаныя жорсткаю злосцю, бо ў некаторых ламаліся ў руках палкі і палеччы. Страшна было бегчы ад аднаго ўдару пад другі, але павароту не было... І мы беглі, стагналі, крычалі, раўлі... Беглі і падалі, куляліся адзін цераз другога, адзін другога таптталі, і так мо якіх 100 метраў, уздоўж аднаго трохпаверхавага будынка...»

Катаванні пастаянным бегам замест хады — адзін з найбольш яскравых успамінаў, хоць найбольш знясільвалі бесперапыннае стаянне на пляцы і вайсковыя муштры, якія трывалі з 6-й гадзіны раніцы да 4-й дня:

«Як ужо гаварылася, на муштры і з муштраў нас ганялі бягом. Бягом ганялі і некаторым “карным” групам загадвалі паўзці ў тое месца, куды звычайна ходзяць пехатою. Было яно ў канцы аднаго квартала і прадстаўлялася доўгаю ямаю, метры 2 углыбкі, адкрытаю з усіх бакоў. Над ямаю былі прымацаваны дзве дошкі, з каторых пры малейшай неасцярожнасці лёгка было зваліцца. Часу давалася адна мінута, а калі хто не паспеў, дык прыстаўлены крыміналісты з №2250 зганяў з занятага месца, б’ючы яго палеччам ці цырубалкам…

...Прабыўшы некалькі дзён і штодня бачачы беганіну людзей, я прыйшоў да вываду, што беганне тутака было сумысля ўведзена як спосаб марыць чалавека. Бо бегалі не толькі мы, інтэрнаваныя, але і крыміналістыя з сваімі вялікімі нумарамі на плячах. Бегалі яны не толькі паасобку, але й цэлымі групамі. Не раз можна было бачыць, як паліцыянт ехаў на ровары, а за ім ці перад ім беглі нумараваныя людзі... мабыць, на работы. Нават тыя, што вазілі ваду бочкамі, і то іншы раз подбегам цягнулі бочкі».



HARDZIN.LIVEJOURNAL.COM

**Язэп Германовіч у Рыме**, пачатак 1960-х.

галоўнае ж — не марнаваўся час, а нуда праганялася.

Пісьменнік Масей Сяднёў быў арыштаваны ў 1936 годзе. Удалося яму прайсці 1937 год і не быць расстраляным, а затым уратавацца падчас эвакуацыі вязняў з Мінска ў бок Чэрвеня. Калі ў 1990-х пісьменнік-эмігрант наведаў Мінск, то пайшоў на рог былых вуліц Савецкай і Урыцкага (цяпер праспекта Незалежнасці і вуліцы Гарадскі Вал). Ён прыгадаў, што ў 1936 годзе доля завяла яго ў падвальную камеру на гэтым перакрыжаванні: «Тая камера цяпер замураваная, і калі цяпер мы глядзелі на тое замураванае месца, нам здавалася, што і мы замураваныя там навекі».

### НКВД — «не знаю, калі вярнуся дамоў»

У пасляваенны час трагедыі не завяршыліся, людзей працягвалі судзіць на значныя тэрміны. Беларускі святар Язэп Германовіч (пісаў пад псеўданімам Вінцук Адважны) прыгадваў адметны выпадак. Вязням у лагерах трэба было называць на паверцы свае прозвішча, імя, год нараджэння і прысуд. Адзін, асуджаны на 25 год, далажыўшы ўсю інфармацыю пра сябе, у дадатак махнуў рукой, прамовіўшы «нізашто мне далі». На тое

## Нацысцкія канцлагеры: пекла пякельнае

У часы нямецкай акупацыі мільёны людзей прайшлі праз нацысцкія канцлагеры, сярод іх былі і вядомыя беларускія дзеячы. Агульныя ўспаміны — гэта пекла пякельнае, у якім пагроза смерці вісела кожны дзень. І каб у гэтым пекле выжыць, трэба было мець не толькі моцнае здароўе і шмат маральных сілаў, але і банальнае шанцаванне.

Пра асабісты штодзённы досвед выжывання ў нямецкім канцэнтрацыйным лагеры ў Калдычэве цяперашняга Баранавіцкага раёна згадваў паэт Сяргей Новік-Пяюн, адметны тым, што яму давялося прайсці праз турмы і лагеры адразу трох рэжымаў: польскага міжваеннага, нацысцкага ваеннага і сталінскага пасляваеннага. Падчас допытаў у слонімскім СД, а затым у лагеры яго і іншых білі драўлянымі палкамі, наглядчыкі сістэматычна здзекаваліся з вязняў, прыніжалі, цкавалі іх сабакамі. Прытым рабілі гэта відавочна без загаду, дзеля ўласнага задавальнення.

Смерць заўсёды была побач, расстрэлы ішлі няспынна, і прычыны для гэтага знаходзіліся самыя розныя. Аднойчы, напрыклад, начальнік загадаў вязням перабіць у бараку ўсіх пацукоў, якіх развялося там неймаверна. Вязні набілі іх больш чым сотню, а адзін выкінуў пацучыныя трупы на сметнік. За гэта таго вязня расстралялі, бо з пацукоў, па задуме катаў, вязні павінны былі зняць шкуркі.

Будучага вядомага пісьменніка-дысідэнта Аляксея Карпюка разам з братам Валодзькам адправілі ў канцэнтрацыйны лагер за межамі Беларусі — Штутгаф на поўначы цяперашняй Польшчы. Ён успамінаў, што ўлада ў гэтым лагеры была арганізавана на прынцыпах самакіравання. Нямецкія вахманы-ахоўнікі вартавалі лагер толькі звонку, а ўсярэдзіне распараджаліся спецыяльна адабраныя асобы з ліку вязняў, якіх звалі «капо». У гэтыя наглядчыкі адбіраліся закаранелыя бандыты і прыродныя садысты, адзінай формай ажыццяўлення ўлады ў якіх быў кій: «Капо спаборнічалі, хто з аднаго маху саб'е з ног арыштанта. Часамі ад няма чаго рабіць яны забівалі дубінай чалавека, і агонія ахвяры выклікала ў іх цынічны рогат».

Лагер быў разлічаны на пэўную колькасць вязняў, а каб яе не перавышаць, то пры прыбыцці новай партыі забівалі такую ж колькасць людзей з ліку найбольш аслабленых «старажылаў». Толькі дапамога нямецкіх камуністаў, некаторыя з якіх былі зняволеныя аж з 1933 года, калі Адольф Гітлер прыйшоў да ўлады, дазволіла Аляксею з братам фізічна пратрымацца да таго моманту, калі ўдалося перадаць вестку пра сябе бацькам на волю і ад іх сталі прыходзіць прадуктовыя пасылкі. А пасля яму ўдалося паспяхова ўцячы ды дабрацца дадому, і гэта быў ці не адзіны такі выпадак за ўсю гісторыю лагера. Хоць пасля, ужо ў 1970-я, савецкія ўлады скарысталі яго, каб абвінаваціць пісьменніка, які да таго часу ўжо стаў прынцыповым крытыкам сістэмы, у супрацоўніцтве з нацыстамі (падрабязней гл. у артыкуле Алеся Кіркевіча «Заходнебеларуская адысея» ў № 3/2020 «Нашай гісторыі»).

DEPOSITPHOTOS.COM, BY ALIAKSANDRANTANOVICH

### Месцы болю

Пасля задушэння паўстання 1863–1864 гадоў будынкі пры касцёле Святога Язэпа (вул. Кірыла і Мяфодзія, 4) былі перададзены следчай камісіі. Там трымалі больш важных паўстанцаў. Насупраць (вул. Кірыла і Мяфодзія, 5) знаходзіліся драбнейшыя «мяцежнікі».

дзяжурны наглядчык, раззлаваўшыся, адказаў:

— «Нізашто, нізашто...» У нас нізашто толькі 10 даюць.




WIKIMEDIA COMMONS

**Драўляная скрынка, у якой Язэп Германовіч трымаў Святыя Дары ў ГУЛАГу.** Захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы і музеі імя Францішка Скарыны, Лондан.

Германовіч адзначаў: «Так наглядчык, дакараючы, сказаў нехаця шчырую праўду, хоць і няпоўную, бо таксама нізашто даюць і цэлых 25 год». Дарэчы, найцяжэйшы прысуд за савецкім часам (калі адмянілі расстрэл) быў 25 год лагераў + 5 год высылкі + 5 год паражэння ў правах (у турме апошняе называлі «па рагах»).

Адметна, што сумная слава пра бальшавіцкіх следчых пашыралася па ўсім свеце. Нават у далёкім кітайскім Харбіне абрэвіятура НКВД, паводле Язэпа Германовіча, расшыфроўвалася наступным чынам: «не знаю, калі вярнуся дамоў».

Па яго ж успамінах, у лагерах рэдка хто з вязняў не маліўся. Бо калі б не вера, то было б зусім кепска. І часта ў складаных выпрабаваннях вера зняволеных «станавілася жывейшаю, а малітва шчырэйшаю».

* * *

Не ўсе, але многія ўсё ж такі дачакаліся волі, дачакаліся смерці Сталіна. Такія радкі напісаў у 1953 годзе беларускі пісьменнік Язэп Пушча:

Нязвыклы дзень: тыран сканаў,
На твары чорная сляза;
Яе нікому не злізаць.
З касою смерць каля акна.
Вартуй жа, смерць, усю ноч і рань,
Каб больш не ўстала яго здань. ◆

### Як называлі турэмныя тэрміны ў пасляваенны час

**25 гадоў** — катушка (шпулька), ад выразу «асудзіць на поўную катушку».

**10 гадоў** — кароткатэрміновы.

**5 гадоў** — смешна малы і нават падазроны.

**3 гады** — мізэрны, проста ніякі.

*Паводле Язэпа Германовіча*

# Зялёны ліст, чырвоны цвет ШЫПШЫНА



**Пра расліну, якая дзякуючы паэтычнаму генію Уладзіміра Дубоўкі часам успрымаецца як адзін з сімвалаў Беларусі, піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

Навуковая лацінская назва шыпшыны *Rosa canina* (даслоўна «сабачая ружа»), якую можна сустрэць таксама ў народных гаворках розных моў, звязаная нібыта з тым, што ў Сярэднявеччы гэтую расліну доўгі час выкарыстоўвалі як сродак для лячэння сабачых укусаў і прафілактыкі шаленства. Але гэта толькі адна з версій. Іншая, больш простая, тлумачыць назву тым, што сціплай шыпшыне далёка да прыгажосці вытанчаных садовых ружаў. І праз такую назву адмыслова падкрэслівалася яе невысакароднасць.

## Сімвал кахання і носьбіт таямніц

Надзяляць шыпшыну разнастайнымі цудоўнымі ўласцівасцямі і атрыбутамі розных боствaў пачалі яшчэ ў глыбокай старажытнасці. У антычнай міфалогіі шыпшына — яскравы сімвал кахання. Яна адназначна асацыюецца з Афрадытай (Венерай), багіняй прыгажосці і кахання, якую часта малююць з вянком з шыпшынаў вакол галавы. Чырвоныя кветкі шыпшыны (або ружы) быццам бы атрымалі свой колер ад яе крыві. Калі яна ўбачыла сваё адзінае каханне, Адоніса, смяротна параненым, то імкліва пабегла да яго і неасцярожна ўкалолася аб шыпы. А пасля вяселля Эраса, нязменнага спадарожніка і памочніка Афрадыты, з Псіхеяй, багіняй Душы, уся зямля заззяла ружамі, раскіданымі трыма грацыямі, каб адсвяткаваць вечны саюз кахання і душы. (Дарэчы, і славянскі бог кахання Палель, сын багіні Лады, насіў вянок, у які былі ўплеценыя ружовыя кветкі шыпшыны.)

*На замчышчах,*
*Каля забытых двароў,*
*Дзе хмыз вырастае няхлынна,*
*Нявесціцца*
*Хутаранка шыпшына —*
*Калючы позірк,*
*Зялёная кроў.*

Рыгор Барадулін

Рымляне пайшлі яшчэ далей, стварыўшы сапраўдны культ (дзікай) ружы. Кветкі прыносілі ў ахвяру багам, пялёсткі клалі ў падушкі, імі асыпалі падлогі


DEPOSITPHOTOS.COM, BY BOVALENTINO

падчас рэлігійных і грамадзянскіх цырымоній. Таксама для рымлян шыпшына-ружа стала сімвалічным носьбітам таямніц. Над месцамі, дзе вяліся перамовы (у прыватнасці, над сталамі), часта вешалі дзікія ружы як напамін удзельнікам, што ўсё, што сказана «пад ружай», ніколі не павінна паўтарацца ў іншым месцы. Тэрмін *sub rosa dictum* («пад ружай сказана») быў для старажытных рымлян, а потым і для немцаў, якія пераналі гэты сімвалізм, своеасаблівым «грыфам строгай сакрэтнасці». У Германіі ружа працягвала заставацца знакам таемных таварыстваў і таямніцы наогул.

Ва ўласна ж германскай міфалогіі добра вядомы такі сюжэт. Дзевы-валькірыі, якія пераносілі душы памерлых ваяроў у рай Вальхалу пры палацы бога ▸

**Шыпшына** (лац. *Rosa*) род кветкавых раслін сямейства ружавых, у якім афіцыйна налічваецца 366 асобных відаў, а ў некаторых класіфікацыях выдзяляюць аж да 500. Уласна кажучы, шыпшына — агульная беларуская назва дзікарослых відаў і формаў ружы, бо ўсе яны маюць характэрныя абарончыя шыпы. Усе культурныя ружы таксама адносяцца да гэтага роду, і правесці дакладную мяжу паміж акультуранымі і дзікімі формамі на падставе аб'ектыўных біялагічных крытэрыяў складана.

У Беларусі вядомыя прынамсі 9 дзікарослых відаў гэтага роду. Найбольш вядомыя з іх — ружа сабачая, ружа майская, ці карычная, ружа іржава-чырвоная, ружа Жэрара, ружа мяккая, ружа скурысталістая, ружа Юндзіла. Апошні з гэтых відаў, дарэчы, названы ў гонар Станіслава Баніфацыя Юндзіла (1761–1847), ураджэнца Лідскага павета, рэктара піярскага калегіума ў Шчучыне і аднаго з заснавальнікаў сучаснай навуковай батанікі на тэрыторыі Беларусі.

Гаворачы пра шыпшыну ў гэтым артыкуле, мы маем на ўвазе перадусім «ружу сабачую». Іншыя ж віды маюць вельмі блізкія да яе знешні выгляд і ўласцівасці, а таму ў масавай свядомасці, як правіла, за асобныя не ўспрымаюцца. Адрозніваюць іх толькі вучоныя-батанікі.


LEROYMERLIN.RU

На вуліцах нашых гарадоў часцей расце **ружа скурысталістая.**


WIKIMEDIA COMMONS

**Ружа сабачая.** З кнігі Ота Вільгельма Томэ «*Flora von Deutschland, Österreich und der Schweiz*». 1885 год.

Ружа сабачая — лістападны куст, які дасягае ў вышыню ад 1,5 да 2,5 м. Парасткі ў яго тоўстыя, дугападобна выгнутыя, кара зялёная, з сонечнага боку чырванее. На парастках маюцца серпападобныя шыпы, заўсёды крючкападобна выгнутыя. Кветкі ў гэтай расліны — без паху, адзіночныя або сабраныя па тры-пяць у верхавінныя шчыткападобныя суквецці, колеру ў дыяпазоне ад белага да ярка-ружовага.

Плады шыпшыны, якія даспяваюць у жніўні, — авальнай формы, гладкія і льсняныя, аранжава-чырвонага колеру. Унутры яны ўтрымліваюць насенне — шмат варсістых арэшкаў. Дзеці і падлеткі з гэтымі арэшкамі часта даволі жорстка забаўляюцца: раздзіраюць плод шыпшыны і ягонае змесціва кідаюць, ці то жадаючы за нешта адпомсціць, ці то проста жартуючы, камусьці за каўнер. Варсінкі, расцёртыя паміж целам і адзеннем, пачынаюць пячы і часацца, а пазбыцца іх не так проста.

▶ Одзіна, ніколі не павінны былі ўмешвацца ў ход падзей. Але адна з іх, Брунхільда, аднойчы дапамагла атрымаць перамогу аднаму з супернікаў у бітве двух каралёў. І менавіта таму з іх, хто па загадзе бога вайны Вотана павінен быў загінуць. Угневаны бог у пакаранне паклаў пад галаву спячай Брунхільды галінку дзікай ружы з атручанымі шыпамі. Дзева пагрузілася ў вечны сон, і абудзіць яе мог толькі прынц, які пакахаў бы яе. Прытым і шлях да спячай дзевы ахоўваў шыпшыннік. Гэты сюжэт з рознымі варыяцыямі даў пачатак многім народным і літаратурным казкам.

## Нячыстая расліна на мяжы розных светаў

У славянскай, у тым ліку ў беларускай, міфалогіі шыпшына праз свае шыпы надзяляецца пераважна негатыўнымі ўласцівасцямі, лічыцца «нячыстай» раслінай. Праўда, як і ў іншых калючых раслінаў, небяспека ад яе шыпоў — двухбаковая. Яна можа

PINTEREST.COM




**Магчыма, валькірыя Брунхільда — правобраз соннай прыгажуні.** Мастак Ёган Георг ван Каспель.

WIKIMEDIA COMMONS



Паводле старажытнарымскай міфалогіі, **Флора, багіня кветак і вясны**, убачыла німфу, што памірала, пашкадавала яе і ператварыла ў кветку — ружу.

выкарыстоўвацца і як абярэг ад дэманаў, для нейтралізацыі шкоданоснай магіі, пры лячэнні хваробаў. І такім чынам шыпшына расце на мяжы свайго і чужога свету. У вядомай баладзе спевакоў з Аўстраліі Ніка Кэйва і Кайлі Міноўг «*Where the Wild Roses Grow*» (1996) пра фатальнае каханне і падступнае забойства зараснік шыпшыны стварае той жа самы антураж — смяротна небяспечнай мяжы нашага нармальнага і незямнога свету.

У знахарскіх замовах шыпшына, як, дарэчы, і асіна, сімвалізавала іншасвет, куды імкнуліся пераслаць хваробы ці сурокі з людзей: «Урокі, вы ўрокі, калі вы надуманы, калі вы нагаданы, ці вы жаноцкія, ці вы парабоцкія, ці вы бабскія, ці вы дзецкія? То ідзеце вы **на шыпшыну, на горку асіну**. Там вам прабываць, рабе божай (імя) урокаў не бываць, касцей не ламаць...» Для падмацавання гэтай магічнай формулы пад шыпшыну вылівалі і рэшткі



У вядомай баладзе спевакоў з Аўстраліі Ніка Кэйва і Кайлі Міноўг *«Where the Wild Roses Grow»* (1996) пра фатальнае каханне і падступнае забойства шыпшына — антураж мяжы нашага нармальнага і незямнога свету.

гаючых адвараў, якімі лячылі хворага. А балгары і македонцы, дарэчы, тлумачылі раптоўную хваробу чалавека тым, што ён «дзесьці ўлез пад шыпшыну».

На Усходнім Палессі шыпшыну з яе калючкамі засоўвалі ў шчыліны хаты на Купальскую ноч, баронячыся ад ведзьмаў. У адной чарадзейнай казцы душа памерлага ў выглядзе карліка аддзячвае каралевічу за дапамогу тым, што дае яму дзевяць дубцоў з шыпшыны, якія дзевяць дзён неабходна ламаць над галавой пані-прыгажуні — палюбоўніцы чорта, каб з яе выйшлі ўсе нячыстыя духі.

## Чырвоная ружа, не стой на дарозе

У народных баладах свякроўка садзіць на магіле атручанай ёй нявесткі шыпшыну, у той час як на магіле любімага сына — чырвоную каліну (ці явар):

Пахаваю сына ў вішнёвым садочку,
А чужу нявесту ў цёмненькім лясочку.
Пасаджу на сынку чырвону калінку,
А чужой нявесце — чорную шыпшынку.

### Дзіцячая загадка пра шыпшыну

Беларускай ружай клічуць.
Пчолкі кветкі ёй казычуць.
Як пялёсткі абляцелі —
Хутка і плады паспелі.

Алена Церашкова

Шыпшынай (або горкім асіннікам, сухім ельнікам) зарастаюць сцежкі-дарожкі, якія злучалі калісьці родных людзей. Заўважце, шыпшына ў баладзе называецца «чорнай» — але гэта не рэальны колер расліны або нейкай яе часткі, а сімвалічны, колер «чорнай» долі.

Шырокую вядомасць у апрацоўцы Уладзіміра Мулявіна атрымала іншая народная песня:



Чырвоная ружа, не стой на дарозе!
Не стой на шырокай, хто йдзе,
той ламае.
Жанаты ламае — дзяцям на забаву,
Халасты ламае — дзеўкам
на спадману.
За што, за што, якое дзіва?
За тое, за тое, як ты красіва.

Але гэта не светлая, не радасная, але фатальная прыгажосць. Магчыма, невыпадкова гэтая песня змяшчае дзікую ружу менавіта пры дарозе? Адна з удзельніц нашай суполкі ў Фэйсбуку «Сімвалічны свет беларускіх раслінаў», Лора Жаўнерык, падзялілася вось такім назіраннем: «Быў час, калі я шмат хадзіла пехатою ў розных мясцінах Беларусі. Дык вось што заўважыла: уздоўж брукаванак ці старых дарог вельмі часта расце шыпшына». Ці гэта сама расліна любіць такія ўзбочыны, ці яе даўней адмыслова высаджвалі ўздоўж дарог?

## Атрыбут Панны Марыі

У хрысціянстве сімвалізм шыпшыны таксама дваісты. З аднаго боку, паводле старога падання, зрынуты Богам з неба Шатан задумаў быў ізноў падняцца туды. Для гэтага ён абраў шыпшыну, чые некалі прамыя ствалы з шыпамі мусілі паслужыць яму гэткай «драбінай». Але Усявышні разгадаў ягоны план і сагнуў і галінкі, і калючкі шыпшыны ўніз. З таго часу яны выгнутыя дадолу і чапляюцца за ўсё, што да іх дакранаецца. Але, з іншага боку, гэтыя ж самыя калючкі сімвалізуюць і цярновы вянец Хрыста, які праз пакуты прынёс збаўленне ўсяму чалавецтву. Народная беларуская назва цёрну, дарэчы, таксама «шыпшына».

Перадусім жа шыпшына ў хрысціянстве — атрыбут Панны Марыі, асабліва праз сімвалізм ліку 5, а менавіта столькі пялёсткаў у гэтай кветкі. У каталіцкай традыцыі Ружанец — і адмысловы комплекс малітваў, і прылада, накшталт пацерак, для іх адлічвання. Ружанец — гэта малітоўны роздум пра пяць радасных, пяць балесных і пяць слаўных таямніцаў жыцця Марыі.




## Дай кветку, брат

Людзей меншала і меншала, бо яны ішлі ўпрочкі і рабіліся ўрэшце толькі жывымі кропкамі на лоне зямным. І ўрэшце Выліваха з дзяўчынай і Палачанін засталіся ўтраіх.

— Чаму ты адказаў «да скорай сустрэчы», а сам усміхаўся, Выліваха?

— Наўрад ці сустрэча апошняга майго нашчадка і яе адбудзецца скора.

— Твая праўда, — сказаў Палачанін. — Дый ці вымруць яны наогул, такія гарластыя?.. Дай кветку, брат.

Ён узяў трохі прывялую кветку і пасадзіў яе, як мятлушку, на шыпшынавыя хмызы. І дзіўна, астатнія кветкі адразу сталі цямнейшыя. І з таго самага часу над Дняпром расце цёмная шыпшына, якая цвіце ўсё лета, каб ніхто не застаўся без роднай кветкі, калі прыйдзе час адыходзіць з нашай добрай зямлі, каб у кожнага была кветка.

**Уладзімір Караткевіч.**
**«Ладдзя роспачы»**



STARYOLSA.COM

Цалкам аповесць **у выкананні гурта «Стары Ольса»** слухайце тут.



## Літаратурнае пераасэнсаванне

У рамантычнай паэзіі XIX стагоддзя ўспрыманне дзікай ружы пачынае кантраставаць з глыбіннай народнай паэтыкай. Гэты імпульс, магчыма, пайшоў ад верша Ёгана Вольфганга фон Гётэ «*Heidenröslein*» («Польная ружачка», 1771), які аказаў прыкметны ўплыў на фармаванне мастацкіх густаў новай эпохі па ўсёй Еўропе. У тым ліку ў перакладзе Юзафа Грайнэрта на польскую верш быў пакладзены на музыку нашым славутым кампазітарам Станіславам Манюшкам.

Дзікая ружа ў гэтым вершы — метафара прыгожай, але і годнай, незалежнай дзяўчыны, якая не даецца так проста сябе «сарваць», а патрабуе далікатнага, пяшчотнага абыходжання. Толькі калі закаханы хлопец узяў яе з «дзікага» лугу ў дом, дзе абыходзіўся з ёй як з каралевай, яна адказала яму ўзаемнасцю. Гэтая змена ў сімвалізме шыпшыны адлюстроўвала ▸

паступовы рост статусу жанчыны ў буржуазным грамадстве ў параўнанні з феадальным, але, відаць, была і зваротам да больш жыццярадаснага, светлага сімвалізму шыпшыны ў антычнай міфалогіі. А магчыма, ёсць у гэтым і ўплыў хрысціянскай Марыйнай вобразнасці.

А ад сімвалізму каханай дзяўчыны недалёка і да сімвалізму Радзімы. Такая сувязь пачынае прасочвацца з нараджэннем нацыянальных пачуццяў. Магчыма, менавіта такі падвойны сэнс хацеў укласці ў назву свайго нявыдадзенага паэтычнага зборніка Максім Багдановіч. За паўгода да смерці, у верасні 1916 года, ён пісаў Вандзе Лявіцкай, дачцэ пісьменніка Ядвігіна Ш., з Яраслаўля: «...Праглядаю гэтымі днямі свой "Вянок". Недахватаў рожных — гібель, ды і кніжка гэта зусім маладая: вершы яе пісаліся з паловы 1909 да паловы 1912 года, калі мне было 17–20 год. Але ў ёй усё ж такі ёсць і творчасць, і натхненне, і сур'ёзная праца. Узяў я карандаш, палавіну вершаў выкасаваў зусім, другую прабую абгладзіць. Дадам да гэтай другой палавіны лепшыя з вершаў 1912–15 гадоў, і выйдзе зборнік "Маладзік" або "Красавік"... У 1913 годзе я асабліва ахвотна пісаў, кажучы велікарускае слова, "изящные" вершы; з іх бадай што ні адзін друку не бачыў. Выйдзе яшчэ адзін зборнік "Пярсцёнак". А з вершаў апошняга часу і трэці — "Шыпшына". Укласці гэтыя кніжачкі, пэўна, не паспею, але думаць аб іх прыемна...»

Ці ведаў пра гэты намер Багдановіча малады Пятро Глебка, ці не, але свой першы паэтычны зборнік 1927 года ён назваў таксама «Шыпшына» — і дамінантны матыў зборніка гэта менавіта каханне.



WIKIMEDIA COMMONS

**«Тысячагадовая ружа»**

Ці не самы славуты куст шыпшыны ў свеце, а афіцыйна — і самы стары, расце на ўсходняй апсідзе каталіцкага кафедральнага сабора ў нямецкім горадзе Хільдэсхайм (зямля Ніжняя Саксонія). Ён дасягае вышыні каля 10 метраў. Катэдра асвечаная ў гонар Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, а шыпшына, правобраз ружанца, — яе агульнапрызнаны сімвал. Дакументальна пацверджаны ўзрост куста — амаль 700 гадоў, з 1323 года. Але легенда кажа, што ён рос ужо ў момант стварэння мясцовай дыяцэзіі каралём Людовікам Пабожным у 815-м. Таму яго часта называюць «тысячагадовай ружай». Будынак катэдры быў разбураны бамбавікамі саюзнікаў у 1945 годзе, але па вайне адноўлены. Карані ж куста захаваліся, і ён праз пэўны час зноў заквітнеў сярод руін. Паводле легенды, пакуль квітнее куст, будзе квітнець і Хільдэсхайм.

**«Польная ружачка»** на музыку Станіслава Манюшкі ў выкананні польскай спявачкі Эвы Бандроўскай-Турскай.



Ну а найбольш, бадай, вядомыя ў беларускай літаратуры — два вобразы шыпшыны. Першы — з верша Уладзіміра Дубоўкі (1925):

О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не зарасцеш.

Гэты вобраз нечакана набыў новае, містычна-прароцкае гучанне пасля Чарнобыльскай катастрофы 1986 года (падрабязней пра гэта гл. у артыкуле пра палын у № 5/2021 «Нашай гісторыі»).

А другі — з казачнай аповесці Уладзіміра Караткевіча «Ладдзя роспачы». Яе галоўны герой — небагаты і дужа задзірысты рагачоўскі шляхціч Гервасій Выліваха, нарэшце пакліканы да адказу за сваё разгульнае жыццё самой Смерцю. Адыходзячы ў свет ценяў, ён захапіў з сабою кветку шыпшыны як сімвал той зямлі, якую яму балюча пакідаць і якая да апошніх дзён жыцця застанецца з ім. Менавіта яна дазволіла яму захаваць на тым свеце трываласць духу і выйграць у Смерці прапанаваную ёй партыю ў шахматы, на дваццаць гадоў жыцця ўсіх тых людзей, якія прыйшлі да яе разам з ім.

## У кулінарыі і медыцыне

З чырвона-аранжавых «ягад» (несапраўдных пладоў) шыпшыны здаўна варылі варэнне, кісялі, сочыва, сушылі іх на зіму (у цёмным і халаднаватым месцы, бо так найлепш захоўваюцца карысныя рэчывы). Шыпшына — выдатная крыніца вітаміну С (яго ў ёй у 50 разоў больш, чым у лімоне). Народная медыцына ўжывае яе пры прастудзе, малакроўі, рэўматызме, гіпертаніі, а таксама як супрацьзапаленчы, мачагонны і жаўцягонны сродак. Адвар з пладоў шыпшыны пілі падчас абмаражэнняў, пры нервовых захворваннях, а адвар каранёў шыпшыны дапамагае пры паралічы і захворванні ног.



**Пялёсткі руж і сёння карыстаюцца попытам**: імі абсыпаюць маладых падчас вяселля.

Шыпшына — важны кампанент некалькіх традыцыйных настоек з яскравым сімвалізмам, такіх як «Ліцвінка» (адзін з відаў крупніку), «Жаніх» (настойка, якую трэба было абавязкова мець у доме, дзе была дзяўчына на выданне) і «Пасі-конік». ◆

Больш пра шыпшыну і іншыя беларускія расліны можна даведацца ў Фэйсбук-суполцы **«Сімвалічны свет беларускіх раслінаў»**, якую адмініструе аўтар гэтага артыкула.



### Сушаная шыпшына

(паводле «Літоўскай гаспадыні» Ганны Цюндзявіцкай)

Разрэзаныя напалам ягады старанна ачышчаюць ад калючых валокнаў, потым нанізваюць на ніткі альбо кладуць на рашоты ці бляхі, злёгку засланыя саломай. Сушаць некалькі разоў у цеплаватай печы або на сонцы і вольным паветры. Захоўваюць у сухім памяшканні ў гаршках ці мяшках. Шыпшынай упрыгожваюць мясныя і рыбныя стравы.

### Варэнне з шыпшыны

(паводле «Літоўскай гаспадыні»)

У спелых, але не пераспелых і не перамерзлых ягадах неабходна зрабіць невялікія дзірачкі, праз якія дастаць насенне і калючыя валокны, што напаўняюць шыпшыну. Потым старым палатном, надзетым на пруток, выцерці плады ўнутры з усіх бакоў, каб гэткім чынам іх старанна ачысціць. Пасля спаласнуць у некалькіх водах, яшчэ раз выцерці ўсярэдзіне і кінуць у вар. Калі закіпяць, адразу працадзіць праз сіта і, абліўшы халоднай вадой, разлажыць на палатне дзірачкамі ўніз, каб вада сцякла. Потым адважыць два фунты цукру на адзін фунт шыпшыны і дадаць паўкварты вады. Ягады кідаць у гарачы сіроп і варыць звычайным спосабам: спачатку на моцным агні, а потым на меншым.

**У ягадах шыпшыны — шмат калючых валокнаў**, але варэнне з іх атрымліваецца надзвычайнае.





**Шляхецкі дом на Падляшшы.** Малюнак з кнігі Зыгмунта Глогера «*Dolinami rzek. Opisy podróży wzdłuż Niemna, Wisły, Bugu i Biebrzy*» (1903 год).

# Шляхецкі дом сармацкай эпохі

**Рэнесанс прынёс еўрапейцам моду на антычнасць, якая на нашых землях ператварылася ў ідэалогію сарматызму. Шляхта Рэчы Паспалітай усяляк падкрэслівала, што паходзіць ад старадаўніх сарматаў. Як гэта адлюстравалася ў жытле, расказала дызайнерка інтэр'еру Юлія Брузго.**

### Лыжка «культурнага булёну»

У XVI–XVII стагоддзях наша зямля не была мядзведжым кутом Еўропы. Эпоха Рэнесансу, якая пачалася ў Італіі яшчэ ў канцы XIV стагоддзя, у першай чвэрці XVI стагоддзя дайшла і да нашых земляў.

Італьянскі Рэнесанс стаў пашырацца ў Вялікім Княстве Літоўскім пасля прыезду дачкі міланскага герцага Боны Марыі Сфорцы, жонкі караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога. Яна прывезла з Італіі звычкі, веды, шмат прыдворных і цэлы дэсант адмыслоўцаў: кухараў, сталяроў, шаўцоў, садоўнікаў і архітэктараў. Такім чынам, у Вялікім Княстве Літоўскім варыўся той жа «культурны булён», што і ў іншых еўрапейскіх краінах.

У пачатку XVII стагоддзя Рэнесанс змяніўся на барока.

Петрапаўлаўская царква на Нямізе ў Мінску і фарны касцёл у Навагрудку з іх стрыманымі, аскетычнымі фасадамі — гэта ранняе барока: у нас яно завецца «сармацкім».



WIKIMEDIA COMMONS

**Драўляны лямус брыгіцкага кляштара ў Гродне** — адзіны драўляны будынак XVII стагоддзя ў Беларусі і Польшчы.

Свята-Духаў кафедральны сабор у Мінску, а таксама Сафійскі сабор у Полацку — гэта ўжо пышнае віленскае барока, што стала развівацца ў апошнюю чвэрць XVII стагоддзя.

### Камень і драўніна

І ўсё ж каменныя пабудовы да канца XVII стагоддзя ў нашым краі былі рэдкімі, гэтаксама як і ў Польшчы ды Маскоўскім царстве: дрэва ў гэтым рэгіёне было куды таннейшым і даступнейшым матэрыялам. Калі адкінуць сакральныя пабудовы, маем з таго перыяду хіба толькі некалькі каменных магнацкіх рэзідэнцый: палацава-паркавы комплекс у Нясвіжы, Стары замак у Гродне, незвычайны дом-крэпасць Нонхарт у Гайцюнішках Воранаўскага раёна. Усе гэтыя будынкі ўзведзеныя багатымі магнацкімі родамі.

Драўляныя дамы, на жаль, гараць і гніюць, таму ні

ў Беларусі, ні ў Польшчы не захавалася ніводнага будынка з дрэва XVII стагоддзя. Амаль ніводнага: у Гродне стаіць унікальны помнік драўлянага дойлідства — лямус*, які гісторыкі асцярожна датуюць XVII стагоддзем.

А між тым, разглядаючы сёння ў архівах планы і замалёўкі будынкаў, выразна бачыш, што двор шляхціча ў XVII стагоддзі, як і ў Сярэднявеччы, быў збудаваннем абарончым. Хіба не мусіў ён быць найтрывалым? Мабыць, не абавязкова, бо бараніў такі двор не столькі жыццё ад ворагаў, колькі шляхецкую годнасць сям'і перад гасцямі — іншымі шляхцічамі. І наймацнейшымі заступнікамі гэтай годнасці былі, як ні дзіўна, міфічныя старажытныя сарматы.

* **Лямус** — гаспадарчая пабудова для захавання харчовых прадуктаў, адзення, збожжа, прылад працы, каштоўнай маёмасці, а таксама для жылля ўлетку.



**Брама XVII стагоддзя.**

## Брама-вежа

Нават самы бедны шляхціч, хай ён не мог раўняцца памерамі двара з багацейшымі, трымаўся элементаў, абавязковых для сядзібы «нашчадка сарматаў». Таму ў агульных рысах двары шляхты былі падобныя паміж сабой.

Пачыналіся яны з брамы з агароджай двара, за якой быў жылы дом, гаспадарчыя пабудовы, вадаёмы, агароды, часта млын.

Спачатку брамай была драўляная вежа з варотамі, а ў XVII стагоддзі да вежы дадаюцца бакавыя прыбудовы. Пазней яе будавалі таксама і з каменю і нават тынкавалі ды афарбоўвалі ў белы колер.

## Высокі ганак

Праехаўшы ў прадстаўнічую браму, шаноўны госць мусіў адразу быць абяззброены выглядам галоўнага фасада, таму жылы дом часцей за ўсё ўзводзілі на адной восі з брамай або паралельна галоўнай восі.

Нават у самых бедных шляхцічаў, дамы якіх былі толькі крыху большымі, чым у сялян, заўсёды быў высокі парадны ганак з лесвіцай і агароджай з балясінамі. Лесвіца да галоўнага ўвахода выкладалася з цэглы або каменю і магла быць атынкаваная, балясы агароджы размалёўваліся. Драўляныя дзверы галоўнага ўвахода ўпрыгожваліся маляванымі ўзорамі, каванымі або драўлянымі накладкамі і дэталямі. Часцей галоўны ўваход размяшчаўся па цэнтры, але не заўсёды.




**Рэканструкцыя каралеўскага замка XVI стагоддзя** ў Лыскаве на Пружаншчыне, зробленая мастаком Паўлам Татарнікавым. Агульная планіроўка тут — як у тыповага шляхецкага двара.

▶ У плане дом меў лаканічны прастакутны выгляд, па рагах будынка дадавалі вежы або альтанкі. Альтанка XVII стагоддзя на нашай тэрыторыі — гэта квадратная або прастакутная прыбудова, што выступае за вось сценаў, з уласным дахам і рознай колькасцю ўзроўняў. Цяпер прыкладна такую ж канструкцыю называюць эркерам.

## Падклецце

Наймацнейшай зброяй сарматкага двара была гасціннасць. У сядзібе запасіліся бочкі з віном, півам, медавухай, мёдам, мукой ды крупамі, сыры — усё, чым належала дасыта карміць і паіць дарагога госця, не забываючы на слаўную шляхецкую традыцыю прымусу.

Менавіта з гэтай прычыны дом на цагляным або каменным падмурку звычайна меў вялікае падклецце (у сучаснай мове гэта цокальны паверх). У XVII стагоддзі яно было нежылое, але мела ў рознай колькасці скляпы і пакоі для захоўвання прадуктаў і рэчаў. Тут жа захоўвалася і зброя, а таксама магла быць уладкаваная вязніца.

Падклецце звычайна было драўляным, у яго вялі асобныя ўваходы на некалькі прыступак ніжэй або вышэй за ўзровень двара. Вокны тут былі рознага памеру, часам у выглядзе вузкіх праёмаў з кратамі.




**План шляхецкага дома ў Польшчы.** XVII стагоддзе.

## Вокны і галерэі

Сам дом быў драўляны, адна-, двух- ці нават трохпавярховы. Калі памятаць пра падклецце, то выходзіць, што нашы продкі лічылі паверхі пачынаючы з другога.

Вокны ў асноўных памяшканнях дома мелі рэнесансны стыль: аднолькавыя па вышыні, з аднолькавым крокам і шырынёй. Рамы ў вокнах былі драўляныя і называліся «блонь». У рэдкіх выпадках у багатых дамах некаторыя рамы маглі быць з металу. Блонь складалася з прастакутнікаў у цотнай колькасці, у якія часцей за ўсё ўстаўлялася шкло.

Частка вокнаў зачынялася аканіцамі, часцей за ўсё размаляванымі нейкай адной фарбай. Але часам сустракаюцца згадкі і пра нанясенне на іх узораў. Такія вокны да гэтага часу можна ўбачыць у старых частках еўрапейскіх гарадоў.

На другім і трэцім паверхах па фасадзе, а часам і па ўсім перыметры размяшчаліся адкрытыя галерэі. Яны абавязкова былі з агароджай і зноў-такі з размаляванымі балясінамі. Уваход у некаторыя памяшканні быў магчымы толькі з галерэі, з сярэдзіны дома ў іх было не трапіць.

Між гэтых ніў калісьці, над руччом на ўзвышшы
ў бярозавым гаі, у дрэў густых зацішшы
Стаяў на падмуроўцы панскі дом драўляны:
Здалёк бялелі вокны, сцены і парканы,
Бо топалі, што двор ад ветру засланялі,
Іх бель на цёмным лісці рэзка адцянялі.

**Адам Міцкевіч. «Пан Тадэвуш»**
*(пераклад Пятра Бітэля)*




Эстэтыка шляхецкага дома ў сармацкім стылі была знакам патрыятызму да сярэдзіны XX стагоддзя. Адно толькі замест драўляных балясін сталі будаваць калоны. **На фота — кадр з фільма «Пан Тадэвуш» (1999) Анджэя Вайды.** На гэтым здымку класічная сядзіба канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў. На правым рагу дома відаць альтанка.

Захаваліся малюнкі аналагічных шляхецкіх дамоў у Польшчы, на якіх бачна, што галерэі абапіраліся на слупы. Але ёсць меркаванне, што на нашых землях яны маглі будавацца і як консольныя канструкцыі.

**У Цэнтральнай Еўропе часцей за ўсё былі флюгеры-пеўні, як сімвал апостала Пятра, а ў Скандынавіі — бусел. У нас флюгер-бусел стаяў на замку ў Геранёнах**

### Флюгер-певень і флюгер-бусел

Самым даступным і трывалым матэрыялам для пакрыцця дахаў была драўляная гонта, вядомая ў той час па ўсёй Еўропе. Але бедныя шляхцічы маглі крыць дамы, як і сяляне, саломай, а найбагацейшыя — дарагой дахоўкай. На вежах і альтанках дахі маглі быць купалападобнымі ці конусападобнымі.

На самую вышыню ставілі флюгер, які на нашых землях у той час зваўся ветранікам або ветраніцай. У Цэнтральнай Еўропе часцей за ўсё гэта быў флюгер-певень, як сімвал апостала Пятра, а ў Скандынавіі — бусел. У нас больш распаўсюджанымі былі флюгеры з гербам уладальніка або ў выглядзе сцяга з датай. Флюгеры рабілі з медзі і бляхі, пакрывалі золатам і срэбрам.



**Геральдычная кафля** XVII стагоддзя з гербам «Ляліва».



Глазураваны зялёны, тэракотавы ці белы з каляровымі ўзорамі — тыповыя колеры кафлі з фаянсу. **На фота: кафля з Амсціслава, XVII стагоддзе.**




**Камін у Каралеўскім замку на Вавелі** ў Кракаве.



**Кафляная печ у вялікай зале замка Жавускіх** у Падгорцах на ўкраінскай Галіччыне.

На палацах магнатаў і цэрквах флюгераў магло быць некалькі, і ўсе розныя.

### Вялікія сені

Першы жылы паверх дома пачынаўся з вялікіх сеняў — прасторнага вестыбюля. Тут маглі быць печ або адкрыты ачаг з камінам, лаўкі і некалькі куфраў. Печ у «гасцявых» памяшканнях заўсёды была абліцаваная кафляй.

У канцы XVI стагоддзя кафля магла быць глазураванай зялёнай, тэракотавай ці белай фаянсавай з каляровымі ўзорамі. На кафлі маляваліся партрэты, гербы, раслінны арнамент, геаметрычныя ўзоры, матывы кованага металу і жанравыя сцэны.

З сеняў у галоўныя памяшканні дома вялі двое дзвярэй. Багата аздобленыя ▸



**Стол паўночнаітальянскага вырабу**, 2-я палова XVI стагоддзя. З калекцыі Каралеўскага замка ў Кракаве на Вавелі.

разьбой і маляванымі ўзорамі або дэталямі з каванага жалеза, дзверы гэтыя мелі завалы* або заслоны з навяснымі замкамі — з боку сеняў. Каб госці не збеглі ад гасціннасці?

## Сталовая і вялікая (белая) залы

Дзверы з вялікіх сеняў вялі ў дзве самыя вялікія залы, размешчаныя адна насупраць адной. Адна з гэтых залаў звалася сталовай, а другая — вялікай, ці белай. У вялікай зале была печ з самай дарагой кафляй, а таксама камін.

Сцены маглі быць «атынкаваныя», гэта значыць пакрытыя тынкоўкай з роспісам або, у рэдкіх выпадках, аздобленыя ляпнымі картушамі. Маглі яны быць і абабітыя шпалерамі — каляровай тканінай, аднатоннай або з усходнімі ўзорамі.

У залах вешалі партрэты продкаў і габелены еўрапейскай работы: іх сталі актыўна прывозіць прыкладна з сярэдзіны XVI стагоддзя. А галоўнае, на сценах заўсёды віселі зброя і паляўнічыя трафеі.

Бэлькі на столі пацешылі б густ сённяшніх аматараў экастылю. Яны былі паўсюдна як частка сістэмы шматузроўневага перакрыцця.

## Раскоша для гасцей

Па мэблі ў залах можна адчуць, наколькі важнай персонай быў госць і які рэсурс быў кінуты на яго абыманне гасціннасцю. Тут былі некалькі сталоў рознага памеру, часам нават з мармуровымі стальніцамі, буфеты-крэдэнсы, пастаўцы (невысокія шафкі для посуду) і разнастайна аздобленыя скрыні розных памераў.

На сталы нярэдка засцілалі шаўковыя ўсходнія дываны — на ўзор таго, як мы засцілаем абрус.

У сталовай і белай залах стаялі крэслы на разных ножках з высокай спінкай. Сядзенне і спінка крэслаў заўсёды былі абцягнутыя дарагой тканінай або скурай. Чырвонай тканінай былі абцягнутыя лавы пры сценах. Ужо ў першай палове XVII стагоддзя сустракаюцца згадкі пра зялёную тканіну, што вісела над вокнамі на металічных прутах — праваобраз сучасных парцьераў.

## Алькеж для гаспадара

Калі дом быў аднапавярховы, то пакоі гаспадара размяшчаліся побач з вялікай залай, а калі паверхаў было два і больш — то на другім паверсе. Паверхі

* **Завала** — брус або жалезная палка для замыкання дзвярэй.



**Буфет-крэдэнс** XVI стагоддзя італьянскай вытворчасці.




**Скуранoe крэсла** італьянскай вытворчасці. XVII стагоддзя.



FONDECO.RU



PINTEREST.RU

**Англійскія ложкі з «шатамі»** канца XVI – пачатку XVII стагоддзяў.

звязвала не толькі парадная лесвіца, якая вяла з вялікіх сеняў, але і вітыя лесвіцы з розных памяшканняў.

Памяшканні гаспадара складаліся з двух і больш пакояў, адзін з якіх быў спальняй. У ёй абавязкова быў алькеж — меншая частка памяшкання без вокнаў, аддзеленая ад асноўнай плошчы драўлянымі перагародкамі. Там стаяў ложак з фіранкамі, якія зваліся «шатамі». Гэтыя шаты заўсёды ўваходзілі ў пасаг багатых шляхцянак.

На ложак клалі сяннік ды пярыны ў чахлах з дарагіх тканін. Абавязкова былі таксама зменныя навалачкі і прасціны, згадкі пра якія таксама сустракаюцца ў спісах пасагу. Даволі часта адзначаецца, што сам алькеж быў абцягнуты цёмным, часам нават чорным сукном.

## Для астатніх — лавы і зэдлікі

Інтэр'ер «чорных», гаспадарскіх, пакояў складалі скрыні, кабінеты, крэслы, зэдлікі і сталы. Тагачасны зэдлік — гэта цалкам драўлянае крэсла з разьбянай спінкай, не абцягнутае ні тканінай, ні скурай.

Ва ўнутраных пакоях таксама віселі партрэты продкаў, маглі быць карты і габелены. Для дамоў XVII стагоддзя ўжо ёсць згадкі пра асобнае памяшканне для бібліятэкі і работы з паперамі. Менавіта тады многія шляхецкія роды пачалі закладаць асновы багатых кнігазбораў.



**«Зэдлікі»** канца XVI стагоддзя італьянскай вытворчасці.

Бяднейшыя шляхцічы маглі не мець усёй гэтай раскошы, аднак кожную такую рэч цанілі і імкнуліся здабыць. Але адзінай нязводнай «аздобай» сядзіб і багатых, і бяднейшых шляхцічаў былі ўсіх відаў лавы, якія ставілі ўздоўж сталоў і сцен. Усе «нашчадкі сарматаў», апроч гаспадара і яго жонкі, спалі ці на шырокіх драўляных лавах, ці на падлозе на сенніках. ◆



Пераймание стылістыкі шляхецкіх дамоў можна ўбачыць і ў канструкцыі сучасных аграсядзіб. **На фота — наш пастаянны аўтар Алесь Белы на ганку сядзібы «Марцінова Гусь»** (падрабязней пра яе гл. у № 7/2021 «Нашай гісторыі»). Але агульная стылістыка гэтай сядзібы характэрная для больш позняга перыяду — XIX стагоддзя.




**Артур Гротгер.**
Аўтапартрэт.

# Перамагчы, прайграўшы

## Артур Гротгер і яго паўстанцкія творы

**Жыццё мастака ўпісалася ў кароткі перыяд паміж рэхамі двух паўстанняў. Рэха першага жывіла яго творчасць, для рэха другога ён сам стаў жывіцелем. Піша Святлана Воцінава.**

На пакаленне народжаных у 1830-я гады немінуча павінен быў выпасці новы мяцеж. Малеча 1830-х сядзела вечарамі кружком пры бацьках і дзядах ды слухала, шырока расплюшчыўшы вочы, пра змаганне і кошт свабоды, пра колішнюю незалежнасць, растаптаную, але не зняважаную.

Паспрабуй растлумачыць малому дзіцяці XIX стагоддзя тое, што цяпер, у XXI стагоддзі, не кожны дарослы зразумее. А ім — тлумачылі. І тая малеча не проста слухала, яна задавала пытанні: за што тыя пакуты, бабця?..

### Далікатныя карані

Калі задацца пытаннем, адкуль у сучасніках Кастуся Каліноўскага, гэтых рашучых і адважных мужчынах, столькі пяшчотнай тугі і ўзнёслых памкненняў, то адказу не будзе іншага, як толькі адтуль, з вечароў, праведзеных пры

## Эстэтычнае сілкаванне

Маці Артура Гротгера была жанчынай неверагоднага харства. Калі дасканалае аблічча схіляецца над калыскай нованароджанага хлапчаняці, генетычна абумоўлены талент мусіць шматкроць узмацніцца. А гэтага хлопчыка атачала прыгажосць і пяшчота не толькі маці, але і чатырох цётачак-квактушак: Юльці, Анэльці, Польці і Клемянціны. Як тут не развіцца пачуццю прыгожага?

бацьках і дзядах, у патрыятычных расповедах бабак і нянек. Дадаць яшчэ атмасферу старой сядзібы: ціхі дом у акружэнні духмяных ліпаў, ружовую імглу над сажалкай, луг у расяных кроплях, на аддаленні — сіняга колеру лес... Гукі клавікорда ў «шэрую гадзіну», самотны месяц у цёмным акне... Усё, што адгукаецца шчымленнем у сэрцы, — шкрабе душу так, што ў ёй утвараюцца яміны, якія трэба нечым запоўніць.

Так было і ў сям'і Гротгераў: маленькі Артур з яшчэ меншымі братамі Юрасём і Олесем насычаліся перажываннямі, слухаючы бацьку — чалавека тонкага і вельмі зычлівага. Цяпер ён кіраваў маёнткам, быў апантаным паляўнічым, аматарам коней, а ў мінулым вучыўся на мастака і браў удзел у паўстанні 1830-га. Ян Юзаф Гротгер, не маючы магчымасці як след забяспечыць сына матэрыяльна, даў яму іншую спадчыну: талент і любоў да Радзімы. А яшчэ сантымент да коней: колькі іх намалюе сын, спачатку няўмела (ды прытым белых, упарта іх ставячы ў сярэдзіну кампазіцыі, «навідавок»), а потым — сівых, гнядых і, нарэшце, чорных. ▶

Зброя паўстанцаў — насаджаныя вертыкальна косы. На іншым сваім кардоне Гротгер намаляваў, як іх кавáлі, — і цяпер штогод у пачатку лютага кавалі на былых землях паўстання куюць косы і згадваюць мастака.




**«Бой», 1866 год.** З цыкла «Літва».
«...Лютая барацьба, крывавы бой, хачу як мага запозніць гэтую бітву. Так і ёсць! — Разбітыя калоны і праламаныя шэрагі цэлага атрада ўжо ўладкаваных думак саступаюць перад навалай новапаўсталых. "Наша ўзяла", – крычаць захопнікі, і ўжо апошнія адціснутыя зусім. І я станаўлюся на бок пераможцаў, і ў гэтым духу распачынаю сённяшнюю працу», — апісваў Артур Гротгер у лісце да сваёй каханай Ванды Манэ акалічнасці стварэння аркуша. Намаляваны адзін з баёў на нашых землях, якіх за час паўстання 1863–1864 гадоў адбылося дзве з паловаю тысячы.

На заднім плане злева мастак выявіў самога сябе ў шапцы з пяром і бела-чырвоным бантам. Насамрэч, у паўстанні ён удзелу не браў, але душою быў з паўстанцамі, а яго зброяй быў аловак.

▸ Гэтыя ўжо дасканалыя: глядзіш — і, здаецца, бачыш хвалістыя скарачэнні моцных прыгожых мускулаў...

### ... і моцныя парасткі

Такім чынам, гэта было пакаленне, у якое ўсяліўся дух самаахвярнасці і геройства.

Артур Гротгер нарадзіўся ў канцы 1837-га на гістарычным Падоллі, у Атыневічах (цяпер гэта Жыдачыўскі раён Львоўскай вобласці Украіны). Першыя ўрокі малявання даваў бацька, а пасля Гротгеры адправілі старэйшага сына вучыцца ў Львоў, у майстэрню класічнага пейзажыста і майстра побытавых сцэн Яна Машкоўскага. Тут Гротгер пазнаёміўся з будучым знакамітым баталістам Юліушам Косакам.

Але справядліва будзе сказаць, што найперш Гротгер вучыўся сам у сябе. Аўтар працы «Гротгер» (1907) Антоній Патоцкі згадвае, што бачыў у мастаку «выразней, можа, чым у кім іншым, цудоўную з'яву ўзрастання з сябе — феномен, уся чысціня якоганазіраецца толькі ў геніяльных душах».

Ужо першую выстаўленую на продаж акварэль таленавітага хлопчыка (сцэна пагоні шляхты за татарамі) купіў баварскі граф Аляксандр Папенгайм — і на ўсё жыццё стаў мецэнатам і сябрам Артура Гротгера. У хуткім часе ўвагу на 14-гадовага мастака звярнуў і сам аўстрыйскі імператар Франц Іосіф I (Львоў тады ўваходзіў у склад Аўстрыйскай імперыі). Таленавіты падлетак намаляваў візіт манаршай асобы ў Львоў, карціну ўручылі Францу Іосіфу ў якасці падарунка — і той з уласных грошай прызначыў мастаку стыпендыю і загадаў вучыцца далей. Так Гротгер трапіў у Кракаўскую школу мастацтваў.

Дзіўная рэч: Кракаў з яго старымі мурамі для Гротгера стаў не горадам-музеем, а горадам-штурхальнікам. Вучні ў Кракаўскай школе малявалі з натуры ненавісныя ім збаны, бітыя яйкі, драпіроўкі на манекенах і незлічоныя гіпсавыя фігуры. А яшчэ, як і ва ўсе часы, бясконца капіравалі, пераважна казакоў з чаркесамі з палотнаў расійскага баталіста польскага паходжання Аляксандра Арлоўскага.




**Імператар Аўстрыі Франц Іосіф I** (1830–1916)

Дзякуючы яго стыпендыі Артур Гротгер атрымаў выдатную мастацкую адукацыю ў Кракаве і Вене. А ў 1867 годзе імператар купіў 11 кардонаў апошняга цыкла мастака «Вайна» за 8000 франкаў. Артур Гротгер быў вельмі засмучаны з гэтай нагоды: яго ахвярную працу ацанілі не суайчыннікі, а замежнік, і творы будуць захоўвацца не на радзіме. Але цяпер работы цыкла выкупленыя палякамі і зберагаюцца ў Нацыянальным музеі ва Уроцлаве.

### «Усё тужыў па краі...»

У «Пане Тадэвушу» Адам Міцкевіч згадвае Арлоўскага такімі словамі:

*Арлоўскі, што жыццё правёў*
*у Пецярбургу*
*(Яго эцюдаў некалькі я маю*
*ў бюрку),*
*Жыў ля цара ў двары, ну проста,*
*нібы ў раі,*
*А не паверыш, Граф, усё тужыў*
*па краі.*
*Любіў расказваць нам з дзяцінства*
*успаміны*
*І ў Польшчы ўсё хваліў: лес, неба*
*і даліны...*

(Пераклад Пятра Бітэля)

Але ў Арлоўскага спрэс коні, і вучань Гротгер давёў сваё майстэрства малявання іх да дасканаласці. Ён быў парасткам з такім «пунктам росту», што сапраўды кшталтаваў сябе сам, даваў сабе ведаў мо больш, чым давалі настаўнікі. Не лішне тут будзе сказаць, што любая школа (і ў любыя часы, і не толькі мастацкая) абавязкова нейкую колькасць давераных ёй юных талентаў ператварае ў пасрэднасці. А юны Гротгер з ранняга ранку да васьмай гадзіны вечара вучыўся: акрамя розных мастацкіх тэхнік, штудыяваў французскую мову, гісторыю мастацтва, эстэтыку.

### Рамантычна-патэтычны гратгерызм

Працягваць навучанне ў той час мастакі ехалі ў Венскую акадэмію мастацтваў. Калі Кракаў быў горадам, поўным слядоў велічнага мінулага, дык Вена была тэатрам: узнёслым,

вытанчаным, карцінным. Тут Гротгер выспеліў свой сімвалізм і патэтыку.

Крытык і публіцыст Часлаў Янкоўскі, пішучы, праўда, зусім не пра Гротгера, а толькі параўноўваючы ўражанні ад яго паўстанцкіх цыклаў з эфектам, які выклікаюць навелы Элізы Ажэшкі з цыкла *«Gloria victis»*, ужыў выраз «рамантычна-патэтычны гратгерызм». Калі б ён мог стаць тэрмінам мастацтвазнаўства або эстэтыкі, у адпаведным слоўніку насупраць яго павінны былі б знайсціся радкі пра «нечуваную мастацкасць», якую мае «гротгераўская лінія болю і скаргі, што б'е ў нябёсы».

Найперш Янкоўскі меў на ўвазе прыкмечаную не ім адным незвычайную асаблівасць прац Гротгера, прысвечаных падзеям 1863 года: яны нібы спісаныя з мадэляў, нібы копіі таго, што ўжо сышло на дастатковую адлегласць, «зацвярдзела ў памяці людской» і «ажыло


HASBURGER.NET

ў песні». «Хочацца ўскрыкнуць: так нядаўна — а здаецца, быццам ужо даўно!» — піша Янкоўскі. Такі дзіўны эфект — «нібы не з гэтага свету» — дае «бездакорнае, узнёслае, незямное хараство» гэтых прац.

Ці не з той прычыны гэта здарылася, што Гротгер, знаходзячыся падчас паўстання


WIKIMEDIA COMMONS

**«Малітва барскіх канфедэратаў».** 1863 год.
Гротгер як жывапісец агульнанароднага ўзрушэння пачынаецца менавіта ад гэтай працы, якую назвалі шэдэўрам кампазіцыі. Усё тут гаворыць, усяму дадзена слова, нават лесу на заднім плане. У кожным твары прачытваюцца нязломнасць і адначасова ахвярнасць.

## Гротгерава Вена

20 снежня 1857 года імператар Франц Іосіф загадаў знесці гарадскія сцены Вены і пабудаваць Рынгштрасэ — раскошны бульвар вакол цэнтра, які стаў сімвалам позняй манархіі, пад'ёму сярэдняга класа і росквіту мастацкага і культурнага свету.

У такой Вене Гротгер пражыве 11 гадоў — большую частку свайго творчага жыцця. Ён вучыцца, стварае ілюстрацыі для часопісаў і газет, падарожнічае па Еўропе. Яго салон становіцца модным, мастак мае шмат замоў на партрэты. З часам яго жыццё наладзілася настолькі, што ён забірае ў Вену маці і сястру.

Але Гротгер застаецца палякам: у 1859 годзе ён пачынае супрацоўнічаць з польскім перыёдыкам *«Postęp»* («Прагрэс»), у 1863-м становіцца яго галоўным рэдактарам, а калі стваральніка часопіса Юзафа Асецкага выракаюць на 6 месяцаў турмы, бярэ на сябе фінансаванне выдання.

А імперыі застаюцца імперыямі. Калі аўстрыйцы даведаліся, што Гротгер дапамагае паўстанцам (у яго доме арыштавалі паляка), яго пазбавілі стыпендыі — і мастак быў вымушаны пакінуць Вену.

ў Вене, на свае вочы яго бачыць не мог, але назіраў за падзеямі ўнутраным зрокам, асабліва ўласцівым гэтаму творцу? Ён спісваў сцэны паўстання з той самай натуры, якая была (каламбур непазбежны) натурай яго душы.

## «Польшча», «Літва» і «Вайна»

Вяршыняй творчасці Артура Гротгера лічыцца серыя патрыятычных малюнкаў у пяці цыклах: «Варшава I» (1861) і «Варшава II» (1862), а таксама

паўстанцкія «Польшча» (1863), «Літва» (1864–1866) і «Вайна» (1866–1867). Але Антоній Патоцкі не называе першыя два папярэднімі ў дачыненні да астатніх, ён надае ім вагу кульмінацыі. Абедзве «Варшавы» ён параўноўвае з Вялікім тыднем, што папярэднічае Уваскрэсенню.

### Толькі трыумф

Кожнай працай Гротгер выразна дэманструе канкрэтныя моманты, што суправаджаюць або канстатуюць нараджэнне ў людзях новай свядомасці, унутраную саспеласць. Самая гаваркая выява — «Першая ахвяра»: юнак у апошнім імгненні перад падзеннем ад смяротнай кулі моцна-моцна напружанай рукой трымаецца за касцельны мур. Побач ляжыць, карэньчыкам уверх (Божа мой, як яна тут кранае, гэтая кніжная «поза»!), выпушчаны з рукі малітоўнік.




**«Хадзем са мной праз даліну слёз».** 1866 год. З цыкла «Вайна».

У паглядзе юнака няма страху, толькі трыумф. А на вуснах — усмешка. Гэта не смерць, гэта самае што ні ёсць нараджэнне.

Мастак і Муза прысутнічаюць на выявах цыкла «Вайна» як маўклівыя сведкі падзей. У постаці мастака заўважныя рысы самога аўтара, натурай для музы паслужыла каханая мастака, юная Ванда Манэ. Калі ў лістападзе 1867-га Артур Гротгер памрэ ад сухотаў, дзяўчына зробіць усё, каб перавезці цела жаніха з Францыі ў Львоў і пахаваць на Лычакаўскіх могілках.

Так з'яўляецца новы герой, імя якому — Паўстанец.

Копіі гэтых прац імкнуліся мець у кожным доме. Так жывілася рэха паўстання, у якім перамаглі пераможаныя. На пахаванні мастака, які памёр ад сухотаў у снежні 1867-га ў французскіх Пірэнеях, публіцыст і драматург Карнэль Уейскі прамовіў да ксяндза: «Падчас самых бязлітасных пераследаванняў касцёла хто перамог — Нерон ці хрысціяне?» І ксёндз адказаў: «Хрысціяне!»

Значыць, не проста *Gloria victis*, але *Vae victoribus**, ці не так?

* «Слава пераможаным» і «Гора пераможцам».

### Паўстанцкія цыклы

Нягледзячы на кароткі век мастака, на сёння захавалася не менш за 500 ягоных творчых работ, у тым ліку вялікія акварэлі і жывапісныя палотны на гістарычную тэматыку. Аднак прарокам польскага нацыянальнага мастацтва яго зрабілі серыі чорна-белых малюнкаў, прысвечаных паўстанню 1863–1864 гадоў. «*Polonia*», «*Lituania*», «*Wojna*» («Польшча», «Літва», «Вайна») — назвы паўстанцкіх цыклаў Артура Гротгера. Не «*Polska*» і не «*Litwa*», а вось так — на ўніверсальнай лаціне. Гэта была спроба Гротгера звярнуць увагу цэлага свету на падзеі, што адбываліся на яго радзіме.

Цыкл работ «Вайна» Гротгер ствараў для Парыжскай сусветнай выставы 1867 года. Гэта было першае мерапрыемства такога маштабу, і Парыж пасля яго на некалькі дзесяцігоддзяў стаў найважнейшым цэнтрам мастацкіх выставаў.

Нягледзячы на тое, што цыкл быў задуманы як універсальны, кардоны Гротгера выпраменьвалі гранічны польскі патрыятызм, той, што вісеў у паветры, перахоўваўся ў кожным польскім доме.

Экзальтаванасць грамадства добра ілюструе такі прыклад. Калі стала вядома, што на знакамітую выставу прыехаў расійскі імператар Аляксандр ІІ, шляхціч-эмігрант з Валыні Антон Беразоўскі купіў за 5 франкаў двухствольны пісталет і паспрабаваў забіць цара: «Я гадаваў гэтую думку з тых часоў, як пачаў сябе ўсведамляць, і меў на мэце вызваленне радзімы».




**Усе працы цыклаў «Польшча» (1863), «Літва» (1864–1866) і «Вайна» (1866–1867) можна ўбачыць тут.**



Мастак планаваў стварыць яшчэ цыкл «Раксалана» пра падзеі паўстання на ўкраінскай зямлі, але не паспеў.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY PHOTOKA

# Млын паваліўся, а гаспадар вярнуўся

**Пра свайго прадзеда-млынара, які аказаўся мацнейшым за савецкую ўладу, піша кандыдат гістарычных навук Павел Булаты.**

У таварных вагонах прывезлі ссыльных беларусаў з-пад Ляхавіч у Казахстан, у пустыню Кызылкум, далі юрту. Што ўрэзалася ў памяць — кавуны. Мясцовыя казахі шкадавалі ссыльных, далі кавун. Нашы такога дзіва ніколі раней не бачылі. І ў першы раз выкінулі ўсю чырвоную сярэдзіну, а грызлі зялёную кажурыну, нібы беларускі гарбуз. Казахі рагаталі.

Было жахліва: найлепшых гаспадароў вывезлі на голы пясок. Але заходнім беларусам яшчэ пашчасціла. «Калектывізаваныя» ва Усходняй Беларусі або пагінулі ў высылцы, або рассыпаліся па Сібіры. Заходнікаў вывозілі перад самай смерцю Сталіна. Таму яны здолелі вярнуцца.

## Звалі яго Ясь

На першую палову XX стагоддзя прыпала безліч эпахальных падзей. Руйнаваліся імперыі, на іх абломках паўставалі новыя дзяржавы, войны ішлі адна за адной. На адно чалавечае жыццё прыпадала выпрабаванняў звыш меры, як звыш меры было і сітуацый, калі чалавек рабіў маральны выбар: прыстасоўвацца ці гнуць сваю лінію.

Перад такім выбарам у свой час стаў і заможны гаспадар з Заходняй Беларусі — Іван Рыгоравіч Булаты. Родныя і суседзі звалі яго Ясь, а сям’ю ▸

▶ называлі Якубчыкамі — ад імя іх далёкага продка Якуба Булатага, які першым пасяліўся ў мясцовасці.

## Засцянковец

Ясь Булаты нарадзіўся яшчэ ў XIX стагоддзі, у 1899 годзе, у вялікай сям'і заможных хутаран са Сноўскай воласці Наваградскага павета. Інвентары і кнігі Наваградскага павятовага земскага суда кажуць, што сям'я паходзіць з дробнай служылай шляхты Вялікага Княства Літоўскага, якая здаўна жыла ў ваколіцах мястэчка Сваятычы (цяперашні Ляхавіцкі раён) ва ўласным засценку. Землі там надзвычай урадлівыя.

З дзяцінства Ясь быў здатны: вучыўся ў прыходскай школе, а пасля ў настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы. Менавіта яе, дарэчы, на які дзясятак гадоў раней скончыў сын лесніка з-пад Стоўбцаў Канстанцін Міцкевіч, вядомы як паэт Якуб Колас.

Хто ведае, як бы жыццёвы шлях павёў адукаванага маладзёна далей, але вялікая вайна крута павярнула ягонае жыццё. Спачатку лінія германскага фронту прайшла непадалёк ад роднага засценка. А потым была вайна адроджанай Польшчы з бальшавікамі і Рыжскі мір, які,



WIKIMEDIA COMMONS

**Настаўніцкая семінарыя ў Нясвіжы.** У 1898–1902 гадах тут вучыўся Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас), а праз дзесяць гадоў — прадзед аўтара гэтага артыкула.

не пытаючы людзей, вызначыў новую краіну іхняга жыхарства.

## Дабрабыт сваім мазалём

1920-я і 1930-я сталі гадамі, калі дзед Ясь сфарміраваўся як асоба, а таксама цяжкай працай здабыў сямейны дабрабыт.

Дзед адслужыў у войску ў Кракаве, а пасля ўзяў шлюб і ўладкаваўся рахункаводам да графа Плятэра-Зыберка ў маёнтак Сваятычы.

Недзе ў 1930-я бацька, Рыгор Булаты, падзяліў сваю зямлю паміж двума сынамі — Ясем і Рыгорам, бо ўжо не мог апрацоўваць яе сам: яму ішоў сёмы дзясятак. Сам бацька застаўся жыць на хутары ў малодшага сына Рыгора. А ў Яся пачалася праца на сябе, на сваёй зямлі.

Ён не спыніўся на долі простага хлебароба: хацелася большага. Сабраў сродкі, каб узяць у арэнду млын. Нават хату прадаў, каб у першыя гады ўтрымліваць вятрак. Па першым часе сям'я нават і жыла ў тым халодным млыне, а на той момант у ёй ужо было шасцёра дзяцей... Але праца давала плён — і перад самым пачаткам вайны дзед Ясь стаў адным з самых заможных гаспадароў у акрузе, паставіў на хутары вялікі драўляны дом на моцным каменным падмурку.

Савецкая прапаганда падобных да дзеда Яся заможных гаспадароў кляйміла: кулакі, цягнуць жылы з простага селяніна. Але людзі ставіліся іначай: заможны гаспадар быў паважаным чалавекам. У сярэдзіне 1930-х сяляне на тры гады абралі Яся Булатага солтысам, г. зн. старастам.

## Млын карміў і ў вайну

У 1939 годзе прыйшлі першыя саветы, млын адразу



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЎТАРА

**Булаты Іван Рыгоравіч** (1899–1992). На здымку яму 70 гадоў.

нацыяналізавалі. Дзед Ясь стаў ужо пры дзяржаўным млыне даглядчыкам і працаўнікам. Па ўсёй Заходняй Беларусі набірала абароты рэпрэсіўная машына, пачаліся дэпартацыі. І калі прыйдзе чарга заможнага ў мінулым млынара — было толькі пытаннем часу.

Але грымнула вайна. Змена ўлады амаль ніяк не адбілася на жыцці і працы сялян вакол Снова: партызанаў тут не было (край не лясны), а мука патрэбная заўсёды.

У сям'і млынара было ўжо 9 дзяцей. У 1944 годзе, калі вярнуліся саветы, дзеда Яся ў войска не забралі, ён ужо быў застары, але прызвалі разам з уласным канём і возам у «абоз» — перавозіць грузы для Чырвонай арміі, што наступала далей на захад.

## Калгас — не для яго

Пасля вайны калектывізацыю ў Заходняй Беларусі, як і ў краінах Балтыі і Заходняй Украіне, пачалі не адразу. Тут пачалося моцнае антысавецкае супраціўленне, дзейнічала антыкамуністычнае падполле,

і ўлады баяліся, што калектывізацыя прывядзе да масавага сыходу людзей у лясы да партызан. Рашэнне аб татальнай калектывізацыі рэспублікі было прынятае толькі ў лютым 1949 года на XIX з’ездзе КП(б)Б.

Дзед Ясь, нягледзячы на моцную агітацыю і прымус, у мясцовы калгас імя Карла Маркса не пайшоў, заставаўся аднаасобнікам: працаваў на былым сваім, а цяпер дзяржаўным млыне, вёў гаспадарку на сваёй зямлі. Улады не раз настойліва прапаноўвалі ўсё, што ёсць — зямлю, коней, сад, інвентар, — добраахвотна аддаць у калектыў. Але дзед Ясь гэтак жа настойліва адмаўляўся.

Што кіравала такімі, як ён? Інстынкт гаспадара, нявер’е ў толк ад «калектыўнай гаспадаркі»?

### Законы беззаконня

Такіх, як Ясь, былі тысячы — якія ўпарта трымаліся сваёй зямлі і ў калгас не ішлі.

Тады 18 верасня 1951 года пастановай Савета Міністраў СССР была распачатая кампанія высялення ў аддаленыя раёны Саюза гэтак званых «кулацкіх элементаў». Адпаведную пастанову прыняў і Савет




Міністраў БССР 7 красавіка 1952 года. Тады ж былі зацверджаныя і спісы: усяго з Заходняй Беларусі, па падліках даследчыцы Ірыны Кашталян, толькі па гэтай пастанове высяленню падлягала 4431 сям’я. Сярод іх была і сям’я Булатых.




ONEBID.PT

**Такі нагрудны знак насіў солтыс** у міжваенная Польшчы.

**Таталітарная рэпрэсіўная машына метадычна абгрунтоўвала беззаконне «законамі»**

Савецкая рэпрэсіўная машына метадычна абгрунтоўвала беззаконне «законамі». Фармальна сям’я Булатых была выслана не проста так, а за нявыплату падаткаў. Гэта вынікае з крымінальнай справы, якая захоўваецца ў архіве КДБ.

Яшчэ ў 1947 годзе савецкая ўлада прыняла пастанову аб сельскагаспадарчым падатку. Ім абкладалася ўсё: выпасы, сенакос, сады, уся хатняя жывёла, борці, рамяство. Сумы для аднаасобнікаў набягалі проста касмічныя, і яны пастаянна ўзрасталі. Напрыклад, у 1948 годзе падатак для аднаасобніка складаў 11 449 рублёў, а ў 1949 годзе — ужо 17 855. І гэта пры тым, што прыбытак буйнога калгаса ў той жа год складаў 27 860 рублёў.

Свабодны гандаль быў абмежаваны, недзе зарабіць такую суму аднаасобнік не мог.

Фармальна чалавек мог заставацца аднаасобнікам, але ў рэальнасці гэта азначала непазбежнасць крымінальнай справы.

Людзі трымаліся, некаторыя спадзяваліся, што пачнецца новая вайна, «прыйдзе Амерыка», у выніку якой савецкі рэжым падзе. Але гэтага не здарылася.

Пастанова аб высяленні была прынята 7 красавіка, ▸

**Ветракі** да другой паловы XX стагоддзя былі неад'емнай часткай ландшафту.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY BRYNDIN

а 17 красавіка, на золку ў Чысты чацвер (дзень на Вялікім тыдні перад Вялікаднем), у хату дзеда Яся прыйшлі чэкісты. Закінулі ўсіх у «палутарку» і вывезлі на станцыю Гарадзея. А там — у вагоне для скаціны, праз Маскву — у пустыню Кызылкум. Казахская ССР, Паўднёва-Казахстанская вобласць, Пахта-Аральскі (сучасны Мактааральскі) раён, пасёлак Леніна. За 4 тысячы кіламетраў ад роднага хутара!

## У казахстанскай пустыні

У Казахстане сям'і далі юрту.

У пасёлку жылі ў асноўным казахі, але былі і такія ж гаротныя ссыльныя. Мясцовыя асаблівай любові да высяленцаў не праяўлялі, але і вострай варожасці не было: чым маглі, дапамагалі беларусам, кармілі дзяцей. Частавалі кавунамі. Нашы ссыльныя ніколі раней бахчавых не бачылі — і ў першы раз выразалі ўсю чырвоную сярэдзіну і грызлі зялёную скурку, нібы гарбуз з родных палеткаў. Казахі рагаталі.

Дзед Ясь пайшоў працаваць. Ратавалі і пасылкі з Беларусі ад старэйшых дачок, што яшчэ да раскулачвання выйшлі замуж, а таму не падпалі пад дэпартацыю. Асабліва сала. Дзеці хадзілі ў школу, але навучанне на казахскай мове ім давалася цяжка.




**Мактааральскі раён** цяпер уваходзіць у склад Туркестанскай вобласці Казахстана. Гэта самы паўднёвы раён Казахстана, а пасёлак Леніна (ён і дагэтуль так называецца, і ў ім жыве каля 1 500 чалавек) знаходзіцца прыблізна ў цэнтры, далёка ад асноўных дарог. На поўначы раён прымыкае да вялікага Шардарынскага вадасховішча (пабудаванае ў 1966 годзе), з трох бакоў мяжуе з Узбекістанам, спалучэнне з асноўнай тэрыторыяй Казахстана адбываецца па адзінай трасе A15. У 1963–1971 гадах гэты раён нават часова быў перададзены ў склад Узбекскай ССР.

Разам з сям'ёй Булатых у казахскай пустыні апынуўся малады журналіст з Баранавіч. Ён шчыра верыў, што яго выслалі памылкова, што мудры Сталін, калі яму напісаць і растлумачыць усё, абавязкова памілуе. Маладзён угаворваў і дзеда Яся, каб ён абавязкова напісаў Сталіну, папрасіў прабачэння, згадаў пра вялікую сям'ю. Але дзед Ясь пісаць не стаў. Ні голад, ні жыццё ў юрце не прымусілі прасіць літасці ў тырана. Ён не скарыўся і ў высылцы.


З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АЎТАРА

**Сыны Яся Булатага на месцы хутара і млына.** Калі забралі дом і разваліўся млын, засталіся бярозы. Сям'я часта збіралася на родным котлішчы.

## Ні голад, ні жыццё ў юрце не прымусілі прасіць літасці ў тырана

### Застаўся пераможцам

Менш за год правялі Булатыя ў Кызылкуме — і тут памірае Сталін. Для ссыльных гэта была радасць, а казахі плакалі, шкадавалі.

І адразу ж — амністыя, пад яе падпадалі і ссыльныя. Але, хоць і амністыя, вызваленне і вяртанне дамоў зацягнулася на тры гады. Спачатку ўдалося адправіць дзяцей, іх пад сваю апеку бралі старэйшыя дочкі, якія жылі ў Беларусі. А ў 1956 годзе вярнуліся ўжо ўсе, сям'я злучылася.

Але вярнуліся ў нікуды. Вялікі дом дзяржава адабрала, перавезла з хутара і зрабіла ў ім сельсавет. На млыне не было каму працаваць, ён стаяў без дагляду і аднойчы, падчас моцнай буры, паваліўся.

Але і пасля вяртання з ссылкі дзед Ясь не ўступіў у калгас. На той момант хутары ўжо звезлі ў адну вёску (такое адбывалася па ўсёй Заходняй Беларусі), сельсавет «былому ворагу» выдзеліў участак пад хату на ўскрайку. На ім з былога хлява пабудавалі невялікую хаціну, дзе і жыў дзед Ясь. Дзеці пайшлі ў школу, давучыліся, пачалі працаваць. Хоць і была амністыя, але рэабілітацыя сям'і адбылася толькі ў 1992 годзе. Так і жылі, пазначаючы ў анкетах сваю судзімасць, пакуль існаваў СССР.

Дзед Ясь пражыў доўгае жыццё і хоць не нашмат, але перажыў-такі дзяржаву, якая ў яго ўсё адабрала. Усё, акрамя годнасці. Прайшоўшы такі рабунак яго самога, жонкі і шматлікіх дзяцей, дзед Ясь атрымаў маральную перамогу: не пайшоў на ўгоду з уладай і застаўся паважаным чалавекам. Для ўсіх: і для аднавяскоўцаў, і для больш чым сотні нашчадкаў. ◆


DEPOSITPHOTOS.COM, BY LIGORA


ФОТА ПАУЛА БУЛАТАГА

**Перабудавалі з хлява.** Хата Яся Булатага, у якой сям'я жыла па вяртанні з Казахстана.

## 30 гадоў незалежнасці

25 жніўня споўнілася 30 гадоў з дня прыняцця Вярхоўным Саветам БССР у 1991 годзе, праз некалькі дзён пасля правалу путчу ГКЧП, рашэння аб наданні Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, прынятай яшчэ 27 ліпеня 1990 года, статусу канстытуцыйнага закона. Для прыняцця рашэння было неабходна набраць 232 галасы, «за» выказаліся 253. Фактычна гэтае галасаванне было актам абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці Беларусі.

Гэты акт не быў стыхійным, дэпутаты-незалежнікі вялі да яго напружаную падрыхтоўку. Адзін з тагачасных дэпутатаў, **Сяргей Навумчык**, напярэдадні юбілею адзначыў у сябе ў Фэйсбуку:

«За двое сутак у 363 пакоі Дома ўрада мы падрыхтавалі больш як 20 заканадаўчых праектаў і выпрацавалі план дзеянняў на сесіі. Які, як гэта заўсёды бывае, потым карэктавалі па ходзе падзеяў. Але план быў, і нават у варыянтах».

Вось парламенцкі дакумент ад 23 жніўня 1991 года, у якім 21 дэпутат просіць «размножыць і распаўсюдзіць перад пачаткам нечарговай пятай Сесіі Вярхоўнага Савета БССР дакументы, падрыхтаваныя Апазіцыяй Вярхоўнага Савета, на 22 аркушах».


ПЕРШЫ НАМЕСНІК
Старшыні Вярхоўнага Савета
Беларускай ССР

НАРОДНЫЙ ДЕПУТАТ
БЕЛОРУССКОЙ ССР

23. жніўня 1991 г.

У Сакратарыят Вярхоўнага Савета
Беларускай ССР

24.08.91

Просім размножыць і распаўсюдзіць перад пачаткам нечарговай пятай Сесіі Вярхоўнага Савета БССР дакументы, падрыхтаваныя Апазіцыяй Вярхоўнага Савета на 25 лістах.

Народныя дэпутаты Беларускай ССР:

## «Паэт, якія нараджаюцца раз у стагоддзе». Памяці Алеся Разанава



«Паэт, якія нараджаюцца раз у стагоддзе. Ён быў настаўнікам для цэлай плеяды маладых паэтаў. У 1985 годзе я, вярнуўшыся з войска, выпадкова набыў зборнік Алеся Разанава “Шлях-360”, — напісаў у Фэйсбуку **Юры Пацюпа**. — Ён мяне так уразіў, што я цэлае лета, дый пазней, яго чытаў і перачытваў, як кнігу таямніц. А ўвосень 1987 года праз сябра, які вучыўся ў Менску, атрымаў у даведцы адрас паэта і з трымценнем пайшоў у госці. Ішоў па вуліцы Веры Харужай, дзе паэт тады жыў, як ідуць да Бога. Само сабою, не папярэдзіўшы яго, проста заявіўся ў госці. Гаварылі мо з гадзіну, мо менш, але выйшаў я адтуль іншым, з перакананасцю, што так пісаць, як я пісаў, нельга. Хаця, здаецца, нічога асаблівага паэт і не гаварыў і тым больш не крытыкаваў. У галаву мне запалі словы пра шасцерню часу, якую чапляюць ці не чапляюць вершы. І гэта было зусім не тое, што разумелі ў савецкай эстэтыцы як “актуальнасць”. Гэта было не так пра час, як пра вечнасць».

## Савецкі Хлестакоў

Гістарычны тэлеграм-канал **«Крымінальная хроніка 1920-х»** падзяліўся захапляльнай рэальнай гісторыяй у стылі ільфа-пятроўскіх «12 крэслаў» і «Залатога цяляці». Праўда, адбылася яна яшчэ да з’яўлення гэтых культавых раманаў, у 1925 годзе, а таму яе герой у загалоўку параўноўваўся не з Астапам Бэндэрам, а з гогалеўскім Хлестаковым. Надрукавала гісторыю мінская газета «Звезда»:



«7-га жніўня ў Саўнаркам з’явіўся прыстойна апрануты малады чалавек і пажадаў бачыць намесніка старшыні. Яго накіравалі ў кабінет т. Карпа.

Малады чалавек працягнуў руку і прадставіўся: “Старшыня Саўнаркама Узбекістана Файзула Хаджаеў”. Як доказ прадставіў пасведчанне Крымскага Саўнаркама. Ён, ці бачыце, жанаты з мінчанкай і прыехаў адпачыць у гэтым гасцінным горадзе. Спыніўся, вядома, у “Еўропе”. Але вось бяда: таварыш выпадкова ўзяў ягоны партфель з грашыма і наш “старшыня” апынуўся ў кепскім становішчы. Ці не можа яму Саўнаркам выдаць 500 руб. з наступным вяртаннем? Тут жа напісаў заяву з гучным подпісам: *“Предсовнаркома Узбекистана и пред. ЦИКа СССР Ф. Ходжаев”*.

Тав. Карпу падаўся падазроным гэты малады чалавек, а таму ён папрасіў яго за грашыма прыйсці заўтра, а сам паведаміў пра гэты выпадак начальніку міліцыі Кролю.

Міліцыя стала сачыць за “Хаджаевым”.

Але апошні, не дачакаўшыся раніцы, выехаў вячэрнім цягніком у Харкаў. Начальніку станцыі ён, вядома, паведаміў сваё званне і заказаў спальнае месца ў мяккім купэ.

На станцыі Гомель “старшыня саўнаркама” спыніўся, здаў рэчы на захаванне і накіраваўся ў губвыканкам. Там яго прынялі як належыць. “Пазычылі” 60 руб., ласкава далі ў карыстанне каня

і аўтамабіль. Член выканкама палічыў сваім абавязкам пабываць у "Хаджаева" ў нумары гасцініцы. Адтуль яны пайшлі на пасяджэнне прэзідыума выканкама. Вечарам імяніты госць пабываў ва ўсіх тэатрах і кіно, паказваючы ўсюды пасведчанні для бясплатнага ўваходу. Усё як мае быць.

Але на гэтым прыгоды аферыста скончыліся. Яго затрымалі з усімі перасцярогамі і дапыталі. Высветлілася, што ўяўны старшыня саўнаркама — вядомы аферыст Хасанаў. Днямі ён будзе дастаўлены ў Мінск».

## Баян і гітара

Былая выкладчыца Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта **Вольга Кузьміч** на двухгадовую гадавіну са дня смерці пісьменніка Леаніда Дайнэкі, аўтара папулярных гістарычных раманаў «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака», «Жалезныя жалуды» і іншых, падзялілася ў Фэйсбуку шчымлівым успамінам пра колішняе сяброўства з ім падчас вучобы на філфаку БДУ ў 1960-я гады:

«У студэнцкую пару мы былі ледзь не галоўнымі артыстамі на



**Вольга Кузьміч (у дзявоцтве — Карабань)** на студэнцкай практыцы ў Мядзельскім раёне.

філфакаўскай сцэне. Музыканты без адзінай ноты ў галаве з запалам ладзілі канцэрты, а па вечарах — танцы ў любімым інтэрнаце па вуліцы Свярдлова.

Я — з баянам, а Лёня — з гітарай. Рыжы Лёня, такі мажны сімпатычны хлопец, і худзюшчая дзяўчына, здохля такая з доўгімі косамі, наварочвалі папулярныя мелодыі тых часоў, а сябры-студэнты танчылі ў фае інтэрната.

Мець музычныя інструменты пры тагачаснай беднасці не кожны мог, а яшчэ ды граць на іх... Карацей, нас з Лявонам паважалі, мы былі аўтарытэты.

І раптам... Падчас нашых танцаў хлопцы пад шумок вырашылі расправіцца са старшынёй прафкама. Ненавідзелі яго за тое, што ён даносіў на студэнтаў начальству (заўсёды такія былі стукачы), у выніку чаго студэнтаў выганялі з інтэрната.

Добра тады далі таму Кеду, а назаўтра мы з Лёнем атрымалі "запрашэнне" на візіт да рэктара ўніверсітэта Сеўчанкі. Дасталася мне за баян па поўнай.

Як цяпер помню, запрашае мяне сакратарка ў кабінет да рэктара. Я, вясковая дзяўчына, і кабінетаў такіх не бачыла. Вялізны, з чырвонай доўгай дарожкай, якая вядзе да здаравеннага стала, з-пад якога выглядвае нейкі маленькі чалавечак і так далікатна пальчыкам падзывае мяне бліжэй.

Размову помню слова ў слова.

— Ну што, — кажа, — хочаш на сваім баяне пайграць? Дык забірай яго і ў сваю вёску валі. Сядзь на гары ды іграй, хай каровы слухаюць.

Я ў слёзы, а на філфаку пачаўся сапраўдны шухер. Хто ж ім будзе ладзіць канцэрты, калі мяне і Дайнэкі не стане? Тэрмінова была накіравана група аўтарытэтных хадакоў да рэктара на перамовы.

Абышлося строгай вымовай. ◆

**«Пра беларускі музей Івана Луцкевіча ў Вільні чулі ўсе, а вось які ў яго быў інтэр'ер на пачатку XX стагоддзя?! А вось такі круты!»** — піша навуковец, спецыяліст у сферы этнаастраноміі **Цімафей Авілін** у сябе ў Фэйсбуку.






























**Два дні на месяц мы прадаём часопіс у Рэдакцыі (Мінск, Энгельса 34а). Сачыце за графікам продажаў на сайтах і ў тэлеграм-канале @historynn**

Па тэхнічных прычынах у Рэдакцыі часопіс прадаём толькі два дні на месяц, астатнія дні гэта не робіцца.

Шукайце часопіс таксама ў кнігарнях, гіпермаркетах, а таксама ў шапіках «Белдрука» Магілёўскай вобласці. Вось спіс кнігарань:

**Мінск**

Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45

«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)

«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз knihi.by, kniganosha.by, mmkut.by, halijafy.by, kniger.by

**Гродна**

«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).

**Віцебск**

«Светач» (вул. Кірава, 10)

**Бабруйск**

«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.